Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

ЛіМ Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 36 (4682) 7 верасня 2012 г.

Думка пісьменніка

## І слова наша адгукнецца...



Назаўсёды мінуў час, калі пісьменнікі жылі па формуле "пісьменнік пісаве, а чытач пачытвае". Пераканаўся ў гэтым сёлета, удзельнічаючы ў падрыхтоўцы і правядзенні мерапрыемстваў, прымеркаваных да Года кнігі. Шчыра радаваўся за паэтаў з розных куткоў Магілёўшчыны, якія выступалі са сваімі вершамі на сцэне падчас першага абласнога свята паэзіі і аўтарскай песні "Пісьмянкоў луг" на малой радзіме вядомага беларускага паэта Алеся Пісьмянкова ў вёсцы Бялынкавічы Касцюковіцкага раёна. Іх удзячнымі слухачамі былі як землякі, так і аматары паэзіі з суседніх рэгіёнаў Расіі. А на абласной кніжнай выстаўцы-кірмашы разам з іншымі членамі абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі каля стэнда з кнігамі нашых аўтараў сустрэўся з кіраўнікамі вобласці і меў магчымасць выказаць свае прапановы па паляпшэнні кнігавыдання ў Прыдняпроўскім краі. Так званая зваротная сувязь яскрава праявілася і ў той зацікаўленай размове з чытачамі, што адбылася на прэзентацыі гісторыка-краязнаўчай кнігі магілёўскага празаіка Міколы Барысенкі "1941-й: пылающие рубежи Днепра и Сожа". У працоўным калектыве рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства "Магілёўскі завод ліфтавага машынабудавання" на прэзентацыі кнігі нарысаў, якая прысвечана гэтаму перадавому прадпрыемству і над стварэннем якой плённа працавалі нашы пісьменнікі, прыемна было назіраць, як героі кнігі шчыра дзякавалі аўтарам і выказвалі парады часцей звяртацца да сучаснай тэматыкі. І трэба было бачыць, якая непадробная зацікаўленасць свяцілася на тварах маладых воінаў магілёўскага гарнізона, калі з імі сустрэўся пісьменніцкі дэсант з Мінска на чале з першым сакратаром праўлення нашага творчага саюза Генадзем Пашковым падчас святкавання 68-й гадавіны вызвалення Магілёва ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

Мудрыя кнігі, якія мы, пісьменнікі, нястомна прапагандуем сумесна з выдаўцамі, работнікамі культуры і адукацыі, дапамагаюць узняць планку духоўнасці і патрыятызму ў грамадстве і асабліва сярод моладзі. У кантэкст гэтай высакароднай справы арганічна ўплятаюцца традыцыйныя на Магілёўшчыне Міжнародныя Сіманаўскія чытанні. Паспрыяе гэтаму і падрыхтоўка да святкавання рэспубліканскага Дня беларускага пісьменства, што адбудзецца ў старажытным Быхаве. На гэтай зямлі быў створаны помнік беларускага летапісання пачатку XVII стагоддзя "Баркулабаўскі летапіс", нарадзіліся і працавалі многія вядомыя дзеячы культуры нашай краіны. Цудоўна, што літаратурна-мастацкія выданні заўсёды падрабязна расказваюць пра гісторыю і сённяшні дзень такіх знакамітых мясцін.

Уладзімір ДУКТАЎ

# Жыццё як творчасць

Алесь Адамовіч нарадзіўся 3 жніўня 1926 года (дата 3 верасня 1927 года — "пашпартная": маці, Ганна Мітрафанаўна, ратуючы сына ў вайну ад набору ў Нямеччыну, у метрыках "падмаладзіла" яго). Празаік, крытык, літаратуразнаўца, кінадраматург, публіцыст, грамадскі дзеяч, Алесь Адамовіч увайшоў у гісторыю беларускай літаратуры XX стагоддзя як аўтар твораў пра вайну з фашызмам і як змагар з пагрозай новай сусветнай вайны. Ён адносіцца да пакалення "шасцідзясятнікаў" і шмат зрабіў для таго, каб ідэалы гэтага пакалення ўвасобіліся ў жыццё.



Міхась ТЫЧЫНА,
фота Яўгена Коктыша

З часу, калі не стала Алеся Адамовіча (пісьменнік памёр 26 студзеня 1994 года), шмат што змянілася ў вялікім свеце. Сучасны чалавек больш цвяроза ацэньвае свой духоўны стан. Магчымасці, якія здаваліся бязмежнымі, як выявілася, аднолькава бязмежныя як для дабра, так і для зла.

Дык ці можа ў гэтых умовах мець цікавасць досвед чалавека, які цалкам належыць мінуламу стагоддзю? Нават такога эрудзіраванага, мудрага і праніклівага, якім быў Алесь Адамовіч? Ці, можа, маюць рацыю тыя, хто ўсур'ёз сцвярджае, што яго забылі? Як забылі многіх і многае. Забылі чалавека, які з'яўляецца аўтарам вобразнай формулы беларускага супраціву фашызму, калі ваявалі не толькі з дапамогай зброі, але і ратуючы параненых, гадуючы дзяцей, капаючы бульбу, і гэта была "Вайна пад стрэхамі". Які быў аўтарам "Хатынскай аповесці", рамана "Карнікі", аповесцей "Венера", "Нямко", "Апошняя пастараль", а таксама ініцыятарам стварэння такіх унікальных кніг, як кнігі-дакументы "Я з вогненнай вёскі...", "Блакадная кніга", кінасцэнарыстам (сумесна з Элемам Клімавым) фільма "Ідзі і глядзі".

Для звычайнага чалавека жыць у эпоху, якую называюць "эпохай войнаў і рэвалюцый", хваляў перабудоў, чарнобыльскай трагедыі, фінансавых крызісаў — бяда. Для чалавеказнаўцы (у адносінах да Адамовіча і — "чалавецтвазнаўцы"), удзельніка, сведкі і гісторыка катастроф, на якія багатае XX ст., — гэта магчымасць атрымаць адказ на пытанні: "Што такое чалавек?" і "Дык што ж мы можам?" Перад яго духоўным позіркам адкрываецца гіганцкі геалагічны разлом і ўсе пласты чалавечай натуры – ад глыбіняў "калектыўнага неўсвядомленага" і да тонкага гумусу агульначалавечай культуры. Застаецца толькі апісаць убачанае.

Але для гэтага трэба, па-першае, мець вочы Адамовіча, чалавека, які, здавалася, ведае ўсё пра нашу прыроду і бачыць кожнага наскрозь. Той, хто сустракаўся з ім, памятае яго пранізлівы, да самага донца душы, позірк, позірк пісьменніка, які глыбока вывучаў свет і людзей, быў надзвычай патрабавальным і нават жарсткаватым у сваіх ацэнках. І гэта пры яго выключнай спагадзе і зычлівасці, разуменні чалавечых слабасцей і ўменні дараваць, застаючыся пры ўсім тым бязлітасным да самога сябе. Гэта "яснасць бачання" (Альбер Камю) чалавечай сітуацыі — адна з асаблівасцей яго творчай асобы, якую дала беларусам наша зямля і наша гісторыя.

Па-другое, Алесь Адамовіч меў мужнасць усё "дадумваць да канца" (яго вызначэнне, якое стала назвай адной з яго шматлікіх крытычна-публіцыстычных кніг), "...про малое "се великое" млъвити" (словы, узятыя ім з "Слова пра паход Ігара"), калі размова ішла пра рэальнае ўсведамленне і ацэнку маштабаў найбуйнейшай тэхнагеннай катастрофы XX ст., якой стала чарнобыльская трагедыя, яе наступстваў для лёсу беларускай зямлі і нашай такой маленькай планеты. Пісьменнік умеў, "як уладу маючы" (калі выкарыстаць гэта евангельскае выказванне), з дапамогай вобразнага слова данесці да людзей праўду пра сённяшні дзень і не паддавацца хітрыкам схільнага да кампрамісаў звычайнага думання. Гэта быў позірк, розум і вопыт майстра слова і скальпель хірурга, які адразу вызначае хваробу (бацька Адамовіча быў падпалкоўнікам медыцынскай службы на вайне, маці — загадчыца аптэкі, а старэйшы брат — загадчык санаторыя ў Вяззі для хворых на косны туберкулёз, і сам Алесь Адамовіч збіраўся паступаць у медінстытут).

Алесь Адамовіч быў аўтарам своеасаблівага "Катэхізіса ядзернага стагоддзя", дзе падрабязна, абапіраючыся на веды і досвед савецкіх вучоных-атамшчыкаў, распісаў паводзіны нашага сучасніка ў праблемнай атамнай і экалагічнай сітуацыі. Акадэмік Яўген Веліхаў, аўтар прадмовы да пасмяротна выдадзенай кнігі А. Адамовіча "...І імя гэтай зоркі Чарнобыль", пісаў: "Сышоў Адамовіч, і ў свеце не стала чалавека, які гэтак жа, як ён, змагаўся б за нашу будучыню". Васіль Быкаў (у размове з аўтарам гэтага артыкула), маючы на ўвазе адсутнасць свайго калегі і сябра Алеся Адамовіча, сцішана сказаў, як праскардзіўся: "Няма з кім пагаварыць!.."

## Пункцірам

✔ Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка павіншаваў калектыў Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі з 90-годдзем з дня заснавання ўстановы. "Сёння бібліятэка з'яўляецца захавальніцай унікальнай калекцыі кніг і іншых дакументаў ад старадрукаваных выданняў да найноўшых электронных носьбітаў, найбуйнейшым інфармацыйным і сацыяльна-культурным цэнтрам краіны, вядучай навукова-даследчай і метадычнай установай у сферы бібліятэказнаўства і бібліяграфазнаўства", — сказана ў віншаванні.

✔ Кіраўнік дзяржавы Аляксандр Лукашэнка зацвердзіў рашэнне савета фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па падтрымцы культуры і мастацтва, у адпаведнасці з якім са сродкаў гэтага фонду выдаткаваны амаль мільярд беларускіх рублёў на рэалізацыю шэрагу сацыяльна значных творчых і культуралагічных праектаў.

✔ Дзяржаўных узнагарод Беларусі за дасягненні ў розных галінах удастоены 67 чалавек. Сярод іх — і дзеячы мастацтваў. Так, ордэнам Францыска Скарыны ўганараваны мастак-жывапісец Васіль Сумараў. Яшчэ тры чалавекі адзначаны медалямі Францыска Скарыны. Ганаровага звання "Заслужаны артыст Рэспублікі Беларусь" удастоены вядучы майстар сцэны Тэатра-студыі кінаакцёра Анатоль Кацянёў. Таксама падзяка аб'яўлена рэктару БДАМ Кацярыне Дулавай.

✔ Аб'яўлены Год кнігі на Беларусі быў прадстаўлены на Маскоўскай міжнароднай кніжнай ярмарцы-кірмашы. Пра акцыю гасцям выстаўкі паведаміла першы намеснік міністра інфармацыі Беларусі Лілія Ананіч, прэзентуючы стэнд "Кнігі Рэспублікі Беларусь". Сёлета беларускія выданні ўжо пабывалі ў Індыі, Кітаі, напярэдадні ўдзел у ярмарцы ў Германіі. Мяркуецца, што па выніках маскоўскай выстаўкі будуць падпісаныя адпаведныя пагадненні, і айчынныя кнігі з'явяцца ў маскоўскай кніжнай сетцы.

✔ Музей гісторыі Магілёва запрашае наведвальнікаў пазнаёміцца з новым экспанатам — Статутам Вялікага Княства Літоўскага, які ўжо назвалі галоўным набыткам гэтага года. Статут прадстаўлены ў экспазіцыі "Магілёў магдэбургскі". У бліжэйшы час на сайце музея будзе змешчана фотакопія рарытэта.

Падрыхтавала Таццяна МАСТОЎСКАЯ



# Доўгае рэха свята

Скажу шчыра: няўдзячная справа расказваць пра свята, яго дух, настрой гаспадароў і гасцей. На свяце трэба прысутнічаць. Але ж такі журналісцкі лёс…

**Уладзімір БАЦКАЛЕВІЧ, фота Кастуся Дробава**

Прыгожым сонечным вераснем Глыбокае праслаўлялася як сталіца Дня беларускага пісьменства. І гэта невыпадкова, таму што роднае слова ніколі тут не было ў заняпадзе. Галоўная асаблівасць свята — сквер ганаровых землякоў на плошчы 17 Верасня. Варта адзначыць, што ў Беларусі ўпершыню адначасова ўстаноўлена такая колькасць манументаў знаным айчынным дзеячам. Творы манументальнага мастацтва ўвекавечылі імёны, вядомыя ўсяму свету: Іосіф Корсак, Язэп Драздовіч, Ігнат Буйніцкі, Алесь Дубровіч, Павел Сухі, Вацлаў Ластоўскі, Элізэр Бен-Іегуда, Пётр Казлоў.

— Адкрыццё сквера знакамітых землякоў-глыбачан сведчыць, што беларусы памятаюць сваю гісторыю, цэняць уклад вялікіх людзей у развіццё краіны, — адзначыў старшыня Віцебскага аблвыканкама Аляксандр Косінец.

Цёплыя словы ў адрас гаспадароў свята выказала ўнучка легендарнага авіяканструктара П. Сухога Марыя Васкрасенская.

А днём раней, у суботу, на фасадзе цэнтральнай раённай бібліятэкі была ўрачыста адкрыта мемарыяльная дошка, прысвечаная пісьменніку і публіцысту Лявону Ракоўскаму.

Тут, у Глыбокім, у сям'і служачага ў 1895 годзе нарадзіўся Лявонцій Іосіфавіч, тут жа прайшлі дзіцячыя гады літаратара. Яшчэ ў юнацтве ён пачаў пісаць аповесці і вершы. І самыя першыя паэтычныя творы распавядаюць пра жыццё і ўзаемаадносіны жыхароў беларускага мястэчка. Памяць пра гэтага чалавека і яго творы дарагая глыбачанам, і менавіта таму хацелася, каб бібліятэка насіла імя пісьменніка.

— Праца па перайменаванні бібліятэкі пачалася даўно, — распавяла дырэктар Глыбоцкай цэнтралізаванай бібліятэчнай сістэмы Валянціна Спасібёнак. — Сабралі практычна ўвесь пакет дакументаў, але ўзнікла перашкода — мы не можам знайсці сваякоў пісьменніка, каб яны далі згоду. Так як літаратар усё жыццё пражыў у Ленінградзе, вельмі складана адшукаць яго родных. Нам дапамагала Святлана Шаршнёва, наша зямлячка, цяпер прафесар Санкт-Пецярбургскага ўніверсітэта, выкладае на кафедры навейшай гісторыі. Рабілі запыт у цэнтральны архіў літаратуры і мастацтва Санкт-Пецярбурга, звярталіся і ў Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь з просьбай аказаць нам дапамогу ў пошуку сваякоў пісьменніка, таму перайменаванне бібліятэкі трошкі адкладалася, але мы верым, што ўдасца давесці справу да канца, і да 600-годдзя горада бібліятэка будзе насіць імя Лявонція Ракоўскага.

Эпіцэнтрам свята стала цэнтральная плошча Глыбокага. 19-ы па ліку Фестываль роднага слова сабраў тысячы людзей. Вітаючы ад імя Прэзідэнта глыбачан і гасцей горада, Анатоль Тозік, намеснік прэм'ер-міністра, старшыня нацыянальнага арганізацыйнага камітэта па падрыхтоўцы і правядзенні Дня пісьменства, назваў кнігу крыніцай натхнення для многіх беларусаў. Міністр інфармацыі Алег Праляскоўскі дадаў: "Наша краіна застаецца адной з самых чытаючых — у сярэднім на кожнага жыхара выпускаецца па чатыры кнігі".



Уручэнне ўзнагарод за лепшыя творы года.

Цёплыя віншавальныя словы гучалі з вуснаў намесніка Дзяржсакратара Саюзнай дзяржавы Івана Бамбізы, архіепіскапа Барысаўскага Веніяміна, старшыні Саюза пісьменнікаў Беларусі Мікалая Чаргінца, міністра адукацыі Сяргея Маскевіча, намесніка міністра культуры Тадэуша Стружэцкага.

Па традыцыі на свяце пісьменства падводзяцца вынікі конкурсу на лепшы літаратурны твор года. Анатоль Тозік уручыў знакі-сімвалы "Залаты купідон" і дыпломы І ступені, многія літаратары атрымалі дыпломы ІІ і ІІІ ступеняў. Мікалай Чаргінец прапанаваў у наступным годзе ўвесці новую намінацыю — "Лепшы твор замежнага аўтара пра Беларусь".

Уручэнне ўзнагарод чаргавалася з выступленнямі артыстаў. Уладарамі святочнай сцэны сталі сімвалічныя тэатралізаваныя персанажы: кніга-рарытэт, сучасная беларуская кніга і электронная. Надзвычай хутка інфармацыйныя крыніцы розных часоў і розных пакаленняў знайшлі агульную мову на карысць чытача і зрабілі выснову: галоўнае — несці людзям дабро і быць запатрабаванымі.

Удзельнікамі Дня пісьменства сталі больш як 100 літаратараў з Беларусі, блізкага і далёкага замежжа. І, бадай, не было ніводнага буйнога СМІ і выдавецтва, якія б не прадставілі сябе на свяце. Шмат людзей па традыцыі прыйшло да стэндаў РВУ "Літаратура і Мастацтва" і газеты "Звязда". Наша выдавецтва да гэтай падзеі выпусціла дзве багата ілюстраваныя кнігі "Глыбочына. Зямля любімая навечна, дзе Доўгае і Беразвечча" і "Глыбокае: повязь часоў", якія годна былі прадстаўлены на прэзентацыі ў мясцовым гісторыка-этнаграфічным музеі. Дарэчы, тут можна было пабачыць старадрукаваныя кнігі, прывезеныя з віцебскай і полацкай кунсткамер. Рэдкія фаліянты не за шклом, а на адкрытых стэндах дэманстраваліся ў Троіцкім касцёле: тут прадстаўлена духоўная літаратура, выдадзеная ў Вільні, Рыме, Мінску.

Аднак фестываль кнігі і прэсы быў толькі невялікім элементам свята. Увесь горад на дзень ператварыўся ў скрыжаванне трактаў і падворкаў, дзе можна было знайсці акрамя кніжак яшчэ шмат чаго цікавага. На тракце "Ад агню да пяра" — пазнаёміцца з развіццём пісьменства ад старажытнасці да сучаснасці, убачыць архаічныя спосабы здабывання агню, пачуць старажытныя спевы, зазірнуць у майстэрню па перапісе кніг. На тракце нацыянальных культур прадставілі сваіх майстроў, танцы, песні і адметнасці кухні розныя дыяспары, якія жывуць на Глыбоччыне, а таксама госці з Літвы, Латвіі, Украіны, Расіі.

Заўважу: горад патанаў у кветках, песнях, музыцы. Свята роднага слова стала найгалоўнейшым фэстам традыцыйнай культуры. Яго эстафета перададзена на Магілёўшчыну, у старажытны Быхаў.

— Дзень беларускага пісьменства, — заўважыў міністр інфармацыі Алег Праляскоўскі, — за даволі кароткі тэрмін стаў ураччастацю агульнанацыянальнай, ён праводзіцца ў тых гістарычных і культурных цэнтрах, якія адыгрываюць найбольш адметную ролю ў жыцці краіны. У выніку мы не проста звяртаемся да гісторыі, перагортваючы надзвычай яскравыя яе старонкі, але і адраджаем самыя каштоўныя ў гэтым плане населеныя пункты, сапраўдныя цэнтры беларускай культуры і мастацтва, даем ім новы імпульс для далейшага развіцця.

Бывай, гасцінная Глыбоччына! Вітай, старажытны Быхаў!



Урачыстыя фрагменты шэсця.

# Нашай дружбе — мацнець!

**Уладзімір ЗАЛУЖНЫ**

У рамках Дня пісьменства адбылося ўручэнне прэмій Саюзнай дзяржавы за лепшыя творы ў галіне літаратуры і мастацтва. Дыпломамі "Саюзнае слова" ўзнагароджаны рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова "Літаратура і Мастацтва" і маскоўскі пісьменнік, кіраўнік федэральнай нацыянальна-культурнай аўтаноміі "Беларусы Расіі" Валерый Казакоў. Віншуючы намінантаў, намеснік Дзяржаўнага сакратара — член Пастаяннага камітэта Саюзнай дзяржавы Іван Бамбіза адзначыў, што вырашаць значныя па сваіх маштабах сацыяльна-эканамічныя задачы нашых дзяржаў можна, толькі аб'яднаўшы інтэлектуальныя рэсурсы.

Валерый Казакоў — сакратар праўлення Саюза пісьменнікаў Расіі, член Саюза пісьменнікаў Беларусі, аўтар паэтычнага зборніка "Философия звука", кніг публіцыстыкі і прозы "Разбитое зеркало Карабаха", "Асфальт и тени", "Саморазрушение", у якіх узнімаюцца праблемы ўзаемаадносін народаў былога Савецкага Саюза.

Калектывам РВУ "Літаратура і Мастацтва" нямала зроблена для ўмацавання дружбы паміж народамі Беларусі і Расіі, пра што сведчаць дзясяткі назваў кніг пісьменнікаў брацкай краіны, якія падрыхтавала выдавецтва. Яно мае творчыя стасункі з многімі літаратарамі, ладзіць сустрэчы і прэзентацыі.

Узнагароду прыняў першы намеснік дырэктара РВУ, галоўны рэдактар часопіса "Нёман" Алесь Бадак.



## Літабсягі

# Справа завершана!

РВУ "Літаратура і Мастацтва" завяршыла выданне зборніка дакументаў і матэрыялаў "Купала і Колас, вы нас гадавалі" (у дзвюх кнігах, другая кніга выйшла ў дзвюх частках).

**Васіль СНУСЦІК**

Укладальнікі гэтага надзвычай патрэбнага для айчыннага літаратуразнаўства выдання — Вячаслаў Селяменеў і Віталь Скалабан. Галоўны рэдактар — Міхась Мушынскі. Генератары праекта — Дэпартамент па архівах і справаводстве Міністэрства юстыцыі Рэспублікі Беларусь, Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь, Федэральнае архіўнае агенцтва Расіі, Расійскі дзяржаўны архіў літаратуры і мастацтва, Дзяржаўны архіў Расійскай Федэрацыі. У падрыхтоўцы зборніка ўдзельнічалі (нельга не пералічыць гэтых апантаных людзей, кожны з якіх разумеў, да якой важкай працы спрычыніўся): Я. Блажэй, І. Валахановіч, В. Гарбачова, А. Гарон, А. Гесь, Н. Дзянісава, Т. Дубаўцова, Д. Жыгалаў, Н. Каленік, Т. Кекелева, Я. Луначарскі, В. Мацюсь, І. Міклашэвіч, В. Міцкевіч, М. Міцкевіч, Л. Рагавая, М. Тумаш, М. Чабатарэвіч, І. Шышонак.

Але асобна яшчэ раз хацелася б сказаць пра выключную ролю ў гэтым праекце Віталя Скалабана, Архівіста і Гісторыка з вялікай літары. Даследчык асабіста прыклаў шмат намаганняў, каб кніга пабачыла свет. Задумвалася яна і пачынала рабіцца далёка ад 130-годдзя народных песняроў Беларусі. А вось сімвалічна, што завершана выданне ў юбілейны год. Пад адной вокладкай — дакументы з архіўных і музейных сховішчаў.




Многія старонкі зборніка, на якіх добра відаць адбітак драматычных момантаў у жыцці класікаў, чытаюцца як цікавыя мастацкія творы. Ды толькі разумееш, што нічога на тых старонках не прыдумана, а адлюстроўваюць яны пакуты сэрца і душы Янкі Купалы і Якуба Коласа.

"Купала і Колас, вы нас гадавалі" — з тых кніг, што развіваюць свядомасць, нагадваюць пра розныя часы, падштурхоўваюць да многіх развагаў.

## Арт-лінія

# Усе фарбы... календара

На вялікіх калектыўных вернісажах ля карцін Алеся Сушы заўсёды людна: яго жывапіс прываблівае цеплынёй каларыту, багаццем паўтонаў, тонкім зместам, пазітыўным духам. Свет яго твораў поўніцца непаўторнымі жаночымі вобразамі, кранальнымі матывамі дзяцінства, уражаннямі ад беларускай прыроды, жыццё якой зачароўвае мастака ў кожную паравіну года, ва ўсялякі час дня і незалежна ад надвор'я.

**Лана ІВАНОВА**

Багаццем вобразнага мыслення і, безумоўна, майстэрствам пейзажыста захапіў ён шматлікіх наведвальнікаў сваёй персанальнай выстаўкі ў Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва, якая сталася заўважнай падзеяй сталічнага арт-жыцця.

Ужо амаль чвэрць стагоддзя Алесь Суша ўдзельнічае ў выстаўках, і не толькі рэспубліканскіх. Калісьці яго творчасць была прадстаўлена ў Берліне на вернісажы маладых мастакоў, і з таго часу работы беларускага жывапісца неаднойчы экспанаваліся ў Польшчы (Варшава, Гданьск, Сопат), у Расіі (Масква), удзельнічалі ў групавых замежных творчых праектах у Брусэлі, Вене, Зальцбургу, Парыжы, а персанальныя выстаўкі ладзіліся ў Брно, Празе і расійскай сталіцы. Сем гадоў таму Алесь Суша стаў удзельнікам прэстыжнага аўкцыёна Крысці ў Лондане. Пра паспяховасць мастака сведчыць і лёс карцін: яны ёсць у Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва ў Мінску, фондах Беларускага саюза мастакоў, музеях Брэста, Магілёва, Мазыра, Пінска, у зборах айчынных і замежных калекцыянераў.

Адметна раскрылася яго індывідуальнасць і праз манументальную калектыўную працу над цыклам мазаік для мемарыяльнай капліцы, узведзенай у гонар абраза "Знаменне (Адзнака) Прасвятой Багародзіцы" на месцы Мінскіх брацкіх могілак 1914 — 1918 гадоў. Як вядома, за гэту работу А. Суша разам са сваімі калегамі-суаўтарамі В. Чайкам і С. Бышнёвым быў адзначаны прэміяй Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь "За духоўнае адраджэнне" па выніках 2011 года.


*Жывапіснае палатно Алеся Сушы "Кастусь на эцюдах" (2010).*

Яшчэ летась, атрымаўшы стыпендыю Міністэрства культуры на новы праект, мастак пачаў рыхтаваць персанальную выстаўку станковых работ, што сталася своеасаблівым падсумаваннем яго творчага пяцігоддзя (дарэчы, праз год у майстра — "залаты" юбілей). Яго работам, дамінантай якіх прагучаў вобраз Радзімы, адвялі самую вялікую залу. І нібы сама сабой нарадзілася назва праекта: "Яблычны Спас". У ёй не толькі пазнака пэўнага каляндарнага перыяду, але і глыбінны метафарычны сэнс, які сімвалізуе і ментальную повязь сучаснага творцы з культурай продкаў, і нагоду для роздуму, для асэнсавання чарговага пройдзенага "жыццёвага кругу". Атрымаўшы магчымасць скарыстацца значнай плошчай музея, аўтар вырашыў паказаць свае работы шырэй, зрабіць выстаўку ў пэўным сэнсе выніковую, бо Спас — гэта час збіраць творчы ўраджай і рабіць абагульненні.

## Повязі

# Рухавік прагрэсу

Урачыстае закрыццё моладзевай кінашколы-конкурсу, выкладчыкамі якой былі Аляксандр Сакураў, Павел Фін, Андрэй Курэйчык, Ала Бабкова і іншыя кінамайстры Беларусі, Расіі, ЗША, адбылося ў мінскім кінатэатры "Камсамолец" напрыканцы жніўня.

**Вольга ПАЎЛЮЧЭНКА**

Увазе гледачоў былі прапанаваны чатыры кароткаметражныя фільмы-фіналісты, у якіх увасобіліся лепшыя ідэі маладых рэжысёраў. Яны былі заўважаны, распрацаваны і зняты на базе кінашколы, арганізаванай "Цэнтрам тэатральных ініцыятыў" пры падтрымцы кінастудыі "Беларусьфільм", Цэнтра беларускай драматургіі і пасольства ЗША ў Рэспубліцы Беларусь.

Рэжысёр, кінакрытык Ала Бабкова зазначыла: "Важнасць гэтага праекта ў тым, што больш як 500 чалавек — моладзь, якая хацела далучыцца да кіно, — атрымалі вельмі добрую порцыю ведаў па кінамастацтве і ягоасобных кампанентах. Ужо гэтым кінапраект апраўдаў сябе. Яго паспяховасць і ў тым, што ў ім удзельнічалі прафесіяналы трох пакаленняў. На адкрыцці быў Аляксандр Сакураў. Звычайна Аляксандр Мікалаевіч адмаўляецца ад усіх запрашэнняў, а для нас зрабіў выключэнне. Ён чытаў работы, рабіў заўвагі, нешта раіў. Я думаю, што яго парадамі скарысталіся. Андрэй Курэйчык вёў сцэнарную справу. Я і сама ў яго вучылася".

Часовы павераны ў справах ЗША ў Рэспубліцы Беларусь Ітан Голдрыч адзначыў: "Я задаволены, што пасольства ЗША знайшло магчымасць падтрымаць ідэю правядзення кінашколы. Творчасць моладзі — рухавік прагрэсу ў любой сферы жыцця, а тым больш у мастацтве. І для мяне вялікі гонар уручыць дыпломы і прызы пераможцам". Спадар Голдрыч выказаў спадзяванне, што набытыя веды дапамогуць моладзі ў прафесійным росце.

Паколькі ўстаноўка была зроблена на крэатыўнасць, пераможцаў конкурсу вызначылі толькі пасля прагляду разам з гледачамі. Першае месца атрымала стужка "В траве сидел кузнечик" (рэжысёр Алена Алексане), прыз глядацкіх сімпатый (падлік галасоў праходзіў тут жа) — "Вандроўнік не вернецца" Алеся Лапо. (Вельмі прыемна, што моладзі важна меркаванне тых, для каго кіно здымаюць.) Апладысменты глядзельнай залы атрымалі "Механизм" (рэжысёр Аляксандр Шупянько), "Фанатка" (рэжысёр Яўген Ісачанка).

На закрыцці кінашколы гледачы не толькі паспелі пазнаёміцца з фіналістамі, прыняць удзел у цырымоніі ўручэння ўзнагарод яшчэ дванаццаці слухачам, але і ўбачыць дзве стужкі Алесі Пагарэлавай "Песочница" і Максіма Багдановіча "Переход", знятыя маладымі рэжысёрамі за ўласны кошт. Выпускнікі агучылі прапанову, каб усе, у каго ёсць цікавыя ідэі для будучых стужак, звярталіся з імі на сайт кінашколы.


*Падчас здымак стужкі Алены Алексане "В траве сидел кузнечик".*

## 3-пад пяра

➤ У Дзень горада — 8 верасня — на плошчы Свабоды, 15 адбудзецца ўрачыстае адкрыццё галерэі народнага мастака СССР і БССР, героя Беларусі Міхаіла Савіцкага. Стварэнне мастацкай галерэі прысвечана 90-годдзю выбітнага творцы. І калі ў маі была адкрытая толькі адна яе частка, якая ўключае былую гарадскую сядзібу XVIII стагоддзя, то ў Дзень горада пачне функцыянаваць і сучасная прыбудова. Тут можна будзе ўбачыць працы з такіх мастацкіх цыклаў Савіцкага, як "Лічбы на сэрцы" і "Чорная быль". Частку выставачнай прасторы зоймуць зменныя экспазіцыі. Так, у Дзень горада беларускія мастакі прадставяць работы, прысвечаныя Мінску. У галерэі таксама адбудзецца святочная імпрэза "Гістарычна-музычныя замалёўкі".

➤ У скверы імя Янкі Купалы пройдзе свята "Песняры роднага краю", прысвечанае 130-годдзю паэтаў Янкі Купалы і Якуба Коласа, таксама прымеркаванае да Дня горада Мінска. Падчас свята адбудзецца канцэрт, у якім возьмуць удзел хор імя Цітовіча, Алена Ланская, Ірына Дарафеева і інш. Таксама ў скверы будзе зладжана літаратурная акцыя "Чытай, Мінск! 2012 — Год кнігі": сталічныя бібліятэкі прадставяць кнігі, прысвечаныя Янку Купалу і Якубу Коласу, а таксама зборы твораў пісьменнікаў. Свята пачнецца а 12 гадзіне дня і будзе доўжыцца да 19.00.

У той жа час Дзяржаўны літаратурны музей імя Янкі Купалы прапануе мінчанам і гасцям сталіцы займальную экскурсію з 3D-праглядам. Першыя пяць наведвальнікаў атрымаюць прыемны падарунак — памятны дыплом з фотаздымкам. Для астатніх паслуга платная.

➤ Дзяржаўны літаратурнамемарыяльны музей Якуба Коласа запрашае прыняць удзел у святочнай праграме "Наш Мінск старадаўны!" У яе межах пройдзе тэматычная экскурсія "Мінскі перыяд жыцця і творчасці Якуба Коласа", выстаўка з фондавых калекцый музея "І ты закрасуеш, наш Мінск старадаўны!" і сустрэча з малодшым сынам паэта М. Міцкевічам. Акрамя таго, наведвальнікі атрымаюць шанец запісаць свае запаветныя жаданні чарнільным пяром Якуба Коласа. Пачатак праграмы — а 10-й гадзіне.

➤ 8 верасня ў Верхнім горадзе на пляцоўцы каля Кафедральнага сабора пройдзе дзіцячы творчы пленэр. Ён стане новай падзеяй у межах праекта "Мастак і горад", прысвечанага святкаванню 125-годдзя з дня нараджэння Марка Шагала. Вучні мастацкіх школ Мінска збяруцца ў гістарычным цэнтры сталіцы і створаць дзясяткі карцін на тэму "Мастак і горад". Спецыяльныя госці дзіцячага пленэру — вучні першай артшколы Forex club — выхаванцы трох дзіцячых дамоў Мінска і Мінскай вобласці. Усяго ў пленэры возьмуць удзел больш як 120 дзяцей.

➤ У Палацы мастацтваў праходзіць Рэспубліканская мастацкая выстаўка "Ад Менска да Мінска", прысвечаная 945-годдзю сталіцы. Усяго экспануецца больш як 100 твораў жывапісу, графікі, скульптуры, дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва. Сярод аўтараў як майстры — Гаўрыла Вашчанка, Леанід Шчамялёў, Анатоль Бараноўскі, так і прадстаўнікі маладога пакалення.

**Анастасія ГРЫШЧУК**

"Круглы стол"

# Выйсці за межы

1 верасня ў Глыбокім адбыўся міжнародны "круглы стол" "Пісьменнік. Кніга. Час", на якім пра сучасны стан пісьменства і кнігадрукавання разважалі замежныя госці і галоўныя рэдактары рэспубліканскіх літаратурных выданняў. "ЛіМ" знаёміць вас з самымі цікавымі момантамі гэтай гутаркі. Бо, насамрэч, імпрэза зусім не нагадвала навуковы дыспут — яе ўдзельнікі па-сяброўску шчыра дзяліліся тым, што турбуе, меркавалі, як актуалізаваць пісьменніцкую працу ў кантэксце сучаснага свету.



Паэт Чынгіз Аліаглы падарыў Лілії Ананіч кнігу азербайджанскіх народных казак.

**Раіса СІНЯЎСКАЯ, фота Кастуся Дробава**

Напачатку слова ўзяла першы намеснік міністра інфармацыі **Лілія Ананіч**:

— Указам Прэзідэнта Беларусі 2012 год аб'яўлены ў нашай краіне Годам кнігі. Здавалася б, гэта ўсяго толькі працэдура, але як роля кнігі, пісьменніка, слова ўзвысілася, якая высокая адказнасць з'явілася ва ўсіх структур, што займаюцца выпускам і прапагандай літаратуры! Нам хацелася б, каб вы адчулі нашу захопленасць і падзяліліся з намі гэтымі днямі святлом высокай літаратурнай творчасці, якое заўжды спрыяла ўмацаванню сяброўства паміж нашымі народамі і ўзаемаўзбагачэнню нацыянальных культур.

*Лілія Станіславаўна распавяла пра працу над праектамі Міністэрства інфармацыі, якія будуць садзейнічаць далейшаму развіццю выдавецкай справы і літаратурнага працэсу ў краіне, пра дасягненні ў гэтай галіне, падзялілася планамі і выказала спадзяванне, што вынікам сустрэчы стане як мага больш новых творчых праектаў, а таксама ўручыла падзякі пастаянным удзельнікам "круглага стала" ад міністра інфармацыі Рэспублікі Беларусь: таджыкскаму пісьменніку Ато Хамдаму і беларускаму перакладчыку Івану Чароту.*

Галоўны рэдактар газеты "Звязда", пісьменнік і краязнаўца **Алесь Карлюкевіч** сем гадоў таму стаў ініцыятарам падобных сустрэч за "круглым сталом":

— Інтэрнацыянальныя сувязі беларускай літаратуры маюць багатую гісторыю. Але ў пэўны час з'явілася мяжа, якая не дазваляла сустрэцца аўтарам і перакладчыкам, якая перашкаджала заключаць дамовы паміж выдавецтвамі цяпер ужо розных дзяржаў. І тут нельга не адзначыць ініцыятывы Міністэрства інфармацыі, якое заўжды знаходзіла актуальныя тэмы для рэалізацыі сумесных праектаў кніжнага плану не толькі ў выдавецтве "Літаратура і Мастацтва", але і ў "Мастацкай літаратуры", у выдавецтвах "Беларуская Энцыклапедыя імя П. Броўкі", "Беларусь" ды іншых, дзякуючы якім пашыралася прадстаўленне літаратур іншых краін на беларускай зямлі. На прыкладзе працы Івана Чароты па выданні анталогіі беларускай паэзіі ў Сербіі можна пабачыць, наколькі важны ў гэтай справе фактар асобы. Хачу адзначыць таксама праект "Сусветная літаратура" ў часопісе "Нёман", а таксама кнігу "Лучнасць" і амаль завершаную анталогію "Сто кітайскіх паэтаў", падрыхтаваную галоўным рэдактарам часопіса "Полымя" Міколам Мятліцкім. У нас ёсць прастора і магчымасці для падобных праектаў, упэўнены, іх хопіць на доўгія гады.



*Акрамя таго, Алесь Мікалаевіч павіншаваў Валерыя Казакова і Слабадана Вуканавіча, кнігі якіх пабачылі свет зусім нядаўна ў РВУ "Літаратура і Мастацтва", і заўважыў, што ўдзельнікі "круглага стала" пасябравалі, наладзілі творчыя сувязі і завітваюць у нашу краіну не толькі на Свята пісьменства.*



**Аляксандр Казінцаў**, публіцыст, сакратар Саюза пісьменнікаў Расіі, намеснік галоўнага рэдактара часопіса "Наш современник":

— Якая прыгожая, разумная ваша зямля. Ехаць па ёй — асалода, як і слухаць беларускую мову. Я мушу адзначыць, што супрацоўніцтва Беларусі і Расіі нашмат старэйшае за Свята беларускага пісьменства. Яго пачаў тысячу год таму Кірыла Тураўскі, працягваў Сімяон Полацкі. Гэтыя людзі завяшчалі нам адзінства нашых культур — і мы робім усё, каб гэта адзінства ўмацоўвалася. Кожны год у № 12 часопіса "Наш современник" мы друкуем 20—25 беларусаў: ад Прэзідэнта і міністра інфармацыі да тых, хто сядзіць цяпер за гэтым "круглым сталом", — за ўвесь час назбіралася каля 70 чалавек, прычым беларускія публікацыі ёсць і ў іншых нумарах часопіса. Гэтым разам, прыехаўшы ў Мінск, я атрымаў у падарунак некалькі нумароў часопіса "Нёман" — і ў адным з іх знайшоў падборку вершаў з Саудаўскай Аравіі. Я адчуў, што ў мяне, як у чытача, акрамя цікавасці эстэтычнай, ёсць і чалавечы інтарэс: як яны там жывуць. Вы, беларусы, побач, але застаецца экзістэнцыяльны чалавек — з яго думкамі і памкненнямі. Мы прадстаўляем чытачу жыццё беларусаў, унікальнае, як і любое жыццё. Беларуская літаратура вельмі ярка і таленавіта гаворыць са светам, а часопіс "Наш современник" імкнецца, каб яе голас пачула ўся Расія.



На пытанне "Як і што пісаць?" паспрабаваў адказаць пісьменнік, сакратар Праўлення Саюза пісьменнікаў Расіі, старшыня Федэральнай нацыянальна-культурнай аўтаноміі "Беларусы Расіі" **Валерый Казакоў**:

— Літаратура і жыццё — вечныя. Дзякуй Богу, што ёсць пісьменнікі і чытачы. Раней у метро чыталі сур'ёзную літаратуру, сёння — больш лёгкае чытво. Але беларускіх аўтараў у нас ведаюць. Я рады, што мне адкрылі такую аўтарку, як Алена Брава. Яе апублікавалі ў часопісе "Сибирские огни", яна ўвайшла ў шорт-ліст прэміі "Ясная Паляна". Калі ў чалавека ёсць душа, ён напіша тое, што варта чытаць. Тут, да прыкладу, знаходзяцца прадстаўнікі Сербіі, Чарнагорыі — яны заўжды знаходзіліся на пярэднім краі славянскай літаратуры. Добра, што ёсць людзі, ад якіх адчуваецца аддача. А вы ведаеце, што ў Расіі пісьменнік не з'яўляецца рабочай прафесіяй, і чалавек, які ўсё жыццё пісаў кнігі, выходзіць на пенсію без працоўнага стажу?! Таму не дзіўна, што маімі героямі з'яўляюцца сволачы, якія сядзяць па кабінетах па ўсім свеце.

Дарэчы, запаснікі буйных расійскіх музеяў "забітыя" скарбамі беларускай даўніны, а ў Беларусі няма нават свайго слуцкага пояса! Таму я рады, што спрычыніўся да вяртання арыгінала Статута ВКЛ у мой родны Магілёў, цяпер мы працуем над стварэннем мемарыяльных дошак Купалу і Коласу ў Маскве і збіраемся ўсталяваць помнік асветніку Сімяону Полацкаму. Якой моваю мы б ні размаўлялі, мы зразумеем адзін аднаго!

Старшыня Міждзяржаўнага савета СНД па кнігавыданні, азербайджанскі паэт **Чынгіз Аліаглы**:

— Беларуская літаратура ў нас у Азербайджане вельмі вядомая. Нягледзячы на тое, што па адукацыі інжынер, я маю вялізную бібліятэку і лічу, што найлепшыя творы беларускай літаратуры мелі ўплыў на маё фарміраванне як чалавека. Янка Купала, Якуб Колас, Пятрусь Броўка, Максім Танк, Васіль Быкаў — мой любімы пісьменнік — усе яны садзейнічалі таму, каб я, на той час пачынаючы літаратар, меў правільныя арыенціры ў фарміраванні літаратурнага светапогляду. Нам, азербайджанскім выдаўцам, заўжды было чаму павучыцца ў вашых — яшчэ з савецкіх часоў. А пасля таго, як завязвалі свой суверэнітэт, мы атрымалі адчувальны імпульс і маем магчымасць часцей сустракаць сяброў з Беларусі. Спадзяюся, што беларускія выдаўцы прымуць удзел у наступнай кніжнай выстаўцы ў Баку.



Пра ўплыў інфармацыйных тэхналогій на развіццё кнігавыдання разважаў чарнагорскі паэт, драматург **Слабадан Вуканавіч**:

— У нас на пачатку XXI стагоддзя было актуальным пытанне: куды ідзе кніга і інфармацыйныя тэхналогіі. Раней тэхналогіі захоўваліся на стагоддзі, а сёння працэс ідзе хутчэй — і маладыя да яго прыстасоўваюцца найлепш. Гэта тое самае, як нехта бяжыць, а нехта ледзь рухаецца. Так што ў новага пакалення творцаў з'явіліся новыя магчымасці. Вялікі шлях пройдзены ад фантастыкі да рэальнасці. Сучасныя тэхналогіі маглі б напалохаць людзей мінулага. Пры капіталізме — суровае правіла: кніга — гэта тавар. Пісьменнікаў выпускаюць на арэну, нібы гладыятараў, і чакаюць, хто выжыве: колькі прадасі, столькі атрымаеш. А тое, што рынак невялікі і тыражы малыя, а выдаткі вялізныя, вымушае пісьменніка губляць вельмі шмат. У нас камп'ютараў чытаюць мала, а калі і чытаюць, то ў скарочаным выглядзе. Пісьменнікі мусяцьператварыцца ў гандляроў, калі хочуць выжыць там, дзе замест кнігарняў — буцікі... Усе атрымліваюць за сваю працу, а праца пісьменніка ўспрымаецца як хобі. Аднак я ўпэўнены, што творчая асоба — найперш пазітыўная, а значыць, усе мы спадзяемся на лепшае.

Адна з самых чытаемых пісьменніц Сербіі **Ліліяна Хаб'янавіч-Джуровіч** у сваёй прамове падкрэсліла, што сучасным героем мастацтва не можа быць хто заўгодна:



— Мы жывем у той час, калі сілы дабра і зла змагаюцца за чалавека. І робіцца гэта, натуральна, з дапамогай літаратуры, якая стала магутным сродкам барацьбы. З'яўляюцца тыя, хто ў кнізе бачыць толькі спажывецкі прадукт. Але нельга так: героем павінна быць асоба, вартая таго. Я пішу пра моцных жанчын, якія могуць стаць прыкладам для іншых: шчырых, мужных, самаахвярных. Думаю, што як у свой час друкарскі станок спрыяў распаўсюджванню асветы, так сёння сучасныя тэхналогіі паспрыяюць развіццю літаратуры і набліжэнню яе да чытача.

На сустрэчы творцаў не абышлося без вершаў у выкананні пісьменніка з Таджыкістана, журналіста, драматурга і галоўнага рэдактара выдавецтва "ЭР-граф", члена Саюза пісьменнікаў Беларусі **Ато Хамдама**. Творца таксама выказаўся на тэму сучаснага героя:

— Гэта праблема вельмі важная для Таджыкістана. У працэсе барацьбы за незалежнасць і звязаных з ёй узрушэнняў у творчасці таджыкскіх пісьменнікаў з'явілася новая вялікая плынь — гістарычная. Яе героі — барацьбіты за свабоду народа, стваральнікі і патрыёты.

Пісьменнік — сын свайго часу, і мастацкае слова ніколі не павінна пакідаць старонак кніг, часопісаў, газет. Няхай сёння мы працуем на свабодны рынак, мы не можам здраджваць свайму чытачу, а мусім абуджаць яго нацыянальную свядомасць і ўзнімаць на больш высокі інтэлектуальны ўзровень.



*Беларускія перакладчыкі вызначылі, на што найперш варта звярнуць увагу ў нацыянальных літаратурах. Сапраўды, падобныя сустрэчы дапамагаюць наладжванню сяброўскіх стасункаў паміж творцамі розных краін, а значыць, нашу літаратуру будуць ведаць далёка за межамі Беларусі!*

# На радзіме паэта

## *Да 100-годдзя Максіма Танка*

Каб аддаць даніну памяці славутаму беларусу, майстру слова і амаль земляку, група сяброў пастаўскай раённай арганізацыі Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны здзейсніла двухдзённую вандроўку па Мядзельшчыне, наведаўшы мясціны, звязаныя з жыццём і дзейнасцю творцы.



*Родная сядзіба паэта.*

**Ігар ПРАКАПОВІЧ**

У паездку выправіліся людзі розных прафесій і ўзросту: настаўніца англійскай мовы Наталля Пракаповіч, бібліятэкар Пастаўскай дзіцячай бібліятэкі Людміла Сяменас, навуковы супрацоўнік Пастаўскага краязнаўчага музея Вадзім Шышко, настаўнік гісторыі Гуцкай школы Мікалай Арэх, аператар Пастаўскага мэблевага цэнтра Андрэй Маляўка, студэнтка Пражскага ўніверсітэта Вольга Пракаповіч, вучаніца Пастаўскай гімназіі Віялета Сяменас, а таксама пісьменнік, паэт-гумарыст з Мінска Янусь Малец і я, аўтар гэтых радкоў.





*Шыльда на хаце.*

Маршрут пралягаў праз Вярэнькі, Чэхі, Кабыльнік, Мядзел, Пількаўшчыну, Сваткі, Брусы. У Вярэньках мы наведалі аграсядзібу вядомага пастаўскага краязнаўцы і выдаўца Міхаіла Гіля, па якой сам гаспадар правёў невялічкую экскурсію. У Чэхах падарожнікаў чакала сустрэча з мастаком Алесем Цыркуновым, які вядомы не толькі сваімі мастацкімі творамі, але і нястомнай дзейнасцю па адраджэнні гістарычнай памяці і развіцці беларускай культуры. Менавіта дзякуючы яму на Пастаўшчыне ў вёсцы Каралінова ўзведзены адметны помнік на магіле паўстанца Фларыяна Даноўскага, у вёсцы Радута ўсталявана "каплічная брама", пры ўездзе ў Чэхі пастаўлены значны па сваіх памерах і мастацкім выкананні крыж да 2000-годдзя хрысціянства. Да таго ж, Алесь — вельмі цікавы апавядальнік. Шмат новага даведаліся вандроўнікі падчас сустрэчы з мастаком і пра жывапіс, і пра творчасць, і пра краязнаўчыя росшукі, і пра агародніцтва з пчалярствам.

Наступным аб'ектам на шляху было мястэчка Кабыльнік — цяпер вёска Нарач. Там на мясцовых могілках агледзелі мемарыял загінуўшым у часы Першай сусветнай вайны і касцёл Андрэя Апостала, каля якога знаходзіцца скульптура Папы рымскага Іаана Паўла ІІ і памятны знак жаўнерам атрада "Кміціц" Арміі Краёвай, якія загінулі ў час Другой сусветнай вайны.

Далей шлях пралягаў каля вялікіх беларускіх азёр Нарач, Мястра, Баторына. Краявіды, што адкрываліся позірку, давалі падставы зноў і зноў захапляцца цудоўнай прыродай нашага краю. Невялікі прыпынак зрабілі перад горадам Мядзел, каб набраць гаючай вады з Віктосевай крынічкі.

У другой палове дня дабраліся да вёскі Пількаўшчына. Ва ўсіх даведніках яна падаецца як радзіма Максіма Танка, але на самай справе яго родны дом знаходзіцца за тры кіламетры — на хутары пасярод лесу. Напэўна, давялося б паблукаць, шукаючы паэтаву хату, але мясцовы хлапчук падказаў дарогу.

На хутары стаяць дзве жылыя хаты — "старая" і "новая" — і гаспадарчыя пабудовы. Вось у старой і нарадзіўся Яўген Скурко, які потым стаў вядомы пад псеўданімам Максім Танк. Пра гэта сведчыць адноўленая шыльда на сцяне хаты. Унутры захаваўся інтэр'ер тыповага беларускага жытла з печкай, драўляным ложкам, этажэркай з кнігамі, даматканымі дыванкамі. На сцяне — вядомы партрэт Максіма Танка разам з матуляй. Прыгадваючы ўспаміны паэта з яго "Лісткоў календара", у якіх ён апісвае побыт у бацькоў, з цяжкасцю ўяўляеш, як у адным параўнальна невялікім пакоі магла жыць уся вялікая сям'я і як маглі складацца вершы…

Вядома, што Максім Танк пажадаў, каб яго пахавалі на радзіме. Вясковыя могілкі знаходзяцца не ў Пількаўшчыне, а ў суседняй вёсцы Новікі, і здалёк прыцягваюць увагу двума высокімі чорнымі крыжамі, што пастаўлены на магіле паэта. Побач — магілы іншых прадстаўнікоў роду Скурко. Адметныя могілкі яшчэ і тым, што тут захавалася шмат пахаванняў, на якіх замест крыжоў ляжаць валуны.

На наступны дзень наведалі Мядзельскую цэнтральную бібліятэку, дзе мелі магчымасць упэўніцца, што яна нездарма лічыцца адной з лепшых бібліятэк Міншчыны. Тут шмат матэрыялаў пра пісьменнікаў-землякоў і знакамітых асоб краю, выдатнае абслугоўванне, дасведчаныя спецыялісты. Да юбілею народнага паэта ў бібліятэцы падрыхтавана некалькі выставак з матэрыяламі пра жыццёвы і творчы шлях песняра, яго кнігамі. Мы атрымалі запрашэнне наведаць Мядзел 17 верасня — у гэты дзень адбудуцца вялікія мерапрыемствы па ўшанаванні памяці Максіма Танка. Запрашаем і чытачоў "ЛіМа" ў гэты дзень на свята ў Мядзел.



*Крыж у Чэхах работы Алеся Цыркунова.*

# І ў Афрыцы смяюцца!

**Наталля КУЛЬГАВАЯ**

Вось дык "Вожык"! Не ведае ні сну, ні адпачынку! Няма калі яму грэцца пад апошнімі промнямі сонца, трэба рыхтавацца да хуткіх халадоў. А пакуль "Вожык" тупаў, назбіраў новых, цікавых твораў для жнівеньскага нумара, якія каго развесяляць, а каго і ўколюць добра.

Як, напрыклад, фельетон Антося Гарчыцы, які высвятляў, як віцебскія "бытавікоў" быт "заеў".

"Вожык" вастрыў калючкі для "Іголкатэрапіі": пакрытыкаваў падпольную "школу магаў", якая дзейнічала ў Кобрынскім райвыканкаме, згадаў Заблоцкага, які пагарэў на мыле, і гару, якая нарадзіла мыш. Таксама прапанаваў чытачам наматаць на вус навіны з МУС, даведацца, чаму не трэба засцерагаць свайго мужа ад бутэлькі і хто такі Ружанскі Эйфель, а ў рубрыцы "Вяртаючыся да надрукаванага" зноў узняў пытанне пра тое, якая рэклама мае права дэманстравацца ў сталічным метрапалітэне і дзе павінна праходзіць мяжа паміж прыстойнасцю і вульгарнасцю.







Цікавыя гісторыі прапанавалі чытачам Анатоль Гарачоў (у былі "Аўтамагнето" ён успомніў, як калісьці яго кум купляў магнітолу для свайго "Масквіча") і Генадзь Аўласенка (зарыфмаваў анекдот пра тое, як жонка спрабавала вылечыць свайго мужа ад схільнасці да алкаголю). А Вячаслаў Бурдыка ў апавяданні "Візіт у Трацякоўку" на прыкладзе неверагоднага здарэння з брэсцкім мастаком Міхаілам Касцом выказаў меркаванне, што алкаголь і мастацтва несумяшчальныя.

Прыхільнікі паэзіі, несумненна, зацікавяцца вершамі Ніны Галіноўскай, Івана Лагвіновіча, Лёлі Багдановіч, Расціслава Бензерука, Юрася Нератка, "Міранізмамі" Міхася Міранові́ча, мініяцюрамі Барыса Бележэнкі.

Для дзетак знойдзецца шмат цікавага ў "Калючыку". Гэта і забаўлянкі, і малюнкі, і вершы Святланы Быкавай, і лічылка Міхася Пазнякова, і добрая казка Таццяны Жукоўскай пра тое, як Сланечнік выратаваў людзей ад суму.

Шчыраваў "Вожык" не толькі на літаратурнай ніве, а і на мастацкай. Шматлікія карыкатуры і выкананыя па-майстэрску коміксы ствараюць вясёлы настрой, прымушаюць задумацца над праявамі жыцця. У рубрыцы "Імпарт" прадстаўленыя адметныя карыкатуры мастакоў розных краін свету. Паглядзіш на іх — і адразу зразумееш, што смех, іронія, сатыра — паняцці інтэрнацыянальныя і ёсць, як той казаў, і ў Афрыцы!..

# Літаратуразнаўчы глобус Беларусі: версія «нулявых»

Нягледзячы на згадкі пра метадалагічны крызіс, агульная рэцэпцыя беларускага літаратуразнаўства (калі меркаваць па манаграфічных выданнях і перыёдыцы, зборніках навуковых прац і матэрыялах канферэнцый, выступленнях навукоўцаў у друкаваных ды электронных СМІ і г. д.) не ўтрымлівае “эсхаталагічных” ці “апакаліптычных” высноў адносна перспектыў яго развіцця. Так званыя “нулявыя гады” не сталіся часам імпэтнага прадукавання новых канцэпцый (у галіне гісторыі альбо тэорыі літаратурнага працэсу, метадалагічнага аналізу, эстэтыкі літаратуры і інш.). Але нельга недаацэньваць каштоўнасць падобных — “збіральніцкіх”, у пэўным сэнсе, “этнаграфічных” (Г. Багданава) — перыядаў: часовая сканцэнтраванасць літаратуразнаўства на “навігацыйнай”, сістэматызатарскай, абагульняльна-аналітычнай працы ёсць абавязковай перадумовай, нават гарантыяй выспявання якасных змен.




**Ірына ШАЎЛЯКОВА**

Адчуванне “калажавасці”, “адвольнасці” літаратуразнаўчых даследаў апошняга дзесяцігоддзя пры панарамным поглядзе на гэты сегмент айчыннага філалагічнага дыскурсу трансфармуецца ва ўяўленне пра *адмысловую дэтэрмінаванасць* пошукаў беларускага літаратуразнаўства. З аднаго боку, іх мазаічнасць “абгрунтоўваецца” разнастайнасцю выклікаў, з якімі сутыкаецца прыгожае пісьменства ў новай інфармацыйнай рэальнасці. З другога боку, якраз трывожныя перспектывы абумоўліваюць аб'ектыўную (“міжвольную”) кансалідацыю разнавектарных даследчыцкіх інтарэсаў вакол ключавой праблемы — *праблемы (сама)ідэнтыфікацыі* (аксіялагічнай, эстэтычнай, мастацкай) беларускай літаратуры ў сацыякультурнай прасторы інфармацыйнага грамадства.

Зрэшты, набыткі беларускага літаратуразнаўства 2000-х гадоў наўрад ці слушна ацэньваць выключна ў рэчышчы “збіральніцтва”. З аднаго боку, у гэты час адбывалася ўдасканаленне інструментарыю літаратуразнаўчага аналізу, выпрацаванага на грунце трывала засвоеных (традыцыйных для айчыннага дыскурсу) ідэй, падыходаў і прынцыпаў вывучэння прыгожага пісьменства (культурна-гістарычнай школы, параўнальна-гістарычнага, тыпалагічнага літаратуразнаўства і інш.). З другога боку, у выразную паслядоўнасць складваюцца спробы выкарыстаць канцэптуальныя напрацоўкі сінергетыкі, сістэмнага, структурнага, функцыянальнага аналізу, ідэі аксіялогіі, герменеўтыкі, фенаменалогіі, рэцэптыўнай эстэтыкі, нараталогіі і інш. дзеля пошуку (як правіла, на міждысцыплінарным грунце) новых “метадалагічных рэсурсаў” для вырашэння актуальных праблем гістарычнага і тэарэтычнага вывучэння нацыянальнага мастацтва слова. Найбольш дакладна і адначасова выразна метадалагічны стан беларускага літаратуразнаўства ў гэты час можна апісаць з дапамогай філасофскай метафары І. Абдзіраловіча, што сталася адным з ключавых канцэптаў знакамітага эсэ “Адвечным шляхам” (1921): гэта абумоўлены шэрагам пазалітаратурных і ўнутрылітаратурных фактараў, скіраваны і бесперапынны рух — *рух-пошук уласнай “ліючайся формы”*, якая здолела б з максімальнай арганічнасцю ўвасобіць *унікальны беларускі “змест”* (анталагічны, экзістэнцыяльны).

Згаданы пошук цягам першага дзесяцігоддзя XXI ст. вёўся (хоць і з рознай інтэнсіўнасцю) практычна ва ўсіх сегментах літаратуразнаўства.

Паказальна, што плён тэксталогіі, за якой у айчыннай філалагічнай традыцыі замацаваўся статус дапаможнай галіны літаратуразнаўства, красамоўна аспрэчвае ўяўленні пра спадарожнасць яе “функцыяналу”. У 2003 годзе завяршылася выданне Поўнага збору твораў Янкі Купалы ў 9-ці тамах (кіраваў праектам, што распачаўся ў 1995 годзе, М. Мушынскі); Збор твораў Якуба Коласа ў 20-ці тамах (кіраўнікі гэтага праекта — М. Мушынскі, Т. Голуб) выходзіць з 2007 года. У 2006-м пачалася праца па выданні 13-томнага Збору твораў М. Танка. Першы том 23-томнага Збору твораў І. Шамякіна (кіруе праектам Т. Голуб) пабачыў свет у 2010 годзе; да пачатку 2012-га былі выдадзеныя яшчэ 7 тамоў. У 2005 годзе выйшаў у друку зборнік “…Іскры Вечнага агню”, куды былі ўключаны вершы 45 беларускіх паэтаў, што непасрэдна ўдзельнічалі ў Вялікай Айчыннай вайне…

Нават пералік найбольш буйных праектаў, ажыццяўленне якіх сталася магчымым дзякуючы супольным намаганням даследчыкаў (спецыялістаў Інстытута мовы і літаратуры імя Якуба Коласа і Янкі Купалы НАН Беларусі, удзельнікаў спецыяльна створаных навуковых калектываў і г. д.), дазваляе скласці ўяўленне пра інтэнсіўнасць і напружанасць працы айчынных тэкстолагаў. Не меншых намаганняў патрабавала падрыхтоўка “Анталогіі даўняй беларускай літаратуры: XI — першая палова XVIII ст.”, якая выйшла ў 2003 годзе пад рэдакцыяй В. Чамярыцкага; анталогіі “Славянамоўная паэзія Вялікага Княства Літоўскага XVI — XVII стст.” (2011) — першага выдання серыі “Помнікі даўняга пісьменства Беларусі”. Своеасаблівай прафесійнай і чалавечай самаахвярнасці вымагала, напэўна, праца, што дазволіла ажыццявіць выданне літаратурнай спадчыны А. Луцкевіча “Выбраныя творы: праблемы культуры, літаратуры і мастацтва” (2006), Збору твораў у 2 тамах А. Бабарэкі (2011). Вялікую цікавасць не толькі філалагічнай супольнасці, але і далучанай да нацыянальнага мастацтва слова грамадскасці выклікалі перавыданне кніг Г. Кісялёва “Пачынальнікі: З гісторыка-літаратурных матэрыялаў XIX ст.” і “Ад Чачота да Багушэвіча: Праблема крыніцазнаўства і атрыбуцыі беларускай літаратуры XIX ст.” (абедзве — 2003). Шырока абмяркоўваліся ў інфармацыйнай прасторы і ў навуковай супольнасці выхад зборніка дакументаў і матэрыялаў “Купала і Колас, вы нас гадавалі” (у 2 кнігах, 2010—2011), а таксама выданне энцыклапедыі “Максім Багдановіч” (2011). Асаблівы розгалас атрымалі энцыклапедычныя даведнікі “Рэпрэсаваныя беларускія літаратары” (у 2 тамах, 2002); “Рэпрэсаваныя літаратары, навукоўцы, работнікі асветы, грамадскія і культурныя дзеячы Беларусі. 1794—1991” (у 2003—2007 гадах выйшлі 4 тамы 10-томнага выдання) — плён карпатлівай працы (шматгадовых архіўных росшукаў, кансультацый з гісторыкамі, архівістамі, краязнаўцамі, старэйшымі пісьменнікамі) Л. Маракова, а таксама выдадзеная ў 2008 годзе кніга “Растраляная літаратура: Творы беларускіх пісьменнікаў, загубленых карнымі органамі бальшавіцкай улады”. Сярод матэрыялаў, якія склалі кнігу “Васіль Быкаў: Гісторыя жыцця ў дакументах, публікацыях, успамінах, лістах” (2009), адметную ўвагу даследчыкаў і чытацкай аўдыторыі прыцягнулі невядомыя архіўныя дакументы, рукапісы і эпісталярная спадчына В. Быкава з фондаў больш як дваццаці дзяржаўных музеяў, архіваў і прыватных збораў.

Уласна тэксталагічны дослед, як вядома, улучае не толькі працу ў архівах, бібліятэчных фондах (скіраваную на выяўленне рэдкіх бібліяграфічных выданняў, друкаваных крыніц, зверку іх з асноўным тэкстам з мэтай падрыхтоўкі да выдання навукова абгрунтаваных тэкстаў і да т. п.), але і вырашэнне тэарэтычных праблем (звязаных з вызначэннем аўтарства, датаваннем, атрыбутаваннем, каментаваннем тэкстаў і г. д.). Між тым, вынікі тэарэтычнага асэнсавання розных аспектаў сучаснай тэксталогіі, а таксама абагульненне вопыту практычнай дзейнасці тэкстолагаў у 2000-х гадах у кніжным фармаце прадстаўляліся адносна рэдка. Цягам дзесяцігоддзя выйшлі кнігі Т. Голуб “У творчай майстэрні класіка: тэксталогія твораў М. Гарэцкага” (2002), “Услед за лініяй жыцця: творчая індывідуальнасць: ад літаратурнага тэксту да культурнай спадчыны” (2006); Э. Золавай “Тэксталогія — мая прафесія: З вопыту падрыхтоўкі да выдання збораў твораў класікаў беларускай літаратуры” (2006); была апублікавана праца М. Мушынскага “Тэксталогія твораў Янкі Купалы і Якуба Коласа” (2007). Разам з тым варта адзначыць, што найбольш вострыя праблемы сучаснай тэксталогіі актуалізаваліся дзякуючы публікацыям (нярэдка — палемічным) у навуковым друку, літаратурна-мастацкай перыёдыцы, інтэрнэт-выданнях.

Пра метадалагічную пераемнасць ды канцэптуальнае развіццё айчынных традыцый архіўна-пошукавых і тэксталагічных даследаў дазваляюць меркаваць вынікі працы ў адпаведным кірунку прадстаўнікоў маладзейшага пакалення даследчыкаў нацыянальнай літаратуры. Так, укладальніцкая руплівасць В. Жыбуля падчас рэалізацыі шэрагу кніжных праектаў не замінала падрыхтоўцы цэлага цыклу публікацый для часопіса “Роднае слова”, іншых навуковых і літаратурна-мастацкіх выданняў. Не менш выніковай падаецца праца Ц. Чарнякевіча, які падрыхтаваў бібліяграфічны даведнік “Пераклады твораў замежнай літаратуры ў часопісе «Крыніца» (1988—2003)” (2010), выступіў укладальнікам “крытыка-архіўнага зборніка” “Максім Багдановіч: вядомы і невядомы” (2011), апублікаваў шэраг артыкулаў.

Стратэгіі (без перабольшвання — індывідуальна-творчыя) ажыццяўлення маштабнай навуковай рэканструкцыі гістарычнага развіцця нацыянальнага мастацтва слова мусяць стаць прадметам асобнага даследавання. У межах агляду набыткаў беларускага літаратуразнаўства 2000-х можна, бадай, толькі акрэсліць асноўныя прыярытэты пошуку і пазначыць сутнасныя рысы. Так, агульную спецыфіку гісторыка-літаратурнага пошуку ў першае дзесяцігоддзе XXI ст. вызначае сканцэнтраванасць даследчыцкай увагі на *кантэкстуальным* выяўленні ўнікальнасці нацыянальнай літаратуры — праз апеляцыю (часам у нечаканых, нават “экзатычных” для беларускага літаратуразнаўства аспектах і ракурсах) да разнастайных сацыякультурных, эстэтычных, мастацкіх традыцый, сістэм, практык.

Разам з тым, фокус літаратуразнаўчых інтарэсаў у параўнанні з апошнімі двума дзесяцігоддзямі мінулага стагоддзя выразна перамяшчаецца са сферы, так бы мовіць, метапраблематыкі (у дадзеным выпадку — даследавання найбольш агульных заканамернасцей, тэндэнцый развіцця нацыянальнай, рэгіянальнай, сусветнай літаратур) у прастору аўтаразнаўства...




# Басаногае дзяцінства

**Соф'я МАРОЗАВА**

Юбілейны нумар "Полымя" адзначаны падборкай вершаў "У вянок Янку Купалу", вершаванымі нізкамі Уладзіміра Мазго і Сяргея Давідовіча, працягам рамана Уладзіміра Гніламёдава "Ліхалецце", а таксама аповесцю для падлеткаў "Босая кавалерыя" Міколы Чарняўскага. Спынімся больш падрабязна на апошняй.

Аповесць напісана ў рэалістычным рэчышчы: у ёй няма неверагодных прыгод і містыкі, затое ёсць сяброўства, прырода, праца, кніжкі, злачынства, інтрыга, спагада, простыя радасці, бальнічныя гісторыі і аповеды ветэрана Вялікай Айчыннай. А ў невялічкім уступе "Ад аўтара" Мікола Чарняўскі распавядае гісторыю стварэння аповесці, разважае наконт яе актуальнасці, дзеліцца сваімі думкамі. Асабліва надзённае пытанне — ці будзе цікавая сучаснаму чытачу тая рэчаіснасць, якой прысвечаны твор, а менавіта, паваеннае жыццё вясковай дзятвы, што бавіць вольны час з калгаснымі конямі.

Пачатак "Босай кавалерыі" быў пакладзены яшчэ ў 1968 годзе, але неўзабаве аўтар адклаў рукапіс, палічыўшы тэму неактуальнай: адыходзілі ў нябыт некаторыя рэаліі, і ў прыватнасці — паўсюль зніклі коні ў калгасах (ім на змену прыходзіла сельскагаспадарчая тэхніка). Але ж праз 43 гады, ужо ў XXI стагоддзі, цікаўнасць з боку маленькіх чытачоў (на сустрэчах яны часта пыталіся пра дзяцінства аўтара, дзівіліся, чым тады можна было бавіцца "без мабільнікаў і ноўтбукаў") пабудзіла аўтара працягнуць працу. У выніку — аповесць пра басаногае дзяцінства, дэтэктыўна-прыгодніцкая гісторыя, пабачыла свет. Вынікае, тэма, што здавалася неактуальнай у перыяд "адміранння" з'явы, сталася цікавай у XXI стагоддзі!

Галоўны герой аповесці акрэслены ўжо ў назве: "Босая кавалерыя" — пяцёра сяброў, вясковыя школьнікі, што пасля заняткаў дапамагаюць у калгасе — абганяюць бульбу на конях. Пасля працы яны не супраць пагарцаваць на дужых (хоць і змораных) калгасных гадаванцах, пранесціся галопам; часам нават сварацца з-за сваіх улюбёнцаў. Не па гадах адказныя, але і па-дзіцячы непаседлівыя, добрыя, вясёлыя, дасціпныя — хлопцы адразу ж выклікаюць сімпатыю. У прадмове Мікола Чарняўскі зазначае: "Каб ніхто не падумаў, што аповесці «Бегунок пачынае думаць» і «Босая кавалерыя» (…) поўнасцю аўтабіяграфічныя, спісаныя з самога сябе, скажу адразу: не! Гэтыя творы — пра той час, у які я жыў і вучыўся, пра хлопцаў-равеснікаў майго пакалення і толькі трошкі — пра сябе. Ну, не трошкі, а можа, на крышачку болей, бліжэй да палавіны…" І аўтабіяграфізм гэты адчуваецца — найперш, у цеплыні ўспаміну, ва ўважлівым узнаўленні дзяцінства як асабістай каштоўнасці. Бо, паводле слоў аўтара, дзяцінства "ў розныя часіны, нават у галечу, холад і голад, па-свойму вясёлае і непаўторнае. І калі б мне раптам прапанавалі памяняць яго на нечае з вашых, я не згадзіўся б, бо яно — маё, поўнае сваёй рамантыкі і чароўнасці, любасці і захаплення".

У аповесці багата апісанняў побыту — працы, адпачынку, будзённых стасункаў з людзьмі і конямі. Дый сама дэтэктыўная інтрыга не прэтэндуе на закручанасць і надзвычайнасць: здарэнне, у якім замешаныя конь Буланчык і хлопцы, па-свойму недарэчнае, маленькае для свету, вялікае для герояў. Тым не менш, наступствы яго адчувальныя, таму аповед выразна дзеліцца на "да" і "пасля". З сярэдзіны аповесці сярод хлапечай кампаніі вылучаецца Васіль, і далей дзеянне засяроджваецца на ім. Магчыма, камусьці будзе шкада, што ўся "босая кавалерыя" ў гэты час знікае са старонак твора... Ды такая логіка сюжэта, а ўлічваючы аўтабіяграфічную аснову аповесці, відаць, і праўда жыцця.

І ўсё ж, ці зацікавіць гэтая праўда сучасных падлеткаў, уладальнікаў мабільнікаў і ноўтбукаў? Пабачым. Ва ўсякім разе, я ўпэўнена, што праскакаць на капі ніхто з іх не адмовіўся б.




# Макракосмас — праз мікрасвет

**Дзяніс МАРЦІНОВІЧ**

Апошнім часам Валерый Гапееў з'яўляецца адным з нешматлікіх творцаў, якія мэтанакіравана апрацоўваюць амаль пустую дзялянку падлеткавай літаратуры. Яго ўспрыняцце як пісьменніка для адпаведнай узроставай катэгорыі кардынальна змяніў "Аўтобус" (пераклад з беларускай мовы Ірыны Качатковай), што выйшаў на старонках ліпеньскага нумара часопіса "Нёман".

Сюжэт твора, пазначанага аўтарам як "амаль быль" (фактычна, гэта апавяданне), грунтуецца на здарэнні, што адбылося з пасажырамі міжгароднягa аўтобуса. Падчас рэйса ў яго трапляе маланка. Хутка героі заўважаюць, што ўжо некалькі разоў праязджаюць адзін і той жа ўчастак. Хлопец з ноўтбукам тлумачыць сваім сябрам па няшчасці, што "последний удар грома пришёлся на линию передач, возникло мощное электромагнитное поле, и мы попали в воронку пространства-времени, которая как раз образовалась. И вертимся в ней". А неўзабаве жанчына-доктар заўважае: "удар молнии убил нас всех. <…> Вот вам и ад, и рай — вот такие они. Мы — в мире мёртвых. И нам бесконечно ехать. И везти бесконечно свои мечты, мысли, свою боль, свои разочарования, свои надежды. <…> Мы здесь — вечные. И вечными будут те чувства, с которыми мы сели в автобус".

На маю думку, высокі ўзровень апавядання абумовілі папярэднія творы аўтара. Па вялікім рахунку, мадэль дзіцячай і падлеткавай літаратуры можна патлумачыць словазлучэннем "складанае праз простае". Аўтары ставяць перад юнымі чытачамі складаныя пытанні, падказваюць выйсце з жыццёвых супярэчнасцей, рыхтуюць іх да дарослага жыцця, але робяць гэта так, каб у чытачоў не ўзнікла неразумення. "Аўтобус" — глыбока філасофскі твор. Між тым сапраўдныя мысляры якраз і тлумачаць сур'ёзныя праблемы праз простыя вобразы і словы.

Так, "Аўтобус" сапраўды рэч простая. Але гэта падманлівая прастата! Усе элементы апавядання знаходзяцца на сваіх месцах, адсутнічае лішняе і штучнае. Пачатак дастаткова традыцыйны. Аўтар прадстаўляе ўсіх пасажыраў аўтобуса, малюючы іх вобразы лёгкімі штрыхамі. Прычым робіць гэта дастаткова пераканаўча: у чытачоў не застаецца сумнення ў тым, што жанчына з 20 тысячамі даляраў — нядобрасумленная прадпрымальніца; муж, якога жонка трымае пад абцасам, ніколі не скажа слова насуперак ёй і г.д. Па вялікім рахунку, перад намі партрэт сучаснага грамадства з яго супярэчнасцямі і праблемамі.

Сітуацыя змяняецца пасля інфармацыі доктара. Высвятляецца, што "прадпрымальніца" сабрала грошы на аперацыю для дачкі, а муж змог рэалізаваць сябе па-за кантролем жонкі… Такі ход — несумненная ўдача аўтара. З аднаго боку, В. Гапееў даказвае нашу павярхоўнасць ва ўспрыманні людзей. З другога боку, паказвае, што на шчырасць і ўчынак героі здольныя ў экстрэмальных умовах, падчас якіх раскрываюцца цалкам.

Надзвычай глыбокай і шматзначнай атрымалася ў "Аўтобусе" развязка. Выратаванне трох пасажыраў (пісьменніка Антося, жанчыны-"прадпрымальніцы" і хлопчыка-інваліда, які стаў хадзіць) невыпадковае. На першы погляд, жывымі застаюцца тыя героі, якія гатовыя змагацца за сваё жыццё. Не ведаючы, што іх чакае, яны свядома пераходзяць у іншую рэальнасць. Такім чынам, аспрэчваецца наканаванасць, падкрэсліваецца роля чалавека — гаспадара свайго лёсу. Але ратуючы герояў — хутчэй знешняя праява іх паводзін. На маю думку, выратаванне ў першую чаргу звязана з неабходнасцю жыць. Прычым нават не дзеля сябе, а для іншых. Твор Антося, напісаны для душы, патрэбны сапраўдным чытачам. Камерцыйны — сям'і. Толькі жанчына ведае пароль для рахунку з грашыма. Нарэшце, акрамя хлопчыка, у яго бабулі, якая знаходзіцца ў тым жа аўтобусе, больш нікога не засталося. Нездарма ўсе астатнія героі або гатовыя змірыцца з уласным становішчам, або кажуць, што пражылі сваё. Дык навошта В. Гапееў закідвае сваіх герояў у іншую прастору? Каб знайсці сябе, разабрацца ва ўласным жыцці. Нарэшце, проста пачаць жыць.

Галоўнай вартасцю бадай любога апавядання можна лічыць здольнасць аўтара паказаць праз мікрасвет сваіх герояў макракосмас. У В. Гапеева гэта бліскуча атрымалася. Чакаем ад пісьменніка твораў такога ж узроўню.




# Усё, што ёсць цудоўнага

**Алена КАРП**

Паэзія, найперш маладая, як правіла, выносіць навонкі сваё "я" — праз уласныя эмоцыі, пачуцці, перажыванні. Не даючы тут ацэнак гэтай тэндэнцыі, зазначым, што нізка Алеся Дуброўскага-Сарочанкава "Кімерыйскія краявіды", прадстаўленая ў ліпеньскім нумары "Маладосці", у гэтым сэнсе выглядае арыгінальнай. І таму, што "я" аўтара выяўляецца ў ладзе мыслення, у светапоглядзе, і таму, што яму стае часу і густу, каб выказаць своеасаблівы паэтычны запавет Максіміліяна Валошына: "Теперь я мёртв, я стал листами книги, / И можешь ты меня перелистать…"

У тым, што А. Дуброўскі-Сарочанкаў гартае (тут роўна *прачытвае*) класіку дзеля наследавання, а не перайманння, і дзеля ўзбагачэння ўласнай паэтыкі, "Кімерыйскія краявіды" не раз пераканаюць. Назва нізкі і эпіграфы да першага верша адсылаюць да адпаведных цыклаў М. Валошына і адначасова нагадваюць, што крымская тэма была засвоена і нашай літаратурай. Згадаем тут найперш "Крымскія санеты" Адама Міцкевіча і цыкл "Крым" Янкі Купалы. Пры пэўным падабенстве з названымі творамі (спалучэнне пейзажнай і філасофскай лірыкі, персаніфікацыя, якая набліжаецца да пантэізму) "Кімерыйскія краявіды" адрозніваюцца сваім настроем.

Міцкевіч-выгнаннік прамаўляе:

*І так напружаны слых*
*у гэткай цішы,*
*Што чуў бы голас з Літвы. —*
*Едзем! Ніхто нас не кліча!*

Настальгіруе па радзіме герой Янкі Купалы:

*А я — з далёкіх ніў пясняр —*
*Па Гаспры з кута ў кут снуюся.*
*Гняце мне думкі Крыма чар,*
*Маркотна мне без Беларусі.*

Герой А. Дуброўскага-Сарочанкава — захоплены, зачараваны сузіральнік. Яго статус ніяк не акрэслены, невядома, адкуль ён, госць ці тутэйшы. Нават зварот да мора: "…ты будзеш юнае сярод здрахлелых пагоркаў, / так што запомні… проста запомні мяне" нельга трактаваць як указанне на непрацяглае знаходжанне героя ў Кімерыі, хутчэй варта ўспрымаць яго як напамін пра часовасць чалавечага жыцця наогул.

Гэтая хуткаплыннасць, часовасць робіцца яшчэ больш відавочнай дзякуючы кантрасту са светам прыроды. "Спрадвечнае", "адвечнае", "бясконцае", "заўжды" — словы, якія яго характарызуюць, збіраючы ў семантычнае поле "вечнасць".

"Слухай мой голас, як слухаеш месяц і зоркі; / хутка яшчэ сотня тысяч гадоў праміне…" Час разумеецца тут не адносна чалавечага жыцця, для якога сотня тысяч гадоў ніяк не можа вызначацца словам "хутка", а адносна мора, вулкана, неба. Такое разуменне магчымае толькі "з прыродай зліўшыся душой", спазнаўшы яе веліч, сапраўдную і несумненную, у адрозненне ад уяўнай людской:

*У залатую пару*
*князь, Гедыміна нашчадак,*
*тутналіваў цару*
*пеністы сок вінаграду…*

*Толькі каралавы рыф*
*ведаў, хто тут адзіны*
*князь, і цар, і каліф —*
*на вечнасць, не на гадзіну.*

Павагу выклікае не багацце, якое тлен, а мудрасць, якая ў спазнанні:

*…мудры армянін*
*нікому не скажа аб адкрытым*
*цудзе —*
*пра ўяўнасць меж і бясконцасць*
*хвілін.*

"Солнце… Вода… Облака… Огонь… / Всё, что есть прекрасного в мире…" (М. Валошын). Свет, чароўны сваёй бясконцасцю і адкрытасцю, апявае і А. Дуброўскі-Сарочанкаў. Пры гэтым, як і славуты папярэднік, звяртаецца да антычнай вобразнасці (і не толькі вобразнасці: апошні твор у нізцы — элегічны двуверш). У кімерыйскіх цыклах М. Валошына прырода, бадай, больш чым адухаўляецца — яна мысліцца жывою: "И горькая душа тоскующей полыни / В истомной мгле качалась и текла". Так і для А. Дуброўскага-Сарочанкава абсалютна натуральна бачыць у прыродных аб'ектах душу, характар. Персаніфікаваныя, з'явы прыроды пераносяцца на свет людзей, як у вершы "Алчак", або такі перанос маецца на ўвазе па змоўчанні:

*Той, хто аднойчы ўзляцеў,*
*поўзаць ужо не можа.*
*Гэтыя горныя сцежкі калісьці*
*магмай былі.*
*Вунь Кара-Даг, ён вулкан,*
*і даруй яму, Божа,*
*што ён не згодзіцца быць проста*
*жменькай зямлі.*

Адухаўляецца не толькі прырода, жывым бачыцца сам час, і адсюль узнікаюць незвычайныя, яркія вобразы:

*Вось чаму хвалі твае нас*
*заўжды гэтак вабяць:*
*мыў у іх ногі той час,*
*калі й нас не было.*

Наогул жа час і прастора, якія ў лірыцы зазвычай не эксплiцытныя, тут становяцца паўнапраўнымі і ці не галоўнымі аб'ектамі асэнсавання, і ў гэтым бачыцца яшчэ адно пацверджанне неардынарнасці паэта Алеся Дуброўскага-Сарочанкава.


Ніна ДЫДЫШКА

Разам з Нінай Дыдышкай калісьці я вучыўся ў Ліпскай сярэдняй школе на Ляхаўшчыне, і ўжо тады мы, закаханыя падлеткі, ведалі, што гэта прыгожая і гарэзлівая дзяўчына з дзясятага класа піша цудоўныя вершы. Далейшыя нашы шляхі-дарогі, вядома, разышліся. Будучы замужам за вайскоўцам, пасля заканчэння Брэсцкага педінстытута імя А. С. Пушкіна мая зямлячка аб'ездзіла ўсю Берасцейшчыну, пэўны час жыла за мяжой, але пра літаратурную творчасць не забывала. Нядаўна яна даслала мне, як кажуць, для знаёмства свае новыя вершы, і я іх з задавальненнем прапаную чытачам "ЛіМа". Дадам, што цяпер Ніна Васільеўна жыве ў г. Пружаны, дзе працавала настаўніцай, была загадчыцай чытальнай залы ў раённай дзіцячай бібліятэцы. Выдала паэтычны зборнік "Жаночы след".

**Уладзімір БАЦКАЛЕВІЧ**

## Мая Бацькаўшчына

*Куды б ні закінула доля ў журбе —*
*На вейкі сляза набягае.*
*Звяртаюся ў думках*
*заўжды да цябе,*
*Зямелька мая дарагая.*

*Стаіць прад вачыма*
*і сёння той дом*
*Дзе маці мяне гадавала,*
*І чую выразна пад золлю-дажджом*
*Малітву, што ў сэрца запала.*

*Куды б ні закінула доля мяне —*
*Заўсёды вярнуся дадому.*
*Парога бацькоўскага шлях не міне,*
*Дзе з радасцю скідваю стому.*

***

*Мне адзінока і няўтульна,*
*Калі за вокнамі дажджы,*
*І дрэвы, шэрыя гаротнікі,*
*Накінуць мокрыя плашчы.*
*Агеньчык у каміне стыне,*
*Не можа кволую сагрэць.*
*Ну, хопіць, дожджык, хопіць, мілы,*
*Дай ранне светлае сустрэць.*

***

*Калі б хто мог*
*Адтуль вярнуцца*
*І расказаць,*
*Як там жывецца:*
*Ці ходзяць ногі,*
*Ці сэрца б'ецца?*
*А людзей вочы*
*Ці свет той бачаць?*
*І словы іх за хлеб ці ўдзячаць?*
*І колькі спіць там чалавек,*
*І што ён робіць,*
*І што за працу*
*Ён там заробіць?*
*А можа ўсё, як ёсць, згасае?*
*І ўсё навек там заміраe…*
*Ды толькі дрэва вырастае,*
*А птушка ранне сустракае.*
*Жыццё — як міг. Ім даражыць*
*І як мага паўней пражыць —*
*Дарогу к Богу пралажыць!*

## Забытая хатка

*На лужку бялюткім*
*Замятае сена.*
*Зімна-зімна ў хаце,*
*Дроваў ні палена.*

*І брыкеты торфу*
*Ярка адгарэлі.*
*Так у адзіноце*
*Зімы ўсе струхнелі.*

*Дзеці падрасталі,*
*Моцы набіраліся,*
*Ад матулі роднай*
*Збеглі, пахаваліся.*

*У малітве зложыць*
*Бабка горка рукі:*
*— Не едзеце самі —*
*Дзе прапалі ўнукі?*


Дзмітрый ПЯТРОВІЧ

***

*Будзе снег. І, напэўна, спакой —*
*Абыякава-стылы пад ранне...*
*Цьмяных дум і радкоў*
*паяднанне.*
*Царства сну. І мяцеліц сувой.*
*…Раптам іскра… Агеньчык…*
*Здалёк*
*Бачу кветку на вашым акне.*
*…Гукі вальса… Ці мроіцца мне?*
*То мяцеліцы спеў.*
*Матылёк*
*Майго сэрца ляціць на агонь*
*Ў серабрыстай варожасці вуліц.*
*Цеплыня тую кветку*
*прытуліць —*
*Матылёк сядзе вам на далонь…*

## Маёй вёсцы

*Водар бэзавы над Галаўнінцамі,*
*І у садзе шпачыны рай.*
*Чысціню нябёс п'ю з крыніцы я —*
*Льецца-плешчацца цераз край*
*Твой блакіт зямны, пяе-пеніцца, —*
*Чую кропляў дзівосны звон.*
*Як калісьці ўсё... І не верыцца,*
*Што даўно ўжо няма тых дзён...*
*Дні сплылі з вадой, і не вернецца*
*Ранак юны шчаслівы той.*
*Адчыняю ўжо ціха дзверы я*
*Ў царства восені залатой...*

***

*Ізноў на ўсходзе чырвань залатая*
*Туманнай раніцай*
*у росным аксаміце.*
*Душа спявае — вечна маладая —*
*Пра васількі ў бяскрайнім спелым жыце,*
*Пра двух буслоў —*
*гняздо над нашай хатай, —*
*І пра рабіны-прыгажуні гронкі,*
*Пра край цудоўны, песнямі багаты, —*
*Пра Беларусь — радзімую старонку…*

***

*Адквітнеў белы луг.*
*Навальніц не чуваць кананады.*
*Толькі спелае жыта*
*шапоча пра штосьці сваё…*
*Адзінокі пастух*
*Гоніць статак.*
*А з комінаў хатаў*
*Ўюцца сумна-спавіта*
*дымы. І няма салаўёў.*
*І зжаўцелыя дні*
*Зацярушваюць дол, нібы лісце.*
*Ночы іншымі сталі:*
*Няма ў іх былой цеплыні.*
*І жывой мітусні*
*Зрэдку хочацца, быццам калісьці…*
*Дораць восені далі*
*Самоты пажоўклыя дні.*

***

*Маўкліва паміраем у расстанні,*
*Пялёсткі склалі, як начныя кветкі.*
*А думкі ў шыбу стукаюць, блукаюць*
*Па зорках ясных — месяцавых дзетках.*
*І Млечны Шлях — адзіны да цябе —*
*Імкліва знікне у маёй журбе…*

***

*На восені алтар*
*я аддаю спакой*
*Ссурочанай, аб'інелай душы.*
*Хоць колькі год прайшло —*
*а помню аналой*
*І словы шчырыя:*
*"...ніколі не грашыць..."*
*Агеньчык веры і анапест цішыні —*
*У хваляванні струн усё злілося.*
*Я помню шчасця трапяткія дні*
*І нашых душ дуэт, як шматгалоссе...*

# «Я спавядаю сонечную веру...»


Таццяна МУШЫНСКАЯ

***

*Сіла жыцця прымушае лопнуць*
*Звычайную пупышку*
*І выкінуць пяшчотна-цнатлівы,*
*Бліскучы й малады зялёны ліст.*
*Сіла жыцця прымушае*
*маладую траву.*
*Прабіцца праз старое і зрыжэлае*
*лісце,*
*Прабіцца і адчайна зазелянець.*
*Сіла жыцця прымушае*
*Ягады маліны чырванець,*
*Грыбы — стаць крамянымі,*
*А птушку — співаць.*
*Адкуль яна, сіла жыцця?..*

***

*Лета — ты шчасце,*
*Поўнае сонца!*
*Промнем надзеі*
*Заззяў небакрай.*

*Лета шумлівае,*
*Лета зялёнае,*
*Ты лёгкакрылую*
*Радасць страчай!*

***

*Толькі з вуснаў тваіх радасць*
*піць!*
*Будзе многа яе, быццам мёду,*
*І прасторы душы*
*ў асалодзе —*
*У бясконцай нам вечнасці*
*плыць.*

*Ахінаюць мяне ад бяды*
*Пацалункі твае на дасвецці.*
*Сонца шар затрымаўся*
*на вецці,*
*А імгненні — нібыта гады…*

***

*Даўно калісь апёк душу мне май*
*Агнём незразумелым і пякучым,*
*Падаўся ён спярша агнём гаючым,*
*Здалося, быццам трапіла я ў рай.*
*Ды неўтаймоўны трапіўся агонь,*
*Агонь крыві, і страсці, і жадання.*
*Не я, а ён ўсё марыць пра спатканні!*
*Якая цішыня?!*
*Тут палявання гон!*

*Агонь спаліў ранейшую мяне,*
*І тую болей я не адшукаю.*
*Сябе я новую ўсё спасцігаю,*
*І спасціжэння прага не міне.*

*Агонь хачу ў сабе я пагасіць,*
*Ды вецер полымя ўсё раздзімае.*
*А чалавек жыве, калі кахае...*
*Што ж па сабе ранейшай галасіць?*

***

*Гарэць на кастрышчы уласных*
*пачуццяў —*
*Што можа цяжэй быць ад гэткай*
*пакуты?*
*Душой да цябе я навечна прыкута.*
*Кастрышча шукае — як вечнасць*
*мінута.*

*Што вечнасць такое? Ён быў —*
*і няма.*
*Няма і не будзе. Ніколі, ніколі!*
*Хоць плач, хоць маўчы пра ўласную*
*долю,*
*Маўклівасць раскажа, бо вечнасць сама.*

***

*Дзень летні — быццам доўгае жыццё,*
*У ім змясціліся адчай і радасць,*
*Самота горкая і*
*прывідная сталасць.*
*Дзень летні —*
*быццам доўгае жыццё,*
*Дзе ўсё паспее нарадзіцца і сканаць,*
*Узняцца, расцвісці і пышна забуяць,*
*Дзе ўсё паспее і пачацца,*
*й завяршыцца...*

***

*Я спавядаю сонечную веру,*
*І промням сонечным*
*заўжды малюся.*
*Дажджам, завеі, слоце і адчаю —*
*Я не скаруся, болей не скаруся!*

*А сонечную веру спавядаюць*
*Са мною разам белыя аблокі.*
*Ў сінечы летняй, чыстай*
*і бясконцай*
*Яны лятуць, яны лятуць высока.*

*І кожны ліст, і кожная галінка*
*Гадуюцца гаючай сілай сонца.*
*Сілкуюцца яго магутным промнем*
*Ў жыцці сваім, маленькім*
*і бясконцым.*


Фота Кастуся Дробава

# Мы ўсе — з «Буквара»



Віленскі "Буквар" 1767 года — арыгінал і факсімільнае ўзнаўленне.

**Унікальны праект факсімільнага ўзнаўлення першага беларускага "Буквара" — Віленскага "Буквара языка славянскага" 1767 года — быў прэзентаваны ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі. Яго рэалізацыя праходзіла на працягу некалькіх гадоў, а само факсімільнае выданне сталася першым яркім вынікам сумеснай працы Нацыянальнай бібліятэкі краіны і прадстаўніцтва кампаніі *XEROX* у Беларусі. Незвычайная кніга пабачыла свет у выдавецтве "Дом друку".**

**Марына ВЕСЯЛУХА,**
**фота аўтара**

Значна тое, што праект факсімільнага выдання самага ранняга беларускага буквара з усіх, што захаваліся ў нашай краіне, атрымаў двухбаковую падтрымку. З боку ўстаноў культуры, у прыватнасці, Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі, яго ініцыятарам стаў дырэктар гэтай установы, доктар педагагічных навук, прафесар Раман Матульскі. Падчас прэзентацыі кнігі Раман Сцяпанавіч падкрэсліў:

— Ідэя выдання факсімільных узнаўленняў помнікаў кніжнай культуры Беларусі не новая, і гэта заканамерна, бо калі выданне існуе толькі ў адзіным асобніку і захоўваецца ў музеі, то зразумела, што шырокае кола аматараў культуры з ім не пазнаёміцца. Больш за тое, вучэбныя кнігі захаваліся вельмі дрэнна, у адрозненне ад выданняў іншага характару, да якіх ставіліся з пашанай. Новае выданне Віленскага "Буквара" тым больш каштоўнае, што ў свеце захавалася толькі два яго асобнікі, мы ж імкнемся, каб яго пабачыла як мага большая колькасць людзей. Бо гэта захавальнік духу эпохі, ён паказвае і метадалогію, падыходы да навучання і выхавання дзяцей.



Аляксандр Швец і Раман Матульскі надпісваюць асобнікі "Буквара", якія будуць перададзены ў бібліятэкі.

З боку бізнесу падрыхтоўку выдання падтрымаў кіраўнік прадстаўніцтва кампаніі *XEROX* у Беларусі, старшыня апякунскага савета Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі Аляксандр Швец. Ураджэнец старажытнага Турава, Аляксандр Іосіфавіч разумее значнасць нешматлікіх гістарычных помнікаў, у тым ліку і кніжных, што захаваліся на тэрыторыі нашай краіны. Падчас сваёй прамовы ён заўважыў:

— Ідэя зладзіць культурны праект нашай кампаніі разам з Нацыянальнай бібліятэкай існавала даўно. Але мы думалі, з чаго пачынаць. А пачынаць трэба спачатку. У маёй бабулі было жыцце святых на царкоўнаславянскай мове. Я гартаў гэту кнігу, спрабаваў чытаць, нешта разумеў, нешта не, мяне гэта нават трохі раздражняла. Чаму я не магу прачытаць? І таму мы імкнуліся не толькі зрабіць факсіміле "Буквара", але падрыхтаваць двуадзінае выданне: поўнае факсімільнае ўзнаўленне кнігі з захаваннем усіх адметнасцей арыгінала — фону паперы, паметаў на кнізе — і яго пераклад на рускую мову з навуковымі каментарыямі.

Факсімільнае ўзнаўленне кнігі — навуковая праца. Адным з першых, хто адгукнуўся на просьбу навуковай падтрымкі гэтага праекта, стаў гісторык-медыявіст, кнігазнавец, доктар гістарычных навук Георгій Галенчанка. Ён выступіў і ў якасці рэцэнзента выдання. Аўтарам гісторыка-культурнага нарыса "Буквар у жыцці нашых продкаў", які дапоўніў факсіміле, стаў намеснік дырэктара па навуковай рабоце і выдавецкай дзейнасці Нацыянальнай бібліятэкі краіны, кандыдат культуралогіі Аляксандр Суша. На пытанне пра тое, што яго найбольш уразіла падчас працы з тэкстам "Буквара", навуковец адказаў:

— Праз стары тэкст бачыш абсалютна іншае светаўспрыманне людзей, разумееш, чым жылі нашы продкі. Тут можна заўважыць прынцыпова іншыя дыдактычныя падыходы, абсалютна адрозныя ад тых, што існуюць сёння. Да прыкладу, "Буквар" заклікае бацькоў і выхавальнікаў быць вельмі строгімі і нават жорсткімі да сваіх дзяцей і гадаванцаў, не цурацца фізічных пакаранняў. Сёння гэта выглядае дзіўнавата, але ў тым — свая сістэма асветы. Думаецца, выданне актуальнае ў наш час. Яно даказвае, што кніга ў Беларусі з'явілася не ўчора, але ствaралася 200 і 300 год таму. Да таго ж, гэтым мы паказваем, што Беларусь — радзіма "Буквара", менавіта тут з'явілася першая кніга з такой назвай. Нашы "Буквары" капіраваліся калегамі з іншых краін у XVIII і XIX стст.

"Буквар" 1767 года рыхтаваўся ў Віленскай базыльянскай друкарні, і па сутнасці ён адпавядае ўніяцкай рэлігійнай традыцыі, але тут ёсць рысы, характэрныя і для заходняга і ўсходняга хрысціянства. Адметна і тое, што ў выданне, апрача вучэбных матэрыялаў для навучання дзяцей грамаце славянскай мовы, комплексу тэкстаў павучальнага характару (а гэта настаўленні, малітвы, павучанні і гімны), уваходзяць і практыкаванні па вывучэнні замежных моў — польскай і нямецкай.

Падчас прэзентацыі кнігі з прамовамі выступілі намеснік міністра культуры Беларусі Тадэуш Стружэцкі, ён падкрэсліў значнасць удзелу прыватных фірмаў у рэалізацыі культурных праектаў; намеснік міністра адукацыі краіны Васіль Будкевіч адзначыў важнасць акцыі перадачы асобнікаў факсімільнага выдання "Буквара" 1767 года ў бібліятэкі навучальных устаноў Беларусі, а Аляксандр Каваленя, акадэмік-сакратар аддзялення гуманітарных навук і мастацтва НАН Беларусі, доктар гістарычных навук, выказаў спадзяванне, што гэта кніга будзе запатрабавана маладымі чытачамі.

## У падтрымку чытання

**Андрэй ЛЕЎЧЫК,**
**рэжысёр:**

# «Бібліятэка была для мяне містычным месцам»

— Чытаць пачаў сапраўды рана, нават па сённяшніх мерках: у чатыры гады ўжо актыўна чытаў. Сям'я звычайная: мама — касір, тата — шафёр. Бабуля была ўвогуле непісьменнай! А навучыў чытаць мяне дзядзька — студэнт палітэхнічнага. Паэксперыментаваў. Першая кніжка, якую помню, — вялікага фармату "Лев и собачка" Льва Талстога. Уражанне было настолькі моцнае, што рыдаў над ёй з тыдзень. І пакляўся не рабіць дзвюх рэчаў: ніколі не чытаць кніг і не глядзець кіно, дзе жывёлы пакутуюць.

Мама прывяла мяне ў сёмую дзіцячую мінскую бібліятэку. Для мяне гэта было містычнае месца, дзе жывуць усе тыя цуды, пра якія расказваюць кніжкі. Калі прыходзіў здаваць кнігі, бібліятэкар пытала: "А прачытаў? А раскажы!" Гэта "раскажы" прывучыла ўсё чытаць да канца. І сёння, пачаўшы, не магу кніжку кінуць, нават калі мне не падабаецца.

Бібліятэка яшчэ і з Новым годам звязана: помню, пад Новы год, мне было гадоў 11 — 12, там скончыўся рамонт, і самых актыўных чытачоў папрасілі дапамагчы расставіць кніжкі. І як узнагароду выдалі новыя паступленні. Якое гэта было шчасце — чытаць, лежачы пад ёлкай! Запомнілася кніга "На волне знаменитых капитанов". Фантастыку з дзяцінства люблю, зразумела. Усё прачытвалася па некалькі разоў: Лем, Стругацкія. Гэта была Літаратура.

На ўсё жыццё запомніў радыёп'есы Канстанціна Вакааба, у якіх распавядалася пра розных жывёл, што паслужылі навуцы. Бацькі выпісвалі часопісы "Наука и религия", "Наука и жизнь", "Техника — молодёжи". Веды спатрэбіліся, калі вёў на тэлебачанні праграму "Золотое сечение", адзначаную як лепшая навукова-папулярная праграма.

Дасюль люблю навукова-папулярную фантастыку. Усім бы параіў творы Аляксандра Сілецкага. (На жаль, яго выдавалі мала.) З ім немагчыма размаўляць коратка. Сілецкі — цудоўны чалавек і выдатны апавядальнік, з высокай літаратурнай культурай. Быў рэдактарам часопіса "Наука и религия".

Фантастыка па вялікім рахунку ніколі не ўпісвалася ў савецкую ідэалогію, што была скіравана толькі ў адзін бок. Фантасты думалі "ў розныя бакі". Як толькі сабе такое дазваляеш, літаратура атрымліваецца, а ідэалогія — не. А дзе пачынаецца ідэалогія, там увогуле заканчваецца жыццё. Сілецкі нагадвае мне Брэдберы. Ён сапраўды вельмі паэтычны, літаратурны, і да таго ж яго фантастыка вельмі нечаканая. Яна не тэхнічная, хаця ён добра разбіраецца ў тым, пра што піша, мае знаёмых у самых высокіх навуковых сферах, у якіх можа атрымаць кансультацыю.

Цікавы аўтар Сяргей Булыга. Ён можа напісаць цэлы том рускіх народных казак, апрацаваных для "новых рускіх". Гэта вельмі смешна. Гістарычныя раманы — пра Усяслава Чарадзея. Фэнтазі.

У шэрагу любімых аўтараў і Умберта Эка. Пласты гістарычныя, літаратурнай і навуковай культуры прысутнічаюць у кожнай яго кнізе, дастаўляюць масу задавальнення. Цікавыя кніжкі, якія леглі ў аснову, на якія ён спасылаецца.




А з новымі аўтарамі… Я іх не "чапаю" да таго часу, пакуль яны не прыходзяць самі. Цікавасць да сучаснай беларускай паэзіі з'явілася, калі здымалі фільм пра Яўгенію Янішчыц паводле сцэнарыя Раісы Баравіковай. Для мяне гэта было адкрыццём. Потым Баравікову прачытаў, стаў сачыць за творчасцю сучаснікаў. Цікава было працаваць над фільмам пра Багдановіча — паказаць яго як грамадзянскага паэта, а не толькі як лірыка.

Маладзічок

# Казка для ўсіх

**У РВУ "Літаратура і Мастацтва" пабачыла свет кніга "Маміна казка. Мамина сказка". Тут сабраны самыя лепшыя беларуская і руская народныя казкі. У якасці ўкладальніка кнігі выступіў вядомы пісьменнік Алесь Бадак, а цудоўнымі малюнкамі яе аздобіла Галіна Іванова.**



Чэслава ПАЛУЯН, фота Надзеі Бужан

Здавалася б, нічога незвычайнага, для беларускіх выдавецтваў выхад зборніка народных казак — шараговая справа. Але "Маміна казка. Мамина сказка" сталася не проста кнігай, а першым крокам аднайменнай акцыі.

Акцыя "Маміна казка", арганізатарамі якой выступілі Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, Беларускі саюз жанчын пры падтрымцы Дзіцячага фонду ААН (ЮНІСЕФ), ужо распачалася з прэзентацыі выдання ў Радашковіцкай школе-інтэрнаце для дзяцей-сірот. Сярод гасцей, што завіталі да дзетак, якія засталіся без бацькоў, былі і вядомыя ў нашай краіне жанчыны: старшыня праўлення Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь, старшыня Беларускага саюза жанчын Надзея Ермакова і першы намеснік міністра інфармацыі краіны, старшыня праўлення Беларускага саюза жанчын Лілія Ананіч.

Падчас прэзентацыі выступаў прадстаўнік ЮНІСЕФ Юрый Аксамітны. Казкі з кнігі чытала радыёдыктар Маргарыта Захарыя, ды і выхаванцы Радашковіцкай школы-інтэрната былі не проста гледачамі і слухачамі. Яны паказалі некалькі інсцэніровак казак. Па ўсім было відаць, што маленькія чытачы яшчэ і сапраўдныя артысты.

Гэта імпрэза сталася толькі першым прыпынкам рэспубліканскай акцыі. "Маміна казка" будзе крочыць па краіне і несці радасць дзеткам, а гэта значыць, што ў Беларусі тры тысячы (менавіта такі тыраж выдання) маленькіх сэрцаў напоўніцца радасцю ад сустрэчы з казкай, ад разумення таго, што яны не адзінокія ў гэтым свеце. І тады, магчыма, здзейсніцца пажаданне чытачу ад усіх, хто спрычыніўся да выхаду кнігі: "Няхай святло чароўных казак будзе яркім ліхтарыкам у тваім жыцці… Кнігі дапамогуць табе авалодаць ведамі, падкажуць вопыт папярэднікаў і дазволяць упарта і настойліва ісці наперад, добрымі і разумнымі справамі ўпрыгожваць сябе, сваю сям'ю, сваю краіну".

# Сынок-з-кулачок

*(з кнігі «Маміна казка. Мамина сказка»)*



Жылі дзед і баба. І быў у іх сынок. Ды такі малы, што з-пад шапкі не відаць. Не большы за кулак. Так дзед з бабай яго і звалі: сынок-з-кулачок.

Паехаў аднойчы дзед араць, а бабе сказаў, каб згатавала абед і прынесла яму на поле.

Баба згатавала абед і кажа сыну:

— Каб ты быў большы, дык занёс бы бацьку абед за мяне. А так самой трэба ісці.

А сынок адказвае:

— Давай, мама, я занясу абед.

— Дзе табе данесці яго?

— Данясу!

Узяў сынок-з-кулачок абед, паставіў у дзядаў лапаць, сам ззаду сеў і паехаў. Едзе і песенькі спявае. Прыехаў на поле, гукае бацьку:

— Тата, я табе абед прывёз!

Убачыў яго бацька, зарадаваўся:

— Малайчына, сынок!

Сеў ён абедаць, а сын і кажа:

— Тата, пасадзі мяне на саху, я араць буду.

— Як жа ты будзеш араць?

— А паглядзіш, — гаворыць сын.

Пасадзіў яго бацька на саху. Сынок-з-кулачок узяў лейцы ў рукі і крыкнуў каню:

— Но, сівы-буры!

І пачаў араць.

Ехаў дарогаю пан у брычцы. Убачыў ён такое дзіва.

— Прадай, дзед, мне свайго аратага, — просіць пан.

— Не, пане, не прадам: гэта ж мой сынок.

А пан прычапіўся, як смала: прадай ды прадай!

— Я табе, — кажа пан, — дам шмат грошай.

Пачуў гэта сын, падбег да бацькі і шэпча яму:

— Прадавай, тата, толькі вазьмі ў пана за мяне жменю золата. Не бойся, я ад яго ўцяку...

Згадзіўся дзед і прадаў пану сына за жменю золата.

Узяў пан хлопчыка, пасадзіў у кішэнь і паехаў. «Вось, — думае, — добрага аратага нажыў. Гэтакага ні ў кога няма. Няхай зайздросцяць мне ўсе паны!»

Тым часам хлопчык прадраў панскую кішэнь, цішком вылез з яе і выскачыў з брычкі. Пан нават і не пачуў. Паехаў сабе дамоў хваліцца дзіўным аратым.

Агледзеўся хлопчык, аж кругом яго густы лес. Пахадзіў ён, пахадзіў па лесе і заблудзіўся. А тут і вечар настаў. Сеў сынок-з-кулачок пад елкаю і плача. Натрапіў на яго галодны воўк і праглынуў.

Апамятаўся хлопчык, пачаў брыкацца ў воўчым жываце, пачаў крычаць:

— Гэй, воўк, нясі мяне дахаты!

— Не панясу, — адказвае воўк.

— Панясеш, як надакучу табе.

— Паглядзім, — агрызнуўся воўк і пабег у поле шукаць авечак.

Прыбягае да чарады авечак, а хлопчык як крыкне з воўчага жывата:

— Гэй, пастухі, воўк крадзецца!

Пачулі гэта пастухі, прагналі злодзея. Ды яшчэ і сабак нацкавалі на яго.

Прыбег воўк у лес і кажа хлопчыку:

— Вылазь вон!

— Не вылезу, — адгукаецца хлопчык. — Нясі мяне дадому.

— Не панясу! — злуецца воўк.

Выгаладаўся воўк і зноў пайшоў шукаць спажывы. Але куды ні прыйдзе, усё няўдача: не дае яму хлопчык спакою.

Зусім схуднеў воўк, ледзьве ногі цягае. А хлопчык усё сваё права правіць:

— Нясі мяне дадому!

Бачыць воўк — няма рады: панёс хлопчыка дадому. Прынёс да двара і кажа:

— Вылазь. Вунь твая хата.

— Не, — адказвае хлопчык, — нясі на двор.

Прынёс яго воўк на двор і зноў крычыць:

— Вылазь!

— Не, нясі ў сенцы.

Прынёс яго воўк у сенцы.

Тут хлопчык выскачыў і як закрычыць:

— Тата, хадзі ваўка біць!

Выбег бацька з качаргою і забіў ваўка. Шкуру злупіў і бабе шубу пашыў. А баба засмажыла за гэта дзеду і сынку гуся.

Тут і казка ўся.

# Сямейнае чытанне ад «Мастацкай літаратуры»

Дзе яшчэ, як не ў сям'і, далучыць дзяцей да добрай кніжкі! У сённяшнім аглядзе прапануем вам выдадзеныя ў гэтым годзе кніжкі, адрасаваныя дзецям рознага ўзросту: ад тых, хто толькі пачаў разглядаць малюнкі, седзячы на руках у дарослых, да тых, хто марыць пра ўласныя вынаходніцтвы і адкрыцці. У выдавецтве "Мастацкая літаратура" ўбачылі свет кніжкі "Казачка пра гандляра Пятра, Казу і Каляды" Ігара Кузьмініча і "Кучаравы пэндзлік" Ільі Шахрая.

Вольга ПАЎЛЮЧЭНКА

## Як гандляр Пятро Казе галаву задурыў

"Казачка пра гандляра Пятра, Казу і Каляды" Ігара Кузьмініча напісана ў добрых традыцыях народнай беларускай казкі. Яна пра часы "даўнія-старадаўнія. Было гэта так даўно, што ніхто і не памятае калі. А казачку гэтую мне расказала сама Каза на мінулыя Каляды", — сцвярджае Ігар Расціслававіч. Тая самая, што Сонейка кліча і спаць яму не дае. Дзеля гэтага даводзілася Казе ўжываць розныя хітрыкі. Але ж знайшоўся і за яе хітрэйшы — гаспадар Пятро. Як і дзеля чаго Пятро Казу запрашаў ды частаваў, адкуль пайшлі Каляды і ўтварылася зіма, раскажа кніжка з сонечнымі малюнкамі Алесі Галоты.




## Вось і так бывае

Як сцвярджае Ілья Шахрай, аўтар кніжкі для малодшага школьнага ўзросту "Кучаравы пэндзлік", спачатку зязюля вучылася ў пеўня кукарэкаць, але толькі пачала, як яе напалохаў кот. І таму замест галасістага "ку-ка-рэ-ку" пачала заікацца. А начны матылёк быў дзённым ды наступіў на сонечнага зайчыка. Той паскардзіўся сонейку, і яно асляпіла летуна. А ці так яно было, ці не — на тое яна і казка. Весёлыя, з нечаканым сюжэтам казкі з гэтай кніжкі: пра пушынкі з футбольнага поля, чароўную падушачку, вялікую пячатку джунгляў і тое, чаму ў бусла шыя і дзюба доўгія, як з'явіўся паштальён, стаў доктарам Айбаліт, што рабіць са знаходкай і нават як праславіцца. Аздобіў гэтыя гісторыі мастак Павел Чапялевіч.

# Правда, и ничего, кроме правды

Евгения БЕЛИНА

Книга**“ВкогтяхГПУ”Ф. Олехновича** — первая в мире книга воспоминаний о жизни в советских лагерях, которая раскрывает сущность советской карательной системы. Это рассказ о том, что пришлось пережить автору в советских тюрьмах и Соловецком концлагере в период 1927 — 1933 гг. Благодаря художественной форме, книга обладает несомненными литературными достоинствами и в то же время является документальным повествованием. Весьма полезна для избавления от бытующих до сих пор среди определённой части общества мифов о якобы “самом справедливом и гуманном” советском государстве, о “счастливой жизни” советских людей.




Книга “В когтях ГПУ” впервые была опубликована еще в 1934 году — в парижской русскоязычной эмигрантской газете. В следующие пять лет она вышла отдельными изданиями на польском, украинском, белорусском, итальянском, португальском языках. Выходит, что именно белорусы — Франтишек Олехнович и Иван Солоневич — за 30 лет до солженицынского “Архипелага ГУЛАГа” первыми рассказали миру правду об изнанке советской жизни.

В четвёртое, исправленное и дополненное, издание помещено много ранее не публиковавшихся фотографий, четыре статьи об авторе. Жизнь Ф. Олехновича была сложнее всяких схем. Один из основателей белорусского профессионального театра и кабаре. Крупный белорусский драматург и узник соловецких лагерей. Автор многих драм, большинство которых написано на фольклорно-исторические сюжеты. Он обогатил нашу драматургию несвойственными ей ранее жанрами (декадентская и историческая драма, оперетта, городская комедия) и новым героем (эгоцентричный житель города, интеллигент-неврастеник).

Как свидетель он первым в Европе рассказал о системе карательной деятельности ГУЛАГа, основав традицию отечественной мемуарной литературы, посвящённой теме сталинских репрессий.

Жизнь поднимала его вверх и бросала на дно, не спрашивая его согласия. Он жил в такие времена, когда судьбы людей решали исторические обстоятельства. Иногда легко и счастливо, но чаще — жестоко и неумолимо. Люди становились жертвами рока, независимо от занимаемой ими жизненной позиции и даже при её отсутствии.

Это издание — своеобразный дневник мученика, заключённого ГУЛАГа — помогает лучше понять сложную эпоху и самого автора.

“Не было, кажется, случая в истории литературы, чтобы художник заставлял себя что-то делать насильно, бросал на рынок непроверенное произведение, далёкое от его взглядов. Если же такие случаи возможны, то читатель легко почувствут фальшь”. Трудно найти другие слова, которые бы столь метко характеризовали Франтишка Олехновича, его стремление всегда, при любых политических обстоятельствах оставаться самим собой. “Я — не политик, я — культурник, я — театральный работник”, — эта фраза проходит не только через судебное дело Олехновича, она пролегает через всю его жизнь.

# Детям — самое-самое!

Анна ПОЛЯКОВА

За всю историю мировой литературы, от библейских времён до наших дней, создано множество замечательных произведений для детей. Где найти такую книгу, которая вмещала хотя бы часть из них? Настоящий подарок приготовило ООО “Харвест” к началу учебного года, выпустив серию **“Полная хрестоматия для начальной школы”**. Автором-составителем является **Николай Белов.**




Сегодня представим вам три сборника — для второго, третьего и четвёртого классов. В них — настоящий калейдоскоп лучших произведений для детей, которыми зачитывались многие поколения. Юный читатель откроет для себя мир волшебных сказок, познакомится с героями, которые станут для него любимыми и запомнятся на всю жизнь.

Для самых маленьких в первой книге собраны лучшие сказки всеми любимых писателей: “Айболит” К. Чуковского, “Конёк-Горбунок” П. Ершова, “Лягушка-путешественница” В. Гаршина, “Золушка” Ш. Перро, “Сказка о рыбаке и рыбке” А. Пушкина и другие. Вы найдёте в ней небольшие рассказы Л. Толстого, М. Пришвина, В. Драгунского, стихотворения А. Барто, Ф. Тютчева, М. Лермонтова... Книга для третьего класса более сложная по содержанию, но не менее интересная. Здесь собраны не только рассказы и сказки знаменитых писателей, но и русская поэзия, былины, а также литература Древней Руси и мифы Древней Греции.

Серию завершает хрестоматия для четвёртого класса. Она включает сказки, рассказы, былины, басни, стихи, русские предания и даже библейские легенды. Хрестоматия станет хорошим помощником для учителей начальных классов. Благодаря разнообразному содержанию эти интересные книги будут не только занимательным чтением, но и расширят кругозор ребенка, дадут ему начальное представление о мировой литературе.

Трудно перечислить все произведения, которые включены в хрестоматию, но каждое из них по праву занимает почётное место в мировой литературе. А в век компьютеров и телевидения книги с таким богатым содержанием способны привить школьникам любовь к печатному слову.






# Сила 13-го

Екатерина БЕДУЛИНА

Одно из самых ожидаемых продолжений в современной фантастике — четвёртая книга фантастической саги **“Древний. Вторжение” Сергея Тармашева** — автора “Наследия” и серий “Ареал” и “Тьма”.

Об авторе известно немного — большая часть информации засекречена. Офицер в седьмом поколении. Окончил суворовское училище. Служил в спецназе ГРУ, выполняя задания в горячих точках. Сегодня Сергей Тармашев живёт в Москве и работает инструктором по рукопашному бою.

“Древний” — самый популярный цикл постапокалиптической фантастики. Визитная карточка Сергея Тармашева. История гибели человечества в результате собственной жадности и беспринципности. История борьбы за выживание, героических подвигов, борьбы за власть.

В начале XXII века незначительный конфликт между Индией и Пакистаном приводит к непоправимым последствиям. 29 августа 2111 года навсегда войдёт в историю цивилизации как День Великой Катастрофы. День, в который старый мир прекратил своё существование. Шесть с половиной столетий длилась Эпоха убежищ. Шесть с половиной столетий люди выживали в бункерах и изолированных от внешнего мира схронах. Шесть с половиной столетий не смели выйти на поверхность изуродованной, ядовитой, убитой ими планеты. Именно тогда впервые прозвучало имя, которому было суждено пережить века и даже тысячелетия. Стать символом надежды. Путеводной звездой для тех, кто смог пережить Последнюю Войну человечества. Офицер-спецназовец, известный под позывным “Тринадцатый”.

Страшный, неведомый, неуязвимый и незримый враг из самых потаённых глубин Космоса обратит свой алчный, вечно голодный взгляд на Содружество Людей. И вот уже, повинуясь его приказам, собираются неисчислимые армады кровожадных Чужих. А значит, вновь потеряны десятки планетарных систем и гибнут миллиарды жизней. И вновь, как тысячи раз до того, цивилизация окажется на грани уничтожения, сполна познав горечь бессилия и цену беспечности. И в тот момент, когда, казалось, всё кончено, снова придёт он…

Клуб бібліяфілаў

Аляксандр ВАШЧАНКА

# Пошукі, знаходкі, набыткі, расчараванні…

## Запіскі мінскага кніжніка

У сярэднявеччы на Магілёўшчыне працавала дынастыя знакамітых кнігадрукароў — Васіль Вашчанка і яго сын Максім. Можа, і я маю нейкае дачыненне да гэтага роду? Але ўжо адно тое, што маці, Вашчанка Ніна Антонаўна, выкладала ў Дварэцкай школе Чашніцкага раёна мову і літаратуру, спрыяла майму захапленню кнігамі.

### “БУДАВАЦЬ” ЧАЛАВЕКА

Доўгімі восеньскімі і зімовымі вечарамі, калі яшчэ не было тэлевізара, маці чытала нам з сястрычкай кніжкі. Гэта былі казкі Пушкіна, “Мцыры” Лермантава, “Канёк-Гарбунок” Яршова ў перакладзе на родную мову, “Крестьянские дети” Някрасава, “Что такое хорошо?” Маякоўскага, вершы Купалы і Коласа. Я перакананы, што хатняе чытанне добрых кніжак і слуханне народнай і класічнай музыкі закладваюць трывалы падмурак, на якім можна “будаваць” інтэлігентнага чалавека.

У якасці падарунка за выдатную вучобу пасля заканчэння першага класа мяне ўзнагародзілі двухтомнікам Янкі Маўра. “Палеская рабінзоны”, “Амок”, “У краіне райскай птушкі”, “Слёзы Тубі” былі творамі, якія адчынілі дзверы ў таямнічы свет далёкіх краін, падарожжаў, прыгод і перачытваліся па некалькі разоў. “Рабінзон Круза” Даніэля Дэфо, “Апошні з магікан” Фенімора Купера і “Пятнаццацігадовы капітан” Жуля Верна былі не менш любімымі. Карэла-фінскі эпас “Калевала”, выдадзены ў Мінску ў 1956 годзе, з малюнкамі Н. Качаргіна і ў перакладзе для дзяцей А. Любарскай перачытваўся дзясяткі разоў і цяпер займае пачэснае месца ў маёй кніжнай шафе. У пятым класе, калі вучыўся ў Чашніках, аднакласнік даў мне пачытаць “Тры мушкецёры” А. Дзюма з умовай, што на наступны дзень аддам яму кніжку. З ліхтарыкам пад коўдрай я за адну ноч прачытаў гэту непараўнальную кнігу. Нездарма ж кажуць, што калі існуе Рабінзон Круза, то ён на бязлюдным востраве чытае “Трох мушкецёраў”.

Карацей, калі ў 1969 годзе я стаў студэнтам літаратурна-музычнага факультэта мінскага педагагічнага інстытута імя А. М. Горкага, то ўжо быў перакананым кнігалюбам. Большая частка стыпендыі і грошай, якія давалі бацькі, ішла на набыццё кніг. Галоўным месцам, дзе можна было купіць старыя кнігі і зборы твораў пісьменнікаў, была букіністычная кнігарня на Ленінскім праспекце ля Інстытута фізічнай культуры. Асаблівага ажыятажу тады яшчэ не назіралася, і зборы твораў класікаў можна было набыць без праблем.

Кнігі сталі не толькі духоўным багаццем, але і модным упрыгожаннем інтэр'ера. Некаторыя жонкі “крутых” босаў падбіралі кнігі пад колер шпалер або дываноў. Наяўнасць хатняй бібліятэкі нібыта гаварыла пра інтэлігентнасць яе жыхароў. Але ж кніжкі яшчэ і чыталі! У краме “Падпісныя выданні”, што насупраць кінатэатра “Цэнтральны”, за тры дні да плануемай падпіскі энтузіястамі складаліся спісы жадаючых. Ноччу праз кожныя дзве гадзіны праводзілася пераклічка. Тых, хто спазніўся або не прыйшоў, выкрэслівалі. Аматары праводзілі ночы ў бліжэйшых пад'ездах, сонныя ішлі на працу, затое за цярпенне атрымлівалі квіток на збор твораў любімага пісьменніка. Прычым, калі аб'яўлялася падпіска на трох пісьменнікаў, можна было выбраць толькі аднаго. Так я падпісаўся на дзесяцітомнае выданне Пушкіна і поўны збор твораў Дастаеўскага ў трыццаці тамах.

У краме “Радуга” на плошчы Калініна восенню праводзіўся тыдзень кніг ГДР. Немцы прывозілі на продаж танныя альбомы па мастацтве. За тры з паловай рублі можна было набыць альбом сусветна вядомага мастака з серыі “Welt der Kunst” у цвёрдай вокладцы з прыстойнай паліграфіяй. Мне аднойчы пашчасціла: трапіў у краму ў першай двацатцы і праз паўгадзіны выйшаў пакамечаны ў чарзе, але са стосам альбомаў Гоі, Ван Гога, Рубенса, Рафаэля, Дзюрэра, Рэпіна і шыкоўным Эрмітажам. Вядома, пазней з'явіліся альбомы больш высокай паліграфічнай якасці, але ў 1985 годзе мы былі рады і гэтаму. Ля букіністычных крам пачалі дзяжурыць хлопцы, якія пераймалі здатчыкаў літаратуры, праглядалі кнігі і куплялі самае дэфіцытнае. Да іх траплялі і рэдкія кнігі. Але калі кліентаў спрабаваў спыняць незнаёмы чалавек, то яго маглі і адтаўчы.

За 20 кілаграмаў макулатуры пачалі выдаваць квіток на набыццё папулярнай кнігі. Я помню карыкатуру на балючую тады тэму: чалавек здае васьмітомнік Конан-Дойла і атрымлівае квіток на набыццё кнігі “Выбранае” таго ж пісьменніка. У школах рэгулярна праводзіліся акцыі па зборы макулатуры. Дзеці прыносілі не толькі старыя газеты. Я працаваў настаўнікам, таму праглядаў прынесенае. Колькі цудоўных кніг “вывудзіў” са зваленых у кучу стосаў! Адна з гэтых кніг у мяккай вокладцы цяпер перада мной. Гэта “Хрестоматия по литературе для 4 класса начальной школы”, Учпедгиз, 1945 год. Быццам нічога незвычайнага, але надпіс маленькімі літарамі: “Напечатано Издательством Советской Военной Администрации в Германии, Берлин, 1945 г.” прымушае думаць інакш. Уявіце сабе: у разбураным Берліне друкавалі падручнікі для нашых дзетак, якія перажылі жудасную вайну!

Яшчэ адна крыніца набыцця — “Кніга — поштай”. Газета “Книжное обозрение” была настольнай, усе цікавыя навінкі я запісваў у асобны сшытак і потым спрабаваў заказаць па пошце. Нешта і дасылалі. Без праблем прыходзілі кніжкі малдаўскіх выдавецтваў “Карця малдавяняскэ” і “Лачафурэл”, і былі яны цікавыя: “Казкі” Андэрсена ў двух тамах, раманы Жуля Верна, Андрэ Маруа і шмат чаго іншага. Дарэчы, у “Книжном обозрении” была рубрыка “Читатель — читателю”. Праз яе я доўгія гады абменьваўся кнігамі і завочна сябраваў з аматарамі чытання з Піцера, Краснаярска, Іркуцка і іншых гарадоў былога Саюза.

### КІРМАШЫ ЛЯ “РОШЧЫ”

Сярод аматараў кнігі нарадзілася новая з'ява — нефармальныя кніжныя кірмашы. Праўда, кірмашамі яны сталі потым, а першы час кнігі не прадавалі, а толькі абменьвалі. Продаж лічыўся амаль ганебным учынкам. Збіраліся ля Інструментальнага завода на вуліцы Казлова, ля кінатэатра “Змена”, у скверы ля Ратушы, ля “Падпісных выданняў” на Ленінскім праспекце, ля Свіслачы насупраць стадыёна “Дынама”. Потым нас “выціснулі” за межы горада. На некалькі год самым папулярным месцам стаў прыпынак электрычкі “Рошча”, што ў Курасоўшчыне. Прайшоўшы сотню метраў, вы аказваліся на ўтульнай лясной паляне, дзе ў нядзелю збіралася да дзвюх-трох сотняў кніжнікаў. Аматары распакоўвалі сумкі, на цыраце раскладвалі свае кніжкі, а потым абыходзілі паляну і разглядалі багацці суседзяў. Знайшоўшы патрэбную кнігу, прапаноўвалі яе ўладальніку паглядзець вашы, і, калі яму нешта падабалася, адбываўся абмен. Звычайна ён быў доўгім і складаным: за патрэбную кнігу прыходзілася аддаваць некалькі сваіх альбо выменьваць для яе ўладальніка патрэбную яму кніжку.

Але аднойчы на кірмаш зрабіла нечаканы рэйд міліцыя. Многіх хлопцаў арыштавалі, завезлі ў райаддзел і склалі пратаколы. Астатнія разбегліся. Праз тыдзень паўтарылася тое ж самае. Чаму так адбылося? Ну, па-першае: якой камуністычнай уладзе маглі быць даспадобы нефармальныя сходы? Па-другое, на кірмаш прыносілі літатуру, “вынесеную” з паліграфкамбіната. І аднойчы, калі на паліграфе друкавалі пяты том дэфіцытнага збору твораў Аляксандра Дзюма з “Каралевай Марго”, які распаўсюджваўся толькі па бібкалектары, трэцяя частка тыражу аказалася выкрадзенай. Народныя ўмельцы выносілі асобна выданне без вокладкі і вокладку, а дома клеілі кнігу (прасцейшыя прыстасаванні для пераплёту мелі многія). Быў скандал усесаюзнага маштабу. Следчыя прыязджалі нават з Масквы, і тады паляцелі многія галовы. Дарэчы, за пятыя тамы Дзюма, якія набываліся ў знаёмых хлопцаў з паліграфа, я выняняў у масквічоў таўшчэзную “Біблію” (у савецкія часы гэту самую чытаемую ў свеце кнігу было вельмі складана набыць), “Выбранае” Булгакава з “Майстрам і Маргарытай” (яна цанілася ў Мінску ў 100-120 рублёў — сярэднямесячны заробак настаўніка) і “Вершы” Мандэльштама з серыі “Бібліятэка паэта. Вялікая серыя” — легендарна-дэфіцытную кнігу.

Пасля разгону кірмашу ў Курасоўшчыне мы спрабавалі збірацца на рыбакомплексе, на адным з прыпынкаў электрычкі ў кірунку Маладзечна, але былой папулярнасці не было. І тут пачалася перабудова. Прадпрымальныя людзі зразумелі, што цягу да кніг можна ператвараць у грошы. Яны пачалі арэндаваць памяшканні ў Дамах культуры і прадаваць білеты для жадаючых набываць кнігі. Такія суботнія і нядзельныя кірмашы адбываліся ў ДК прафсаюзаў, чыгуначнікаў, камвольнага камбіната, канцэртнай зале “Мінск”. Росквітам можна лічыць кніжныя кірмашы, якія праходзілі ў Палацы дзяцей і моладзі на Камсамольскім возеры. На першым паверсе гандлявалі індывідуальныя прадпрымальнікі, якія прывозілі кнігі з Масквы і іншых гарадоў, а букіністы са сваім багаццем размяшчаліся на другім. За суботу і нядзелю кніжныя кірмашы наведвалі тысячы людзей, прычым не толькі з Мінска, не толькі з усёй Беларусі, але і з былых рэспублік Савецкага Саюза. Там можна было сустрэць і вядомых асоб. Зблізшы, гэта былі зносіны блізкіх па духу і захапленні людзей. З цягам часу індывідуальныя прадпрымальнікі, якія плацілі падаткі і зараблялі нядрэнныя грошы, вырашылі пазбавіцца ад неарганізаваных канкурэнтаў. У апошні раз букіністы знайшлі сабе прытулак у ДК Трактарнага завода.

### ПАЛЯВАННЕ НА АНТЫКВАРЫЯТ

Цяпер пра кніжныя багацці. Войны і пажары зрабілі сваю чорную справу: на Беларусі і ў беларусаў мала кніг XVII—XIX стагоддзяў. Пры непісьменным сялянстве бібліятэкі былі толькі ў памешчыкаў, магнатаў і заможных адукаваных гараджан. За ўдзел у паўстаннях пад кіраўніцтвам Касцюшкі і Каліноўскага маёнткі шляхты рабаваліся, а бібліятэкі вывозіліся ў Расію. Нездарма ж Расійская Нацыянальная бібліятэка ў Санкт-Пецярбургу валодае цяпер самым вялікім у свеце раздзелам беларушчыны. А вяртаюцца да нас у лепшым выпадку электронныя копіі кніг…

Дарэчы, адно з найбольш моцных уражанняў у жыцці я атрымаў менавіта ў гэтай бібліятэцы, куды паехаў, каб адсканаваць лісты Паўла Шпілеўскага і некаторыя з яго прыжыццёвых выданняў. Па дапамогу звярнуўся да земляка — загадчыка аддзела рэдкай кнігі прафесара Нікалаева. Ён дапамог і ў якасці падарунка зрабіў для мяне невялікую экскурсію па сваіх багацціх, куды



простаму чытачу трапіць немагчымы. Для пачатку правёў мяне ў залу, дзе захоўваецца бібліятэка Вальтэра. Справа ў тым, што пасля смерці знакамітага філосафа і пісьменніка яго, бадай лепшую ў Еўропе, прыватную бібліятэку за 30 тысяч рублёў золатам (вялізную па тых часах суму!) набыла Кацярына II. Адной з мэт і ўмоў набыцця бібліятэкі ў спадкаемніцы Вальтэра спадарыні Дэні, пляменніцы пісьменніка, было вяртанне лістоў імператрыцы да філосафа, у якіх яна "гуляла" ў вольнасць. Гэта ўмова, дарэчы, не была выканана — лісты набыў і апублікаваў Бамаршэ, папярэдне пераслаўшы карэктуру Кацярыне II, якая выкрэсліла сумніўныя месцы.

Калі я пераступіў масонскія зоркі на паркетнай падлозе, то ўбачыў відовішча, ад якога сапраўднаму кніжніку можна было проста звар'яцець: пасярэдзіне залы сядзеў скульптурны Вальтэр работы знакамітага Гудона і пазіраў на высокія стэлажы, дзе захоўваюцца 6814 унікальных друкаваных выданняў у скураных пераплётах з залатымі абрэзамі і надпісамі, каля дзвюх тысяч з якіх маюць рукапісныя паметкі пісьменніка. На многіх вокладках залаты суперэкслібрыс ADV у прыгожай віньетцы. Акрамя таго, у зале знаходзіцца 50 тамоў манускрыптаў, 30 з якіх — копіі твораў Вальтэра з яго аўтарскімі праўкамі, ліставанне, рукапісы Фрыдрыха II і яго сучаснікаў і амаль 30 тамоў рукапісных копій забароненых кніг XVIII стагоддзя!

Не меншае ўзрушэнне атрымаў, калі пераступіў парог гатычнай залы, або "кабінета Фауста", дзе манументальнымі стосамі захоўваецца сем тысяч важкіх фаліянтаў інкунабул. А яшчэ альды і эльзевіры. Нагадаю, што інкунабулы — гэта кнігі, выдадзеныя ад пачатку кнігадрукавання да 1 студзеня 1501 года. Сказаць, што яны рэдкія і каштоўныя — гэта не сказаць нічога: іх тыражы складаюць ад ста да трохсот экземпляраў. А памеры і вага такія, што захоўвацца яны могуць толькі ў гарызантальным становішчы.

Але досыць лірычных адступленняў. Па вышэйназваных прычынах антыкварыят прывозіўся да нас у асноўным з-за межаў Беларусі. Самымі папулярнымі былі букіністычныя крамы Санкт-Пецярбурга і Масквы. Калі я заходзіў у краму на Васільеўскім востраве Піцера або на вуліцы Горкага ў Маскве, ад убачанага багацця пачыналі дрыжэць рукі. Можна было набыць практычна ўсё… Самымі таннымі былі піцерскія крамы і іх шыкоўны кірмаш. Знакамітыя ленінградскія інтэлігенты нават у гады блакады, паміраючы ад голаду і холаду, бераглі свае бібліятэкі, а многія з іх нашчадкаў пасля прадавалі гэтыя кніжныя багацці. Потым прадпрымальныя хлопцы з горада на Няве, многіх з якіх я ведаў, вывозілі рэдкія кнігі ў маскоўскія крамы, дзе атрымлівалі значны "навар". У Піцеры я пачаў збіраць поўнага даваеннага Пушкіна з "Academii", але да канца справу не давёў…

Добрыя кнігі трапляліся ў Вільні. Мясцовыя аматары раз на два тыдні прыязджалі на мінскі кірмаш, прывозілі нешта цікавае і паведамлялі пра апошнія кніжныя навінкі. Ужо ў 1990-я гады ў Літве пачалася хваля нацыянальнага адраджэння. Літоўцы чыталі і размаўлялі на роднай мове, таму кнігі на рускай не карысталіся былой папулярнасцю. З Вільні мне пад заказ прывезлі трохтомнік "Лістоў" Цыцэрона з серыі "Літаратурныя помнікі", якія я безвынікова шукаў доўгія гады. Адтуль жа прывезлі і паставілі на камісію ў "Вянок" поўны дарэвалюцыйны збор твораў Меражкоўскага. Ён доўгія месяцы стаяў на паліцы, выклікаючы зайздрасць аматараў, але каштаваў вельмі дорага… Аднойчы мне патэлефанаваў з Вільні знаёмы кніжнік і сказаў, што ў продажы ёсць 12-томнік "Живописной России". Хто з кніжнікаў не ведае шыкоўныя фаліянты гэтага выдання?! Але ў мяне не знайшлося патрэбнай сумы грошай, пра што шкадую да гэтага часу. Дарэчы, асобныя тамы "Живописной России" трапляліся і ў Мінску, але сабраць усе дванаццаць у нас было нерэальна.

Прыкладна з 1975 года сярод кніжнікаў пачалі "выплываць" цікавыя антыкварныя рэчы. Аказалася, што ў падвале будынка касцёла на Залатой Горцы захоўваліся кнігі і падшыўкі дарэвалюцыйных газет, вернутыя з фашысцкай Германіі (я чуў пра гэту версію). Прадпрымальны інвалід-вартаўнік праз дзірку ў падлозе апускаў у сутарэнні малых хлопцаў, якія вымалі адтуль кнігі. Потым афёру раскрылі. У той час нават з Ленінкі кралі кнігі, і, вывеўшы штампы, здавалі ў букіністычныя крамы. Але праваахоўчыя органы не спалі ў шапку, і артыкулы пра выкрыццё злачынцаў рэгулярна з'яўляліся ў друку.

У канцы 1980-х гадоў, калі яшчэ існавала "жалезная заслона" і за межы Саюза ездзілі ў асноўным дыпламаты, дзяржаўныя дзеячы і спартсмены, мне пашчасціла па прафсаюзнай пуцёўцы пабываць у Чэхаславакіі і Венгрыі. Мае спадарожнікі набывалі скураныя рэчы, абутак, крышталь, а я прывёз дзве сумкі кніг.

Беларусы былі двойчы гаротнікамі яшчэ і ў тым сэнсе, што ў час змагання каталіцызму з праваслаўем гінулі не толькі людзі, але і кнігі. Вядома, што цэрквы, манастыры і касцёлы заўсёды мелі добрыя бібліятэкі, і ўсе значныя гістарычныя хронікі напісаны менавіта ў гэтых культавых збудаваннях. Дык вось, пасля трэцяга падзелу Рэчы Паспалітай кнігі з касцёлаў былі падзелены паміж гімназіямі (пра гэта сведчыць ліст магістра Гарадзенскай гімназіі В. Ігнатовіча да беларускага гісторыка і этнографа Івана Пятровіча Барычэўскага, надрукаваны ў часопісе "Маяк" за 1845 год), і з цягам часу кнігі на польскай мове і латыні за непатрэбнасцю проста палілі. Тое ж самае рабілі каталікі з праваслаўнай літаратурай. У гады ваяўнічага атэізму таксама знішчаліся не толькі храмы, але і кнігі…

Але вернемся ў наш час. У 1990-я гады ў Мінску вырашылі правесці першы кніжны аўкцыён. Усім кніжнікам, у тым ліку і мне, былі дасланы запрашэнні. Літаральна за пару месяцаў да гэтай падзеі я працаваў музычным кіраўніком у піянерскім лагеры ля Ракава. Аднойчы, калі збіраў у лесе грыбы, натрапіў на хаціну, да якой нават не была падведзена электрычнасць. Гэта ў наш час! Пастукаў у дзверы. Да мяне выйшаў мужчына, які працаваў у нашым лагеры качагарам. Ён паказаў сваю хату, якая па бытавых умовах захавала ўсе рысы дарэвалюцыйнага часу: асвятленне было з дапамогай газніц, прасы былі на вугаллях і г. д. Падчас гутаркі ён запытаў: "Хочаш, я падару табе кнігу, якую напісаў мой дзядзька?" Я адказаў: "Вядома, хачу!" Валодзя (так яго звалі) палез на гарышча і дастаў адтуль невялікую кніжку ў цвёрдай вокладцы "Моя жизнь в Америке". Я падзякаваў за падарунак і ў той жа дзень прачытаў кнігу. Мастацкай вартасці яна не мела, а вось бібліяграфічную — пэўную. У ёй беларускі селянін, які ў пачатку XX стагоддзя паехаў за лепшай доляй у Амерыку, апісваў сваё нялёгкае жыццё ў гэтай краіне. Кніга была выдадзена, здаецца, у 1936 годзе ў Вільні за кошт аўтара. Вось яе я і выставіў на аўкцыён. Прадалі за 70 рублёў — нядрэнныя на той час грошы.

## ТРОХПАКАЁЎКА — ДЛЯ КНІГ

Цяпер пра кніжнікаў. Вельмі цікавай асобай быў (і ёсць) Яўген Е. Ён з жонкай жыў у аднапакаёўцы, а для бібліятэкі здымаў трохпакаёвую кватэру. Прыкладна раз на месяц Яўген рабіў кніжныя рэйды: аб'язджаў Прыбалтыку, Маскву, Піцер, буйныя расійскія гарады і вяртаўся дамоў з сумкамі рарытэтаў. Аднойчы за рэдкай кнігай лётаў ажно ў Краснаярск! Бібліятэка ў яго на той час была шыкоўная, мела шмат антыкварыяту. Але за добрую плату Яўген мог прадаць практычна любую сваю кнігу, спадзеючыся, што потым яшчэ яе знойдзе. Многія кніжнікі, у тым ліку і я, беспаспяхова гадамі шукалі "Падарожжа Ібрагім-бека" Марагаі з серыі "Літаратурныя помнікі". На кніжнай паліцы ў Яўгена я ўбачыў аж тры экземпляры гэтага выдання! Ён, заўважыўшы, як задрыжэлі мае пальцы, велікадушна прамовіў: "Выбірай любую. Але за 50 долараў". Жэня за год сабраў для мяне найбольш дэфіцытныя кнігі з "Літаратурных помнікаў". І я нарэшце "закрыў" самую любімую серыю!

Ш., які працаваў на заводзе Вавілава, вылучалі трапяткія адносіны да кніг: самыя любімыя трымаў у цёмнай каморы, каб не выцвіталі пераплёты, з кнігамі вітаўся кожным ранкам і вечарам жадаў ім добрай ночы. Ён плакаў, калі не ўсе кнігі змясціліся ў кантэйнер падчас яго ад'езду ў ЗША і частку іх давялося прадаць. Я набыў у яго рэдкія выданні з "Літаратурных помнікаў", сярод якіх быў "Тарас Бульба" ў супервокладцы і "Эпас сербскага народа".




Добра ведаў Р. Яго высокую постаць часта можна было сустрэць у букіністычных крамах. Ён гадзінамі мог стаяць ля стэлажоў, вывуджваючы доўгімі рукамі з верхніх паліц і ўважліва праглядаючы кожную кнігу. Збіраў і класіку, і спецыяльную літаратуру на гістарычную і археалагічную тэматыку. Аднойчы ён з сябрам прыйшоў да мяне ў школу і прапанаваў набыць сем першых тамоў з дзевяцітомнага збору твораў Ілы Эрэнбурга. Я, вядома, купіў кнігі. Але як сапраўдны кніжнік Р. два апошнія тамы Эрэнбурга, дзе былі надрукаваныя ўспаміны "Люди. Годы. Жизнь", пакінуў сабе.

Знакамітым кніжнікам быў Клок. Ён збіраў літаратуру на гістарычную тэматыку, звязаную з Паўночнай вайной, кіраваннем Пятра I, што адлюстравана на яго экслібрысе. На жаль, пасля яго смерці бібліятэка трапіла да кніжных "жучкоў", якія распрадалі яе па частках. Асобныя кнігі я бачыў на кніжным кірмашы ў Палацы моладзі, і адну з іх,"Хронику" Гала Ананіма з экслібрысам Клока, набыў.

Колькі слоў пра кніжных перакупшчыкаў. Любы сапраўдны кніжнік іх ведаў і нярэдка карыстаўся іх паслугамі для набыцця патрэбных выданняў. Многія з іх нядрэнна зараблялі. Але колькі шыкоўных бібліятэк яны "паразбівалі"! А якія балючыя ўдары наносілі кніжнікам (часта сваім сябрам), калі, карыстаючыся цяжкім матэрыяльным становішчам чалавека, бралі пад адносна невялікі залог яго кнігі, а потым, калі ён быў не ў стане своечасова аддаць грошы, забіралі кніжкі сабе або прадавалі ў некалькі разоў даражэй. Захавалася легенда пра двух такіх "жучкоў" (я іх добра ведаў), якія праз нейкую бабулю, якая атрымала ў спадчыну ўнікальную бібліятэку (магчыма, Клока?), дзе сустракаліся кнігі нават XVII стагоддзя, купілі яе за бясцэнак. Потым яны на дзвюх машынах зрабілі тры рэйсы ў Маскву і здалі на камісію кнігі ў самыя дарагія крамы.

Сярод пісьменнікаў-кніжнікаў вылучалася постаць Барыса Сачанкі. Ён збіраў і класіку, і беларушчыну, і наогул усё цікавае і адметнае. Хачу зазначыць, што ў 1970 — 1990-я гады чарговая хваля нацыянальнага адраджэння яшчэ не надышла, і кнігі на роднай мове збіралі ў асноўным беларускія пісьменнікі і навукоўцы. У букіністычных крамах можна было натрапіць на прыжыццёвыя выданні Купалы, Коласа і іншых беларускіх класікаў, на дарэвалюцыйныя паштоўкі з фотаздымкамі гарадоў і мястэчак Беларусі, на польскамоўныя кнігі беларускіх фалькларыстаў і этнографаў. Усё гэта цікавіла Барыса Сачанку.

Існуе пэўная катэгорыя аматараў кнігі, якія "засакрэчваюць" свае багацці і нікому не хочуць іх паказваць. Сярод іх вылучаўся чалавек, які разбагацеў у часы перабудовы. Мы яго звалі Банкірам. Ён збіраў антыкварыят, прыжыццёвыя выданні, "Літаратурныя помнікі". Для яго было вельмі важна, каб надпісы на вокладках аж зіхацелі. Аднойчы ён прыехаў да мяне і ўгаварыў за добрыя грошы абмяняць некаторыя з маіх больш "бліскучых" кніг на яго менш бліскучыя. Свае ж кніжныя багацці ён нікому не паказваў. А ў 65-гадовым узросце Банкір напісаў кнігу, прысвечаную ўласнаму радаводу.

## ЗНАЙСЦІ І ЗАХАВАЦЬ

Аднойчы надвячоркам я праглядаў кнігі ў маленькай кніжнай краме на вуліцы Маскоўскай. Да мяне падышоў суб'ект на падпітку і прапанаваў набыць кнігі. Ён патлумачыў, што выданні важкія і захоўваюцца ў падвале, таму трэба прайсці на суседнюю вуліцу. Было боязна, але пайшоў. Мы спусціліся ў сутарэнні, і ў цьмяным святле я ўбачыў сярод смецця чатыры важкія тамы, якія ляжалі на цэментнай падлозе. Я разгарнуў адну з кніг… І ледзьве не абамлеў, убачыўшы надпіс: "Александр Бенуа. История живописи. — С. Петербург, изд. «Шиповник», 1912, цветные картины отпечатаны фирмой Е. А. Seemann в Лейпциге". Але кнігі, асабліва ніжні том, былі папсаваны варварскім захоўваннем і вадой. Стараючыся надаць абыякавасці голасу, я спытаўся: "Што хочаш за кнігі?" Мужычок адказаў: "Ну, не менш чым па бутэльцы гарэлкі за кожную!" З я радасцю выканаў яго пажаданне, і мы, абодва шчаслівыя, развіталіся. Каб выратаваць кнігі, мне прыйшлося пастарацца: знайшоў спецыялістаў-рэстаўратараў, якія апрацавалі старонкі спецыяльным рэагентам, і цяпер гэтыя кнігі — гонар маёй бібліятэкі.

Яшчэ адна з прыкмет: нельга купляць бібліятэчныя альбо крадзеныя кнігі. Аднойчы я не вытрымаў спакусы, калі мне прапанавалі за 90 рублёў набыць важкі, шыкоўна выдадзены том "Гісторыя роду Раманавых", прысвечаны каранацыі Мікалая II. Прычым кніг было выдадзена па ліку гасцей, запрошаных на каранацыю, і кожнае выданне ўпрыгожваў арыгінальны імянны срэбны медальён. Мой экземпляр належаў нейкай нямецкай прынцэсе, але медальён быў выдраны. Я хваліўся перад знаёмымі шыкоўнай кнігай, і ўсе ахалі, разглядваючы партрэты цароў з роду Раманавых, выкананых лепшымі сусветнымі мастакамі. А потым кнігу ў мяне скралі… Праз нейкі час чалавек, у якога я набыў кнігу, прапанаваў купіць за 120 рублёў два тамы, вагой у добры пуд, прысвечаныя той жа каранацыі. Прычым, першы том апісваў гісторыю дому Раманавых, а другі быў прысвечаны самой каранацыі, распісанай літаральна па хвілінах. Я адмовіўся ад прапановы, ведаючы, што кнігі скрадзены з бібліятэкі таго інстытута, у якім я калісьці вучыўся…

Цяпер я "дарос" да таго, каб збіраць кнігі на роднай мове. Калі заходжу ў антыкварную краму, мяне ахопліваюць змяшаныя пачуцці. З аднаго боку, добра, што кнігі, за якімі мы ў свой час ганяліся, як за нейкім прывідам, стаяць у свабодным продажы, а з другога боку: чаму яны стаяць, чаму іх ніхто не купляе? Значыць, не ў лепшы бок зрушылася шкала духоўных каштоўнасцей. Новае пакаленне стала менш чытаць. І нам, пісьменнікам, журналістам, дзяржаўным дзеячам і настаўнікам, трэба думаць пра тое, як вярнуць былую цікавасць да чытання. Але я ўпэўнены, што кніга як самы надзейны носьбіт інфармацыі і паказчык духоўнасці грамадства будзе існаваць да тае пары, пакуль Сонца будзе дарыць цяпло і святло блакітнай планеце пад назвай Зямля.

# Прысвячаецца Янку Скрыгану



Рабочы куток пісьменніка.

**Доўгі час у шматдзетнай сям'і Скрыганоў былі адны дзяўчынкі. Зразумела, бацька марыў пра нашчадка, прадаўжальніка роду. І вось нарэшце на свет з'явіўся хлопчык. Людзі параілі шчасліваму бацьку выйсці раніцаю на скрыжаване дарог і папрасіць першага сустрэчнага быць хросным у дзіцяці. Маўляў, павінна дапамагчы. Так здарылася, што насустрач ехаў мясцовы пан Наркевіч-Ёдка. Мужчына слёзна выказаў яму сваю просьбу. Пан паслухаў селяніна, усміхнуўся і згадзіўся.**

**Раіса МАРЧУК,**
**фота аўтара і прадастаўленае школьным краязнаўчым музеем**

Гэту цікавую гісторыю-легенду распавялі мне ў Каменскім вучэбна-педагагічным комплексе дзіцячы сад — сярэдняя школа, дзе ў краязнаўчым музеі ёсць экспазіцыя, прысвечаная славутаму земляку, паэту, празаіку, публіцысту і нарысісту Янку Скрыгану.

— Два гады таму, калі адзначалася 105-годдзе з дня нараджэння пісьменніка, яго дачка Галіна Іванаўна запрасіла прадстаўнікоў Камсамольскага сельскага савета і нашай школы ў Мемарыяльны музей Заіра Азгура на святкаванне гэтай падзеі, — распавяла дырэктар навучальнай установы Галіна Васілевіч. — У Мінску пазнаёміліся бліжэй з Галінай Іванаўнай, якая захацела наведаць радзіму бацькі. Зразумела, мы не забыліся пра свайго знакамітага земляка. У кабінеце беларускай мовы і літаратуры пэўнае месца займалі стэнды, якія расказвалі пра яго жыццё і творчасць. І ў школьнай бібліятэцы заўсёды была выстаўка яго кніг і фотаздымкаў. А чаму б не стварыць у школьным музеі экспазіцыю, прысвечаную Янку Скрыгану? Гэтая думка нарадзілася пасля стасункаў з дачкою пісьменніка.

Пачалася карпатлівая падрыхтоўчая праца. Шмат экспанатаў атрымалі ад Галіны Скрыган. Мастацкае афармленне экспазіцыі — гэта заслуга настаўніцы пачатковых класаў Ірыны Тагіль, настаўніка інфарматыкі Ігара Крэпскага (шмат чаго было зроблена менавіта яго рукамі) і намесніка дырэктара па вучэбна-выхаваўчай рабоце Іны Пыжык. Дапамагалі і іншыя настаўнікі. На адкрыццё сабралася шмат людзей. Прыехала Галіна Іванаўна, шэраг беларускіх пісьменнікаў, прыйшлі землякі і сваякі Янкі Скрыгана.

— Лёс гэтага чалавека вельмі складаны, — паведаміла кіраўнік краязнаўчага музея Ірына Тагіль. — У дзяцінстве дзеці называлі Янку Ёдачкам, Ёдчыкам. Гэта яго моцна гнявіла. Ва ўсіх хросныя прынось падарункі, а ён амаль нічога не атрымлівае. З хроснымі сустракаліся рэдка. Але, калі рэпрэсіравалі бацькоў як вельмі заможных сялян, Янка, навучаны сястрою Ульянай, узяў кашлатага пеўня і пайшоў да пана прасіць дапамогі. Гэты выпадак ён апісваў у сваіх творах. Наркевіч-Ёдка не адмовіў хлопцу: выдзеліў дрэва на новы калодзеж і даў круп. Дарэчы, Іван Аляксеевіч нарадзіўся ў вёсцы Труханавічы Капыльскага раёна, за два кіламетры ад аграгарадка Камень. І сёння там стаіць яго дом, якому ўжо больш як стагоддзе. У Труханавічах будучы пісьменнік закончыў царкоўна-прыходскую школу, вучыўся ў Беларускай гімназіі і сельскагаспадарчым тэхнікуме ў Слуцку. Але тэхнікум на чацвёртым курсе кінуў і захапіўся літаратурай. Пэўны час працаваў у акруговай слуцкай газеце "Вясковы будаўнік". Свае першыя творы надрукаваў у 1925 годзе. Пасля рэарганізацыі Слуцкай акругі знікла і яе выданне. Янка Скрыган пераехаў у Расоны (Віцебская вобласць), быў загадчыкам Народнага дома. Пасля яго запрасілі ў газету "Чырвоная Полаччына", дзе ён пазнаёміўся з Пятрусём Броўкай. Гэтае шчырае сяброўства працягвалася больш як паўстагоддзя.



Падчас адкрыцця экспазіцыі, прысвечанай Янку Скрыгану. Дачка пісьменніка Галіна Іванаўна прымае хлеб-соль ад землякоў бацькі.

У 1932 годзе Янка Скрыган закончыў літаратурна-лінгвістычнае аддзяленне Белдзяржуніверсітэта, быў актыўным удзельнікам літаратурнага аб'яднання "Маладняк". У лістападзе 1936 года яго арыштавалі за нібыта контррэвалюцыйную дзейнасць і саслалі ў Сібір на дзесяць гадоў. У 1946 годзе вызвалілі, але пазбавілі грамадзянскіх правоў. Вымушаны быў жыць і працаваць далёка ад Радзімы: ва Узбекістане, Эстоніі. І зноў арышт. Поўнасцю рэабілітаваны ў 1954-м. Вярнуўшыся ў Мінск, Янка Скрыган працягнуў літаратурную дзейнасць. Працаваў у газеце "Літаратура і мастацтва", часопісе "Полымя", з 1967-га па 1975 год — загадчык літаратурна-кантрольнай рэдакцыі Беларускай савецкай энцыклапедыі, з 1975 па 1985 год — адказны сакратар камітэта па Дзяржаўных прэміях БССР у галіне літаратуры, мастацтва і архітэктуры. Узнагароджаны медалямі, ганаровымі граматамі Вярхоўнага Савета БССР, Ганаровай граматай Вярхоўнага Савета Тувінскай АССР.

— Доўгі час Іван Аляксеевіч не ведаў, што пасля арышту ў 1936-м у яго нарадзіўся сын, — працягвае Ірына Тагіль. — Нехк ён атрымаў вестку, нібы падчас вайны дом, дзе жыла яго жонка з бацькамі, быў разбураны, і ўсе загінулі. Знаходзячыся ў Фергане, сустрэў адзінокую жанчыну Ганну, з якой вырашыў звязаць лёс. У новай сям'і нарадзілася дачка Галіна. Калі ўжо стаў знакамітым пісьменнікам, даведаўся, што ў яго ёсць сын Усевалад, які жыве ў Германіі. Дарослы сын сам знайшоў бацьку дзякуючы публікацыям яго твораў. Але сустрэцца ім не давялося.

Вялікую цікавасць уяўляе здымак 1936 года, змешчаны на адным з нашых стэндаў. На фотакартцы — Янка Скрыган з першаю жонкаю Галінай. Здымак быў разрэзаны на дзве часткі. Але, на дзіва, абедзве захаваліся. Пасля арышту, як стала вядома, частку яго фотаздымкаў родныя знішчылі, бо баяліся большых рэпрэсій.

Наведвальнікаў музея заўсёды прывабвае рабочы куток Янкі Скрыгана. На пісьмовым стале — любімыя рэчы пісьменніка: пенал для ручак са скуры, які ён сам пашыў; будзільнік — яго заўсёды браў у падарожжы і камандзіроўкі. На крэсле вісіць камізэлька — у ёй любіў гуляць. Тут жа знаходзіцца запалкавая пушка з выявай вокладкі кнігі "Скажы адно слова", якая ўбачыла свет у 1961 годзе, і паштовы канверт, выпушчаны да стагоддзя з дня нараджэння пісьменніка.

Як расказалі ў Камені, у Галіны Скрыган ёсць дзённікі, якія вёў яе бацька. Пераязджаючы на новую кватэру, іх выпадкова знайшлі ў непрыкметным скрутку. Цяпер дачка пісьменніка займаецца іх "расшыфроўкай" і рыхтуе гэтыя матэрыялы да публікацыі. Так што будзем чакаць новых звестак пра жыццё і творчасць Янкі Скрыгана.

# Помнае імгненне

**Сяргей ПАНІЗНІК**

У жніўні 1978 года я падышоў да Яна Скрыгана з набытым двухтомнікам яго выбраных твораў, выдадзеным да сямідзесяцігадовага юбілею, і з выдрукаваным мною з "львоўскай" фотастужкі партрэтам Івана Аляксеевіча. Ці не ў 1965 годзе, калі працаваў у спецфондзе Львоўскай навуковай бібліятэкі імя В. Стэфаніка, знайшоў рэдакцыйны архіў польскага месячніка "Sygnaty", які выходзіў у Львове ў 1934—1936 гадах і часта друкаваў матэрыялы на беларускія тэмы. У тым архіве ўбачыў яшчэ не выкарыстаныя ілюстрацыі з выявамі Максіма Танка ў вышыванцы, Міколы Забэйды-Суміцкага... Сярод малюнкаў знайшлося і пазнавальнае аблічча Яна Скрыгана. Імя віленскага мастака дасюль невядомае. А вось узрушэнне прататыпа зафіксавана ў дарчым надпісе: "Вельмі ж рад, што ёсць такая нагода: падпісаць кніжку самога ўладальніка, але сказаць яму сваю шчырасць. А потым — яшчэ гэты львоўскі здымак, пра які нічога і не ведаў. Сардэчна Ян Скрыган. 13.08.78".

На жаль, гэты "львоўскі здымак" за 45 гадоў так і не з'явіўся ў друку.



Ян Скрыган. Малюнак 1930-х.

*Роздум над кнігай*

# На мове душы

**Ганна НОВІК**

Значнае месца ў кнізе Аляксандра Бардоўскага "На крыжы тваіх рук" займае філасофская лірыка. Каб спасцігнуць сутнасць жыцця, паэт часта вяртаецца ў мінулае, пераасэнсоўвае яго з пазіцый сталасці. Такія ўспаміны дазваляюць не страціць раўнавагу ў мітуслівай штодзённасці.

Каханне для паэта — не толькі хвалюючая праява жыцця, але і адзін з прынцыпаў яго спазнання. Гэтае пачуццё, параўнанае з навальніцамі студзеня і снегападамі чэрвеня, не мае разбуральнай сілы, але і не песціць: "Сам сябе я распяў / На крыжы тваіх рук, / Каб пазнаць асалоду пакуты". Аднак вобраз абранніцы ва ўсіх вершах абагульнены, каханне аўтара нібыта не мае імя.

Пры разнастайнасці тэматыкі зборніка, дзе як сродак самапазнання суседнічаюць філасофская і інтымная лірыка, згадваюцца гістарычныя і грамадскія падзеі, усе вершы аб'яднаныя лейтматывам шчырага патрыятызму, адданасці Бацькаўшчыне. Пры ўсім гэтым аўтар далёкі ад "узнёслага апявання", можа, таму кожны радок знаходзіць водгук у душы і лёгка западае ў памяць.

# Невядомыя прыгоды знакамітага барона


Адзін з вобразаў знакамітага барона Мюнхгаўзена.

Часам за прыгодамі, апісанымі ў літаратурным творы, хаваецца не менш цікавая і захапляльная жыццёвая гісторыя. А за адметнымі і яркімі героямі — не менш каларытныя прататыпы. Для таго, каб высветліць гістарычна-літаратурную праўду і знайсці тую самую жыццёвую аснову твора, можна прачытаць успаміны пісьменнікаў, даследаванні спецыялістаў або здзейсніць самастойныя росшукі. Як бы там ні было, знаёмства з рэальным "бэкграўндам" дазваляе лепш зразумець літаратурны твор і адчуць сам персанаж. Прапануем увазе чытачоў "Кніжнага свету" вынікі пошукаў краязнаўцы і гісторыка Андрэя Блінца. Як гэта звязана з кнігамі? У цэнтры ўвагі даследчыка апынулася постаць вядомага кніжнага персанажа — барона Мюнхгаўзена.

**Рэдактар праекта "Кніжны свет"
Марына ВЕСЯЛУХА**

**Андрэй БЛІНЕЦ**

Што звязвае легендарнага барона, чыё імя даўно зрабілася сінонімам бахвальства і дасціпнасці, з нашай краінай? Уважлівыя чытачы кнігі Э. Распэ, напэўна, згадаюць апавяданне "Конь на стале", дзеянне якога адбываецца "ў Літве", гэта значыць, у Беларусі. А глыбоцкі краязнаўца Генадзь Комель адшукаў на мясцовых могілках пахаванне барона Мюнхгаўзена, якога невядома хто і калі завабіў у гэты куток. Я ж хачу распавесці пра цалкам рэальную гістарычную асобу, якой давялося апынуцца ў нашых мясцінах у часы Паўночнай вайны.

"Той самы Мюнхгаўзен", пра якога будзе ісці гаворка, паходзіў з курляндскай галіны роду, якой належаў маёнтак Фірцксхоф, з сям'і Ёгана фон Мюнхгаўзена. Апошні быў афіцэрам войска Рэчы Паспалітай, што не павінна здзіўляць. Курляндыя была сумесным уладаннем Вялікага Княства Літоўскага і Польшчы, а тагачасныя магнаты ахвотна наймалі немцаў на службу. Нават у сярэдзіне XVIII ст. пры двары Радзівілаў у Слуцку нямецкую мову можна было пачуць часцей, чым якую іншую. У 1687 г. Ёган памёр, пакінуўшы пасля сябе двух сыноў, якія ўжо ў наступным годзе згадваюцца як "польскія афіцэры". На жаль, іх імёны невядомыя. Шведскі даследчык Хокан Хенрыксан мяркуе, што адным з іх быў Дзітрых фон Мюнхгаўзен, які ў 1699 г. меў званне лейтэнанта. У дакументах 1706 г. Мюнхгаўзен згаданы сярод камандзіраў рот палка польскага магната Юзэфа Вандаліна Мнішака. Быў гэта Дзітрых ці яго брат, сказаць нельга.

Імя Мюнхгаўзена сустракаецца ў дакуменце, які мае звыклую для тых часоў доўгую назву "Падрабязная справаздача аб бойцы паміж палкоўнікам Лейбгвардыі Ягонай Каралеўскай Вялікамосці коннага палка баронам Крэйцам ды маскавіцкім генералам Няплюевым пад горадам Клецкам у Літве…, ды аб тым, што надалей да 15 траўня адбывалася". Друкаваную рэляцыю адшукаў у свой час гісторык Андрэй Катлярчук, а з рукапісным варыянтам аўтара гэтых радкоў пазнаёміў ужо згаданы Хокан Хенрыксан.

Палкоўнік Карл Густаў Крэйц — адзін з найбольш таленавітых палкаводцаў Карла XII — напрыканцы сакавіка 1706 г. падступіў да Ляхавічаў, дзе знаходзіўся саюзны гарнізон, што складаўся з казакоў Пераяслаўскага палка Івана Міровіча ды найманых жаўнераў пад камандаваннем Мюнхгаўзена. У згаданай рэляцыі ён названы камендантам крэпасці, але праўдападобна, што агульнае кіраўніцтва абаронай ажыццяўляў украінскі палкоўнік. Казакі, спаліўшы палову паселішча, адступілі за замкавыя муры. Крэйц, які не меў дастаткова сіл для штурму, размясціў свае войскі ў ацалелай частцы горада і надзейна блакіраваў замак. Нягледзячы на аблогу, абаронцы трымаліся бадзёра. Умацаванні, узведзеныя яшчэ гетманам Хадкевічам, дазвалялі адчуваць сябе ў небяспецы, а колькасна гарнізон не саступаў шведам. Казакі неаднойчы выходзілі на вылазкі і нават прыводзілі палонных, да таго ж замкавыя гарматы вялі моцны артылерыйскі агонь па варожым лагеры. Шведы ж справядліва разлічвалі, што блакада і голад зробяць у рэшце рэшт сваю справу. Неўзабаве Міровіч паведаміў гетману Мазепе, што не зможа доўга ўтрымліваць крэпасць з-за недахопу прадуктаў: "поневаж и борошна (муки) не стало и кони все едны выздыхали, а другие з голоду облежэнцы повеядали". У красавіку на дапамогу абложаным фартэцыі выйшаў руска-ўкраінскі корпус, які паводле розных ацэнак налічваў ад 5 да 9 тысяч чалавек. Улічваючы, што каля крэпасці стаяла крыху больш як тысяча шведаў, саюзныя сілы мусілі з поспехам выканаць пастаўленую задачу. Аднак атрымалася наадварот.

Пакінуўшы пад Ляхавічамі невялікі заслон, Крэйц з асноўнымі сіламі рушыў напярэймы праціўніку і 19 красавіка ў Клецку ўшчэнт разбіў непрыяцеля. У палон трапіў палкоўнік і 70 салдат, было захоплена 4 гарматы і 16 сцягоў. У той самы дзень ляхавіцкі гарнізон, убачыўшы змяншэнне варожых сіл, здзейсніў аж тры вылазкі. Калі да горада вярнуліся перадавыя атрады шведаў, абаронцы палічылі іх за рэшткі разбітых аддзелаў, на радасцях пачалі біць у барабаны і літаўры, трубіць у трубы і страляць у паветра. Але неўзабаве з'явіўся Крэйц з асноўнымі сіламі, ведучы за сабою палонных. А калі насупраць замкавых валоў былі пастаўлены трафейныя гарматы, у абложаных знікла апошняя надзея на паратунак. З гэтага моманту ў стане абаронцаў пачаўся раскол. Казакі былі гатовыя і далей трымаць абарону, а вось Мюнхгаўзен настойваў на капітуляцыі. Учарашнія паплечнікі ператварыліся ледзьве не ў зацятых ворагаў, справа, верагодна, дайшла да ўзброенага супрацьстаяння. Становішча і сапраўды было незайздросным. Хоць каніны яшчэ заставалася дастаткова, шведы бачылі кавалкі мяса, што віселі паўсюдна на сценах, солі і мукі не было зусім. Найманы жаўнер, барон Мюнхгаўзен, відаць, быў гатовы загінуць у баі, але не паміраць з голаду. 1 мая 1706 г., скарыстаўшы момант, ён, разам з паплечнікамі адчыніў браму перад драгунамі Крэйца. Ляхавіцкі замак, які дасюль лічыўся непрыступным і вытрымаў не адну аблогу, упершыню ў гісторыі здаўся непрыяцелю. Паводле некаторых крыніц, антаганізм паміж казакамі і жаўнерамі настолькі абвастрыўся, што шведы былі вымушаны падзяліць палонных. Казакоў трымалі пад вартай у замкавых памяшканнях, а найманцам дазволілі размясціцца ў сваім лагеры.

Як пісаў Крэйц, у Ляхавічах было захоплена 1 500 казакоў ды 300 "немцаў і ліцвінаў". Прозвішчы апошніх, прыведзеныя ў спісе палонных, выклікаюць асаблівую цікавасць. Так, сярод службоўцаў роты Мюнхгаўзена згадваюцца афіцэры Самуэль Казарын, Крыштоф Неваяроўскі, артылерыст Ян Савіцкі, салдат Лука Зазаневіч. У апошнім выпадку шведскі пісар мог недакладна перадаць гучанне прозвішча Сазановіч, якое даволі распаўсюджана на Клеччыне. Сустракаецца і прозвішча Казарын. Атрымліваецца, што сярод падначаленых Мюнхгаўзена былі нашы землякі. Дарэчы, энцыклапедыя "Вялікае Княства Літоўскае" паведамляе, што гарнізон на момант капітуляцыі складаўся толькі з 1 360 казакаў. Як бачым, гэта не зусім адпавядае сапраўднасці.

4 мая ў Ляхавічы прыбыў Карл XII. Ён агледзеў замак і палонных, якім паабяцаў захаваць жыццё. Праз два дні кароль з асноўнымі сіламі рушыў на Клецк. У Ляхавічах застаўся невялікі атрад, які вартаваў палонных і, выконваючы каралеўскі загад, займаўся разбурэннем замкавых умацаванняў. Неўзабаве палонныя былі накіраваны ў польскія парты, а адтуль — у Швецыю. Але імя Мюнхгаўзена ў спісе тых, хто прыбыў у Скандынавію, не сустракаецца. Дакументы сведчаць, што многія вайскоўцы, захопленыя падчас кампаніі, памерлі ў Польшчы, не вытрымаўшы доўгага шляху. Асабліва шмат іх пахавалі ў Познані. Магчыма, там скончылася і жыццё барона Мюнхгаўзена, які ўпісаў не самую мужную старонку ў гісторыю Ляхавіцкага замка.

## Чытальная зала




# На добрую-добрую память

**Ольга ПАВЛЮЧЕНКО**

Поэзия Елены Казанцевой — нежная, лиричная, трепетная. На первый взгляд, безыскусная: *"Я всё время пишу и пишу; / я стараюсь писать покороче, / чтоб не мучить хороших людей, / чтоб не ездили к ним неотложки; / чтобы самый известный злодей / улыбался, как мальчик с обложки".* Но лаконичные строчки в сочетании с гитарным аккордом ложатся на душу, проникают в сердце и остаются там навсегда. Её героиня беззащитная, открытая, умеющая в любви только отдавать — всю себя, без остатка. *"Мы своё имущество поделим, / пианино в скупку отдадим. / Если б ты любил на самом деле, / ты бы от меня не уходил".* Тем и симпатична она — и не только дома и в России, а далеко за рубежом. И близко тоже. Песни Елены Казанцевой переведены на польский: и "Алёшенька", и про ботинки (*"Богатым нужно много денег / на экипажи и балы; / а бедным только на ботинки, / и чтобы были не малы"*), и про матрас ("Я скучаю, на матрасе лёжа"), музыкальную шкатулку и одинокие ночи... Что стало прекрасным поводом для выхода новой книги, подписывая которую Елена шутит: "От меня и группы польских товарищей". Это — Станислав Вашэк, Рэнэ Коэльблен, Агата Штайнер, Юстына Бач, тексты которых можно тут же сравнить с оригиналом. Понравится читателям и чёрно-белая графика Ольги Чикиной, и вышивка Марины Белькевич "На извозчике едет Алёшенька" по мотивам Казанцевского шлягера.

Сборничек стихов Елены Казанцевой "Я тебя любила, как невеста…" вышел в прошлом году в издательстве "Медиал" и сразу же стал библиографической редкостью. Его с удовольствием дарят и принимают в подарок, потому что строки Елены подобны лёгкому дыханию. *"На долгую-долгую память / дарю тебе фотку свою, / на добрую-добрую память, / на память твою и мою. / На долгую-долгую память, / на долгую-долгую грусть… / Дарю тебе фотку на память, / чтоб помнил меня наизусть".*

Теперь ещё и по-польски.

*Літсувязі*

# Праявы душэўнай велічы

**Сяргей МІКУЛЬЧЫК**

Для мяне асабіста кніга "Подзвіг Эмамалі Рахмона" падаецца цікавай яшчэ і таму, што адзін з яе аўтараў — наш зямляк, ураджэнец Беларусі. Размова — пра Леаніда Чыгрына, які пасля ваеннага ліхалецця апынуўся ў Таджыкістане і назаўсёды звязаў сваё жыццё з Усходам.

Ведаю, што ў творчым садружжы з Ато Хамдамам менавіта Леанід — генератар многіх ідэй, руплівы іх выканаўца. Разам пісьменнікі даўно працуюць над цыклам гістарычных твораў "Тайны гісторыі", куды ўваходзяць ужо больш як 20 раманаў і аповесцей. Іх кнігі выдаюцца ў Кітаі, Італіі, Турцыі, іншых краінах свету. Вось і аповесць "Подзвіг Эмамалі Рахмона" — твор гістарычны. Аналізуючы час кіравання краінай прэзідэнтам Эмамалі Рахмонам, літаратары зазіраюць у даўніну Таджыкістана. У адным з раздзелаў кнігі чытаем: "Палітыка як сукупнасць вялікіх і малых падзей неадназначная ў сваіх праявах. Яна складаецца з мноства плыней, якія не заўсёды бачыць наша вока ці ўспрымае наш розум, і патрабуецца мець вялікую праніклівасць і заглыбленасць мыслення, каб зразумець, з чаго складаецца аднастайнасць сучаснай палітыкі, якую ажыццяўляе выбітны дзяржаўны дзеяч.




Такія думкі ўзнікаюць, калі знаёмішся з працамі Эмамалі Рахмона. Асэнсоўваючы гісторыю таджыкскага народа, яго месца і ролю ў сусветнай цывілізацыі, бачыш, што Прэзідэнт не проста разважае пра мінулыя падзеі, а нібыта разглядае іх праз прызму свайго стаўлення да народа, выканання сваіх абавязкаў перад грамадствам…"

Запытаўшыся ў Леаніда Чыгрына, што ж прывабіла яго ў асобе Эмамалі Рахмона, што падштурхнула да мастацкай распрацоўкі яго вобраза, вось што пачуў у адказ:

— Час кіравання краінай, асабліва на пачатку прэзідэнцтва, дастаўся нашаму герою вельмі і вельмі няпросты. Людзі не толькі нішчылі ідэалы, але і забівалі адно аднаго… І ў яго, Прэзідэнта, хапіла розуму, мужнасці і, калі хочаце, душэўнасці, каб трывогу і драматызм падзей пераўтварыць у стваральніцкі рух жыцця. Працэс, пагадзіцеся, няпросты. Рэчаіснасць некаторых іншых постсавецкіх краін паказвае, што не ўсім і не заўсёды гэта ўдавалася ў апошнія дваццаць гадоў… Эмамалі Рахмон здолеў выруліць, знайсці правільны напрамак для краіны, таджыкскага грамадства. І, канечне ж, нас цікавіла, за кошт чаго, за кошт якіх душэўных і сардэчных праяў гэта ўдалося. Часам аднаго розуму мала. Чалавекам у такіх абставінах, на такім месцы павінен кіраваць яго ўнутраны змест, яго гістарычны светапогляд.

**— Леанід, а ці не цягне вас на радзіму?**

— І цягне, і думаю пра сваю родную Віцебшчыну пастаянна… Ды так ужо склаўся лёс… Таджыкістан — не проста месца майго сённяшняга жыхарства. Гэта — і частка сэрца, частка маіх мар і памкненняў, маё вечнае прыстанішча. Усходам я захоплены як літаратар, даследчык розных этапаў яго гісторыі. Праца над мастацкім партрэтам Таджыкістана і яго лепшых сыноў і дачок прыносіць мне велізарную асалоду. Вельмі рады, што адна з нашых з Ато Хамдамам кніг загучала па-беларуску. Гэта свайго роду і маё вяртанне на радзіму!..

# «Літаратуры не на карысць замкнёнасць»

**Вольга ПАЎЛЮЧЭНКА**

Гэтыя словы Георгія Марчука сталі лейтматывам сустрэчы беларускіх творцаў з вядомым пісьменнікам Таджыкістана Ато Хамдамам у Саюзе пісьменнікаў Беларусі. Ужо некалькі гадоў ён з'яўляецца членам СПБ.

У межах Савецкага Саюза мы добра арыентаваліся ў літаратурнай карце нашых народаў. Нягледзячы на тэрытарыяльную аддаленасць, сувязі не згубіліся, таму што засталася шчырая зацікаўленасць абодвух бакоў у супрацоўніцтве. Дзякуючы сяброўскім стасункам Георгія Марчука, Алеся Карлюкевіча і іншых беларускіх літаратараў з таджыкскімі калегамі па пяры вядучыя сучасныя пісьменнікі гэтай краіны добра вядомы чытачам Беларусі, а ў Таджыкістане выдадзена анталогія твораў сучасных беларускіх празаікаў і паэтаў.

Высока ацэньваючы ўклад беларускіх пісьменікаў у збліжэнне нашых літаратур, Ато Хамдам уручыў ім узнагароды ад Саюза пісьменнікаў Таджыкістана. Узнагароджаны Алесь Карлюкевіч, Георгій Марчук. Граматамі "За важкі ўклад і плённую працу па прапагандзе сучаснай таджыкскай літаратуры на беларускай зямлі" адзначаны Анатоль Зэкаў, Юрый Сапажкоў, Таццяна Сівец і Ірына Качаткова (на рахунку якой пераклад твораў Ато Хамдама: аповесці "Подзвіг Эмамалі Рахмона", п'есы "Начны званок", казкі "Хлопчык Пахта"; апавядання Мехмона Бахці "Злое насланнё").

"Сяброўства паміж нашымі краінамі будзе працягвацца, — запэўніў Ато Хамдам. — Пачалося выданне новага літаратурнага часопіса, першы з нумароў якога знаёміць таджыкскіх чытачоў з творчасцю пісьменнікаў з іншых краін, у другім нумары (які плануецца прадставіць падчас лютаўскай Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўкі-кірмашу) будуць надрукаваны творы таджыкскіх пісьменнікаў у перакладзе на рускую мову".

*З нагоды*

# Урок патрыятызму

**Дар'я ШОЦІК, фота Кастуся Дробава**

У Доме літаратараў прайшоў першы ўрок "Я — грамадзянін Беларусі", прысвечаны Дню ведаў. На сустрэчу былі запрошаны таленавітыя і знакамітыя творцы беларускай зямлі.

Безумоўна, выступоўцы кожны пасвойму давалі азначэнне паняццю "грамадзянін". Дзіцячая пісьменніца Алена Масла ўпэўнена, што грамадзянін — гэта дбайны гаспадар, які бядзе не толькі, як захаваць народнае багацце, але і як памножыць яго. "Неперазыдзены вобраз афіцэра, пісьменніка, чалавека добрай душы", — са шчырасцю сказаў Анатоль Сульянаў пра Васіля Быкава, прыводзячы яго асобу ў якасці прыкладу. Пра гісторыю і культурную спадчыну Беларусі, на якой жылі і жывуць таленавітыя людзі, выказаўся ў сваёй прамове дырэктар радыёстанцыі "Беларусь" Навум Гальпяровіч. Як доказ — вершы пра родны горад Полацк.

Прысутныя мелі магчымасць пазнаёміцца з кнігамі выдавецтва "Мастацкая літаратура", сярод якіх маецца серыя "Жыццё знакамітых людзей Беларусі". Дарэчы, журналістка Галіна Шаблінская прапанавала навінку серыі — "Янка Купала. «Мне сняцца сны аб Беларусі…»", у якой сабраны ўспаміны, эсэ, артыкулы і дакументы.



*Выступае Анатоль Сульянаў.*

# Злачынства і пакаранне на берагах Свіслачы

Ягор КОНЕЎ



Бадай, ужо ці не ў чатырнаццаць гадоў кнігі Уладзіміра Караткевіча адкрылі мне беларускую мінуўшчыну і незваротна заахвоцілі да яе. Памятаю, як зацікавіў другарадны персанаж рамана "Чорны замак Альшанскі" — суддзя Андрэй Станкевіч. Аўтарскае сцвярджэнне, што Станкевіч — беларускі Шэрлак Холмс, запала ў памяць невыкаранельна.

Мінаў час. Нарэшце мне патрапіліся матэрыялы, якія тычыліся судовага працэсу 1606–1609 гадоў над Марынай Стэфанаўнай Дастаеўскай. Гісторыя самай знакамітай у Вялікім Княстве Літоўскім жанчыны-забойцы была лаканічна выкладзена ў кнізе М. Валацкога "Хроника рода Достоевского", апублікаванай ажно 80 гадоў таму. Гаворка ў ёй ішла пра тое, што Дастаеўская з дапамогай палюбоўніка забіла першага мужа Станіслава Карловіча і спрабавала звесці са свету пасынка. Яе злачынствы выкрыў суддзя Андрэй Станкевіч. Аднак куды складаней аказалася давесці судовую справу да завяршэння. У час суда Марына Дастаеўская пабралася шлюбам з Саламонам Псарскім, а потым і зацяжарала, каб пазбегнуць смяротнага пакарання.

Драматычная форма падалася мне найбольш адпаведнай для такога дынамічнага сюжэта. Такім чынам, герой, якога Караткевіч адкрыў некалькімі сказамі, увасобіўся ў мастацкай рэальнасці.

Сёлета споўнілася 180 гадоў з дня нараджэння Фёдара Міхайлавіча Дастаеўскага і 120 гадоў з дня яго смерці, а таксама 505 гадоў з моманту першай летапіснай згадкі пра старажытны род Дастаеўскіх. Прынамсі, у пачатку XVII стагоддзя род ледзьве не перарваўся. Адзіным пераемнікам аказаўся сын Марыны Дастаеўскай і Саламона Псарскага, якога суддзя Станкевіч уратаваў ад згубы.

Шкада, вядома, што каларытныя вобразы Марыны Дастаеўскай і Андрэя Станкевіча дагэтуль не зацікавілі ані беларускі тэатр, ані беларускі кінематограф. Тым болей маецца падстаў, каб яны атрымалі жыццё ў нашай літаратуры.

Чытачам я прапаную ўрывак з аднайменнай гістарычнай драмы.

**Дзея 1**

*Маёнтак Дурыніцы.*

*Гасцявы пакой з крэсламі, люстэркам, шафай і сталом.*

*Уваходзіць МАРЫНА КАРЛОВІЧ – у багата аздобленай жалобнай сукенцы. Прыбіраецца перад люстэркам, час-почас пазірае ў акно.*

МАРЫНА. Янка! Пане Тур!

*Уваходзіць ЯН ТУР, кланяецца.*

МАРЫНА. А ці гатовы, пане мілы, сустрэць мы госця важнага?

ТУР. Мяркую, пана суддзю зачаруе пекнасць вашай парсуны.

МАРЫНА. Велцэ на тое спадзяюся.

ТУР. Будзе яму да густу парадак у вашым маёнтку.

МАРЫНА (*хмурыцца*). Пакуль штo не маім… А ці падмялі двор?

ТУР. Двойчы.

МАРЫНА. А ці памылі падлогу ў доме?

ТУР. Тройчы.

МАРЫНА. А ці падрыхтавалі пакой для гасцей?

ТУР. Суддзю чакае новая пярына. Яго сакратара – свежая салома.

МАРЫНА. Ці прасачыў, каб слугі ўмыліся, папрычасаліся?

ТУР. Ім загадаў я носа на двор не паказваць.

МАРЫНА. А як там пасынак час бавіць?

ТУР. Сядзіць у клеці ціха, як калода. Чытае малітоўнік. Яму ўначы вяроўку я падкінуў. Падумаў: мо павесіцца? А ён і не варухнуўся.

МАРЫНА (*прыкра*). Вось жа рухля, доўбня дурная!.. Ну ды няхай наконт яго земскі суддзя клапоціцца. (*Уздыхае.*) Ды толькі дзе ён важдаецца? Чаму марудзіць?

ТУР. Змушае чакаць сябе суддзя разумны. Інакш паменшыцца павагі да яго асобы. А гэта шкодна для закону.

МАРЫНА. Калі б мой дзядзечка не ўгаварыў яго заняцца нашай справай, чакаць мы мусілі б куды даўжэй.

ТУР. Карысна мецi сваяком суддзю Галоўнага трыбунала.

МАРЫНА. Але ж без пастановы земскага суда і Трыбунал за мной маёнтак не зацвердзіць. Маёмасныя справы разглядаюцца строга па інстанцыях. Такі парадак непарушны ў нашай Рэчы Паспалітай.

ТУР (*спачувальна*). О бюракратыя! Як іржа крышыць жалеза, так неўзаметку яна разбурае дзяржаву.

МАРЫНА (*прыкладае далоні да грудзей*). А калі ў час размовы я незнарок зраблю вось так? Ці не пазорысты прымаю выгляд?

ТУР (*моршчыцца.*) Баюся, ягамосць суддзя не пра следства стане думаць, але наконт вашых павабаў і пяшчотаў.

МАРЫНА (*летуценна*). Ах, люблю я зачароўваць паноў!

**Дзея 2**

*Уваходзіць ФЕЛІКС ВІСЛАВУХ.*

ВІСЛАВУХ (*здымаючы капялюш*). Шаноўнаму панству наш нізкі паклон! Як кажуць, госць у дом – то Бог ідзе ў дом…

МАРЫНА (*апускаецца на калені, гаротна прыкладае рукі да грудзей*). Знядоленая ўдава прыпадае да ножак вашай міласці! Кроў майго бязвіннага забітага мужа прагне помсты і справядлівасці!

ВІСЛАВУХ. Буду мець на ўвазе.

ТУР (*падае на калені*). Пакарайце забойцу, ваша міласць!

ВІСЛАВУХ. Абавязкова. Толькі вы крыху памыліліся. Я не суддзя, а ягоны сакратар. Розніца паміж намі істотная. Ягамосць пан земскі суддзя атрымлівае жалаванне шаснаццаць коп грошай. А сакратар – чатыры. У раз'ездах на пастоі ягамосць спіць на пярыне. А я – на саломе. Прынамсі, пярына для яго міласці гатовая?

МАРЫНА (*падымаецца*). Так. Але куды яго міласць падзеліся?

ВІСЛАВУХ. На ганку. Бруд з ботаў венікам счышчае. Патрапілі мы ў недарэчнасць. З Менску ехалі на конях. А недалёка ад вашай брамы яго міласць, стаміўшыся ад трасяніны, пакінуў сядло, пажадаў пешшу прагуляцца. Забалбатаўся дый не заўважыў, як ступіў у каравяк.

ТУР (*падымаецца з каленяў*). Якая псота для суддзейскага гонару!

ВІСЛАВУХ. А ён жа любіць выглядаць аздобна і прыгожа!.. Я ўжо і коней звёў на стайню, і паклажу склаў у сенцах, а ён усё венікам махае, ачышчае бруд з абутку. Такі ягамосць чалавек. Усякую справу чыніць дбайна. І не супакоіцца, пакуль не завершыць яе з бляскам.

**Дзея 3**

*Уваходзіць АНДРЭЙ СТАНКЕВІЧ.*

СТАНКЕВІЧ (*папраўляе на галаве капялюш з пер'ем*). Спяшаюся засведчыць вам глыбокую пашану. Як кажуць, госць у дом...

МАРЫНА (*апускаецца на калені, цягне рукі да СТАНКЕВІЧА*). Гарацешная ўдава прыпадае да ножак найяснейшага суддзі! Кроў майго бязвінна забітага мужа моліць аб справядлівасці!

*СТАНКЕВІЧ падае знак ВІСЛАВУХУ. Той падымае МАРЫНУ.*

ВІСЛАВУХ (*МАРЫНЕ*). Яго міласць уважліва разбярэ вашу справу.

ТУР (*падае на калені*). Пакарайце забойцу, літасцівы пане!

ВІСЛАВУХ (*падымаючы ТУРА з каленяў*). Знойдзем і пакараем.

СТАНКЕВІЧ (*МАРЫНЕ*). Маю гонар адрэкамендавацца...

МАРЫНА. Мы апавешчаны ўжо. І рады вітаць у нашым сціплым кутку пана земскага суддзю Андрэя Станкевіча, менскага зямяніна, шляхціца герба Астоя. Мой дзядзечка Пётр Сасінавіч Дастаеўскі ў сваім лісце ўсё падрабязна распавёў пра вашую міласць.

СТАНКЕВІЧ. О, дзядзька ваш – найшчодрая душа. І я сардэчна рады вітаць яго любую пляменніцу... (*Забыўшыся імя, запытальна глядзіць на ВІСЛАВУХА.*)

ВІСЛАВУХ (*вымае з кунтуша папяровы скрутак, чытае*). «Пані Марына Стэфанаўна Карловіч. Шляхцянка герба Радван. Старэйшая дачка маршалка пінскага Стэфана Іванавіча Дастаеўскага. Шаснаццаць гадоў была замужам за уладальнікам маёнтка Дурыніцы панам Станіславам Карловічам. У ноч забойства мужа...»

СТАНКЕВІЧ (*ВІСЛАВУХУ*). Досыць. (*МАРЫНЕ*) Кланяюся пачцівa пані. Прыміце мае шчырыя спачуванні. (*Апускаецца на калена, цалуе МАРЫНЕ руку, падымаецца. ТУРУ*) І вас рады вітаць я, пане...

ВІСЛАВУХ (*зачытвае*). «Ян Тур. Беззямельны шляхціц герба Грыф. Восем гадоў служыць аканомам...»

ТУР (*падае на калені, цалуе СТАНКЕВІЧУ руку*). Здароўя і ўсяго добрага ад Пана Бога верна вашай міласці зычу!

ВІСЛАВУХ (*чытае*). «Маёнтак Дурыніцы. Дараваны роду Карловічаў за ратныя заслугі каралём і вялікім князем Аляксандрам. Семсот валок зямлі і луг на беразе Свіслачы. Да таго вёска і сто дзве душы халопскія, гаспадарчы дом а дванаццаць пакояў, сад з сажалкай, флігель з кухняю, каморамі, пакоямі для прыслугі. Дворні дзесяць душ. Гаспадарчыя пабудовы: гумнішча, клеці, стайня, хлеў і бровар. На пачатак года пражывалі ў Дурыніцах пяць шляхетных душ..."

ТУР (*ВІСЛАВУХУ*). Грунтоўна ж вы падрыхтаваліся да візіту.

ВІСЛАВУХ (*хаваючы скрутак*). Уважлівыя мы да кожнай дробязі.

СТАНКЕВІЧ. Я бачу дзве шляхетныя душы. Трэцяя адпачывае ў райскіх шатах. А дзе яшчэ дзве?

МАРЫНА. Чацвёртая – мой пасынак Казімір, сын пана Станіслава ад першага шлюбу. А пятая – мая сястра панна Раіна Дастаеўская. Як пайшла я замуж, то бацюхна загадаў, каб і сястру ў Дурыніцы забрала. Ён браў другі шлюб і не жадаў, каб Раіна ім з новай абраніцай вочы назалела. Жывецца тут Раіне куды лепей, чым у бацькоўскім доме. Блага, бадай, што з цягам часу характар у сястры псуецца.

СТАНКЕВІЧ. Паводле этыкету мушу засведчыць я пашану ўсім шляхетным асобам у маёнтку.

МАРЫНА. З панам Казімірам можаце пагаварыць, калі пажадаеце. Што ж да маёй сястрыцы, то працей вала за хвост цягнуць з балота, чым яе завесці ў кола прыстойнага люду. Аднак я паспрабую. (*ТУРУ*) Калі ласка, пане Тур, да нас панну Раіну запрасіце.

ТУР (*пакланіўшыся*). Як заўгодна наймілейшай пані. (*Сыходзіць.*)

**Дзея 4**

СТАНКЕВІЧ (*ВІСЛАВУХУ*). Пан Фелікс, прынясіце рэчы.

*ВІСЛАВУХ сыходзіць і вяртаецца, цягне мяхі з паклажай, раскладвае на стале паперы і пісьмовыя прыналежнасці, вешае ў шафе на цвікі судзейскае адзенне.*

МАРЫНА (*СТАНКЕВІЧУ, указваючы на крэсла*). Ваша міласць, пэўна, стаміліся ў дарозе. Прашу, перадыхніце...

СТАНКЕВІЧ (*МАРЫНЕ*). О, так, я змучыўся сядзець у сядле. Але ж у крэсле цяжкавата прэзентаваць вам новы строй, падораны мне вашым дзядзечкам-дабрадзеем.

МАРЫНА. Бракуе словаў мне, каб засведчыць шчыра, наколькі гэткі кунтуш дапасуе стройнай постаці вашай міласці.

ВІСЛАВУХ. Ён з альтамбаса, шоўкавай тканіны.

СТАНКЕВІЧ. Кунтуш прыгожы. А жупан пад ім!

ВІСЛАВУХ. З галандскага фалендыша. Тонкае сукно.

СТАНКЕВІЧ (*дэманструючы штаны*). А шаравары! На венгерскі манер пашытыя. (*Здымаючы капялюш і пагладжваючы пальцам пер'е*) А каўпак! З сабаліных шкурак выраблены. Плюмаж – з пер'яў чаплі. А верх – з шоўку. Каб сонцам галаву не напякло.

МАРЫНА. Дзе быў такі панадны кавалер шаснаццаць гадоў таму?

СТАНКЕВІЧ. У Лейдэне вучыўся. Спасцігаў мудрасць юрыдычнай навукі. Сустрэліся б тады мы – ваша мосць у мой бок і не чыхнулі б.

МАРЫНА (*уздыхае*). Хто ведае...

СТАНКЕВІЧ. Тады я выглядаў зусім не авантажна. Хударлявы, вуграваты трэці сын шляхціцашарачка. Апрануты ў абноскі, абуты ў атопкі. Акраец хлеба падаваўся мне смачным, бы цукровы пернік. Аднак нястача і ліхтуга маю волю не надламілі, а ўмацавалі.

МАРЫНА. Затое цяпер ваша міласць веле аздобны, бы паўлін.

СТАНКЕВІЧ. Які б узрост ні меў чалавек, але ў душы ён захавае смутак аб нечым, чаго не атрымаў у маладосці. Ад таго і я грэшным чынам ахвочы да гожага адзення. І калі ваш дзядзечка прэзентаваў мне раптам кунтуш, жупан і пояс, прызнаюся, быў я афектаваны...

ВІСЛАВУХ. А яшчэ ён падарыў каўпак з пер'ем і шаравары.

СТАНКЕВІЧ. І свой прэзент пан суддзя Галоўнага трыбунала суправадзіў пакорлівай просьбай – закінуць усе справы, імчаць у Дурыніцы, увязніць забойцу мужа вашага Станіслава Карловіча і зацвердзіць вашу мосць у правах нашчадка першае чаргі.

МАРЫНА. Калі наш бацюхна Стэфан Іванавіч Дастаеўскі адыходзіў на вечны спачын, то дзядзечка даў яму зарок, што будзе апекаваць нас з Раінаю. З тае прычыны ён так і клапоціцца.

ВІСЛАВУХ. І вось мы тут, хоць незавершаных справаў у нас яшчэ процьма. А дакладней, два з паловай мяхі.

СТАНКЕВІЧ. Мяркую, да першага снегу ўправімся.

МАРЫНА (*здзіўлена*). Так доўга? Лістапад жа толькі распачаўся.

СТАНКЕВІЧ. Працэс дазнання, літасцівая пані, падобны не да бегу скакуна, але да язды ў гару нагружанага воза. Суддзя абавязаны і забойцу адшукаць, і вердыкт зацвердзіць, і дакументацыю аформіць.

ВІСЛАВУХ. Наконт складання пратаколаў – тут я майстра.

МАРЫНА. Аднак павозка вашая пакіруе не ўгору, а з гары. Убойца схоплены па гарачай крыві і чакае вашу міласць пад замком.

СТАНКЕВІЧ. Злачынца ўжо ўвязнены?

МАРЫНА. То Казімір. Мой пасынак. Знешне падаецца людзям ён пачцівым, а ўнутры поўны ліцамерства і аблуды. У ноч забойства пан Тур са слугамі схапілі яго на месцы злачынства ды ў клеці зачынілі. Цяпер ваша міласць можа прымяніць да яго працэдуру катавання.

СТАНКЕВІЧ. А сведкі яго злаўмысніцтва? А матыў душагубства?

МАРЫНА. Ключніца і кухарка не аднойчы бачылі, як сын і бацька зацята спрачаліся і сварыліся. Траўніца і конюх чулі, як пан Казімір сярдзіта вымаўляў, што з такога бацькі можна суп зварыць.

СТАНКЕВІЧ. А ці пацвердзяць яны тое пад прысягай?

МАРЫНА. Яны ўсё зробяць, што я ім скажу. А што да відавочнага матыву, то вось ён, ваша міласць. (*Вымае са стала папяровы скрутак з пячаткамі, працягвае СТАНКЕВІЧУ.*)

СТАНКЕВІЧ (*разгортвае скрутак*). Тастамент пана Станіслава Карловіча. Складзены і заверамы за месяц да яго скону.

МАРЫНА. Новы тастамент. Напісаны апасля зацятай спрэчкі з сынам. У ім любы муж пакідаў мне ўсю маёмасць. А вось ранейшае завяшчанне. (*Вымае іншы скрутак са стала, аддае СТАНКЕВІЧУ.*) У ім нашчадкам першай чаргі быў названы Казімір. Увявіце, што адбывалася ў душы пасынка, калі ён даведаўся, што бацька пазбавіў яго спадчыны? Калі была толькі душа ў бацьказабойцы...

СТАНКЕВІЧ (*звярае паперы*). Натарыяльнае засведчанне сапраўднае. Родавыя пячаткі ды подпіс уладальніка супадаюць. (*Глядзіць на МАРЫНУ.*) Мне вызначылі вы кірунак следства. (*Працягвае скруткі ВІСЛАВУХУ.*) Далучыць да доказаў.

*ВІСЛАВУХ вымае з палатнянага пака скураны мех.*

ВІСЛАВУХ (*МАРЫНЕ, складваючы скруткі ў мех*). Тут я захоўваю пратаколы, паказанні сведкаў, допытныя лісты. Штодня мех будзе разбухаць, а мне яго цягаць. У час суда яго міласць зноў перагледзіць усю гэную папяровую кучу, а потым адправіць у архіў, дзе яна або згніе, або яе мышы з'ядуць, або вартаўнікі ёю печку папаляць.

СТАНКЕВІЧ (*МАРЫНЕ*). Мой сакратар-філасаф у вольную часіну памудрагеліць любіць нат тленнасці ўсяго існага.

# Аншлаг, яшчэ аншлаг!

9 верасня прэм'ерай новай рэдакцыі оперы Дзмітрыя Смольскага "Сівая легенда" Нацыянальны акадэмічны Вялікі тэатр оперы і балета Беларусі адкрывае свой 80-ы сезон. Днямі кіраўніцтва тэатра сустрэлася з прадстаўнікамі СМІ. Генеральны дырэктар Уладзімір Грыдзюшка, галоўны дырыжор Віктар Пласкіна, галоўны рэжысёр Міхаіл Панджавідзэ, мастацкі кіраўнік балета Юрый Траян, галоўны хормайстар Ніна Ламановіч і галоўны мастак тэатра Аляксандр Касцючэнка распавялі пра бліжэйшую прэм'еру і планы вялікага творчага калектыву на юбілейны год.



*Вечарамі ля Вялікага тэатра.*

**Святлана БЕРАСЦЕНЬ, фота аўтара**

## НЯЎЖО І ПРАЎДА?

"Такога вы яшчэ не бачылі!" — заінтрыгавалі журналістаў стваральнікі спектакля, якім распачнецца новы сезон. І запэўнілі, што за пастаноўку "Сівой легенды" не будзе сорамна ні тэатру, ні прыхільнікам нацыянальнага мастацтва, якія захочуць запрасіць на прэм'еру сваіх замежных гасцей. Яна адкрые праграму III Мінскага міжнароднага Калляднага опернага форуму, прычым плануецца, што за дырыжорскім пультам і ў адной з галоўных партый выступяць калегі з Вялікага тэатра Расіі. Спектакль, у якім створаны самабытна прыгожы і эфектны музычны вобраз і пануюць неўтаймоўныя жарсці; у якім на першых ролях шчыруе "зорны" склад спевакоў-акцёраў, а з імі на роўных, як універсальны выканаўца, "вакаліст і каскадзёр", існуе ў складаных мізансцэнічных умовах і хор, — такому спектаклю прадказваюць аншлаг.

"Я шчаслівы, што атрымаў магчымасць і высокі гонар працаваць над спектаклем у непасрэдным творчым кантакце з кампазітарам, жывым беларускім класікам, які належыць да старэйшага пакалення, але пры гэтым застаецца ў музычным мэйнстрыме, — кажа рэжысёр пастаноўкі **Міхаіл Панджавідзэ**. — І не ад пастановачнай групы, а менавіта ад аўтара оперы зыходзіла ініцыятыва абнаўлення самой партытуры. Наогул, якім чынам узнікла ідэя адрадзіць у рэпертуары "Сівую легенду"? Не буду "гуляць у сціпласць": гэта была мая прапанова. Я часта раздумваў пра тое, што на сцэнах нацыянальных тэатраў павінна ісці нацыянальная опера. І калі, прыехаўшы працаваць у Мінск, даведаўся, што ў 1970-я гады тут ішла "Сівая легенда", вырашыў узяцца за яе аднаўленне. Чаму з усіх пастаўленых раней беларускіх опер выбраў менавіта яе? Таму, што быў знаёмы з творчасцю Уладзіміра Караткевіча. Калісьці пагладзеў экранізацыю яго аповесці, але не надта зразумеў гісторыю, якая істотна адрознівалася ад той, што выкладалі нам у савецкі час. Таму зацікавіўся літаратурнай першакрыніцай. І творчасць Караткевіча, як нікога іншага з пісьменнікаў, я для сябе трывала ідэнтыфікаваў з Беларуссю. Рыхтуючыся да пастаноўкі оперы, пачаў чытаць "Сівую легенду" на яе арыгінальнай мове.

Калі Уладзімір Паўлавіч Грыдзюшка пазнаёміў мяне з кампазітарам, Дзмітрый Браніслававіч адразу заўважыў, што трэба рабіць новую рэдакцыю музычнага матэрыялу. Як вядома, "Сівую легенду" ён пісаў пад уражаннем самой аповесці, не маючы тэксту літаратурнага лібрэта. Толькі калі была ўжо створана музыка, у яе "мусіў упісвацца" аўтар лібрэта — Уладзімір Караткевіч, праца якога, зразумела, падпарадкоўвалася творчай волі кампазітара, яго пажаданням і рэкамендацыям. У новай рэдакцыі Смольскім зроблена не толькі сучасная аркестроўка: ёсць пэўныя перастаноўкі, перакампаноўкі, перапрацоўкі ў драматургіі партытуры. Прытым — без усялякага ўмяшання ў "кананічны" тэкст вакальных нумароў, напісаны самім Караткевічам. Таму падчас працы над спектаклем у нас не было патрэбы звяртацца да літаратурных кансультантаў. Я нямала даведаўся пра пастаноўку 1978 года, глядзеў яе тэлевізійную версію, аднак адмовіўся ад "спадкаемства" і прапанаваў, можна сказаць, сваю рэжысёрскую альтэрнатыву".

"Нас чакае не толькі выдатная мастацкая падзея, а, я сказаў бы, грамадска-палітычная з'ява, — падкрэслівае маэстра **Віктар Пласкіна**. — Нараджэнне такога твора сведчыць пра вельмі важны і неацэнны працэс: вяртанне нацыі да сваіх каранёў. Літаральна з першых рэпетыцый выявіўся каласальны энтузіязм усіх спрычыненых да новай работы. А хіба можа быць інакш? Беларускія карані твора, яго вобразны лад, гістарычныя матывы, сама мова — гэта ўсё жыве ў глыбінях генетычнай памяці людзей і праз яе пранікае ў сённяшнюю свядомасць. Важна гэту памяць абудзіць і змяніць стэрэатыпы ў стаўленні да нацыянальных твораў музычна-тэатральнага мастацтва на знак "плюс". Тэатр працуе над прэм'ерай не проста як зладжаная каманда прафесіяналаў, а як адна творчая сям'я. І я ўпэўнены, што прэм'еру "Сівой легенды" чакае вялікі розгалас і любоў публікі. Гэта будзе яскравая і прынцыпова новая з'ява: такога ніхто не бачыў на беларускай опернай сцэне за ўсю яе 80-гадовую гісторыю".

Сцэнограф **Аляксандр Касцючэнка** падзяляе меркаванне калег і дадае: "Хацелася здзівіць гледача дынамічным і ў чымсьці чарадзейным відовішчам, каб наша публіка перажыла пачуццё захаплення і гонару за нацыянальны твор. На відовішчаць спектакля поруч з намі працуюць і запрошаныя расійскія спецыялісты па мастацкім святле, відэаэфектах".

> **Уладзімір Грыдзюшка**: "За мінулы сезон залу нашага тэатра наведала 263 тысячы чалавек. Ці шмат гэта? Давайце зробім параўнанне. Усяго па краіне за той самы перыяд тэатры наведала 660 тысяч гледачоў. У Беларусі 28 дзяржаўных тэатральных устаноў. Значыць, у нашай зале пабывала, умоўна кажучы, 40 працэнтаў ад агульнай колькасці публікі. У сярэднім запаўняльнасць глядацкіх месцаў на оперных і балетных паказах дасягнула больш як 90 працэнтаў, а некаторыя спектаклі праходзяць з нязменным аншлагам".

## ТЭАТР ВЯЛІКІ: СЦЭНА НЕ АДНА

Канцэртныя праграмы оперных салістаў і малых інструментальных складаў, юбілейныя і мемарыяльныя вечарыны — з такіх спарадычных імпрэз пачыналася ў аднаўленым тэатры гісторыя Камернай залы імя Л. П. Александроўскай. Летась тут пачалі паказваць і аднаактовыя оперы. А "пад закрыццё" мінулага сезона адбылася аншлагавая прэм'ера новай версіі камічнай аднаактовай оперы Гаэтана Даніцэці "Рыта, або Пірацкі трохкутнік" (ранейшы, традыцыйны варыянт пастаноўкі быў ажыццёўлены на сцэне Цэнтральнага Дома афіцэраў, дзе НАВТ оперы і балета Беларусі працаваў падчас капітальнага рамонту свайго будынка). Паказ гэтага спектакля з поспехам прайшоў тут і 5 верасня. Паводле слоў кіраўніцтва тэатра, плануецца напоўніцу скарыстаць не толькі патэнцыял гэтай залы, дзе практычна кожны тыдзень адбываюцца музычныя падзеі. Са сваім камерным, перадусім эксперыментальным рэпертуарам неўзабаве можа ўвайсці ў афішу тэатра і яго нядаўна адкрытая Малая сцэна. Як вядома, гэта рэпетыцыйная пляцоўка балета, якая паводле сваіх параметраў з'яўляецца дакладнай копіяй Вялікай сцэны. Прынцыповыя адрозненні — у тэхнічнай аснашчанасці ды ў колькасці глядацкіх месцаў (і ўваход сюды — не праз парадные фае). Менавіта на Малой сцэне, якая з часам папоўніць свой цяперашні камплект светлатэхнічнага рыштунку, будуць ажыццяўляцца сучасныя пастаноўкі маладых харэографаў. Падзеяй месяца, безумоўна, сталася паказаная тут учора прэм'ера балета "Метамарфозы", у якім маладая харэограф Вольга Кокаль спалучыла музыку Ёгана Себасцьяна Баха з міфалагічнымі сюжэтамі знакамітай антычнай кнігі Публія Авідзія Назона. А на пачатку лістапада мае адбыцца прэм'ера балета "Зала чакання" на музыку нашага кампазітара Алега Хадоскі ў пастаноўцы вядомай балерыны Юліі Дзятко.

Сезон балета на акадэмічнай сцэне распачнецца 11 верасня зусім яшчэ свежым спектаклем — узорам рамантычнага стылю "Жызэль, або Віліcы". Тым часам ідзе праца над прэм'ерай класікі XX стагоддзя — "Серэнадай" харэографа Джорджа Баланчына на музыку Пятра Чайкоўскага. Паставіць спектакль Нанет Глушак, мастацкі кіраўнік тэатра "Балет Капітолія" ў Тулузе: ёй давялося працаваць са знакамітым балетмайстрам.

Дарэчы, у жыцці беларускага балета адбылася доўгачаканая падзея: склад трупы павялічыўся да 110 артыстаў. Гэта значыць, што ў хуткім часе кожны харэаграфічны спектакль будзе забяспечаны двума паўнавартаснымі выканальніцкімі складамі, і падчас гастроляў балета мінскі глядач ужо не застанецца без папулярнай часткі тэатральнага рэпертуару. Да таго ж, падчас такіх замежных вандровак не давядзецца "ламаць" і оперную афішу (згадайма, колькі танцаў, напрыклад, у "Яўгеніі Анегіне", "Снягурачцы", "Князі Ігары"!). Па-свойму вырашыць тэатр і своеасаблівую праблему запатрабаванасці балета Пятра Чайкоўскага "Шчаўкунчык". Паводле слоў **Юрыя Траяна**, гэты твор найбольш запатрабаваны замежнымі імпрэсарыя ў перыяд калядных і навагодніх святаў. У той самы час беларускі глядач, а найперш — самы юны, застаецца без папулярнай і прыгожай калляднай музычна-сцэнічнай гісторыі, якую не заменяць сучасныя тэатральныя ранішнікі. Таму вырашана паставіць новы спектакль "Шчаўкунчык" (балетмайстар Аляксандра Ціхамірава, мастак Юрый Купер), які будзе існаваць у рэпертуары побач з пастаноўкай Валянціна Елізар'ева. Ідзе праца і над вялікім нацыянальным балетам "Князь Вітаўт" (музыка Вячаслава Кузняцова, лібрэта Аляксея Дударава, балетмайстар Юрый Траян, сцэнограф Эрнст Гейдэбрэхт). Прэм'ера мае адбыцца ў чэрвені 2013 года.

**Зразумела, гэта далёка не ўсё, што можна распавесці пра рэпертуарныя планы, гастролі, святы і творчыя сустрэчы самага вялікага тэатра краіны, які ўрачыста адзначыць свой юбілей у маі наступнага года.**

## ART-пацеркі

**Лана ІВАНОВА**

Чарговы міжнародны каталіцкі фестываль хрысціянскіх фільмаў і тэлепраграм "Magnificat-2012" пройдзе з 9 па 13 верасня. У сёлетняй праграме ўдзельнічаюць ігравыя і дакументальныя стужкі з Беларусі, Германіі, Канады, Расіі, Украіны ды іншых краін. Адпаведна традыцыі старт фестывалю адбудзецца ў Мінску, асноўныя мерапрыемствы, у тым ліку і конкурсныя паказы, пройдуць у Глыбокім.

Брэст рыхтуецца сустрэць удзельнікаў і гасцей XXVI міжнароднага фестывалю "Белая вежа". Сёлетні форум тэатральнага мастацтва, які ўрачыста адкрыецца 9 верасня, пройдзе пад дэвізам "Класіка плюс..." Поруч з беларускімі артыстамі свае лепшыя спектаклі пакажуць госці з Азербайджана, Арменіі, Польшчы, Расіі, Украіны, Японіі, іншых краін-удзельніц.

Дзве даты, знамянальныя для гісторыі айчыннага тэатральнага мастацтва, адзначаюцца на гэтым тыдні. 6 верасня мінула 105 гадоў з дня нараджэння Леаніда Рахленкі, народнага артыста БССР, народнага артыста СССР, прадстаўніка плеяды выбітных акцёраў Купалаўскага тэатра (праслужыў тут з 1929 па 1981 год!), яго мастацкага кіраўніка (1937 — 1943) і рэжысёра, вядомага таксама сваімі работамі ў кіно (прыкладам — роля Гарлахвацкага ў камедыі "Хто смяецца апошнім" паводле К. Крапівы). А заўтра спаўняецца 105 гадоў з дня нараджэння народнага артыста Беларусі, легендарнага тэнара Ісідара Балоціна, стваральніка яркіх вакальна-сцэнічных вобразаў у спектаклях Дзяржаўнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета БССР, што ставіліся паводле оперных твораў беларускіх, рускіх і заходнееўрапейскіх класікаў.

Ансамбль салістаў "Класік-Авангард" Белдзяржфілармоніі прадставіць 13 верасня прэм'еру канцэртнай праграмы "Маэстра эпохі гусінага пяра". Няцяжка здагадацца, што прысвячаецца яна 200-годдзю з дня нараджэння Юзафа Ігнацыя Крашэўскага. "Чэмпіён пяра", чыё імя належыць і польскай, і беларускай культурам, вылучыўся не толькі даследчыцкай, літаратурнай, рэдактарскай і выдавецкай дзейнасцю: ён прафесійна займаўся музыкай і выяўленчым мастацтвам. Сваім канцэртам ансамбль пад кіраўніцтвам У. Байдава зробіць арыгінальны ўнёсак у святкаванне юбілею Крашэўскага.



*Юзаф Ігнацы Крашэўскі.*

Першае выкананне ў Беларусі "Нью-Ёркскай імшы (памяці ахвяр тэрарызму)" Яфрэма Падгайца адбудзецца 11 верасня ў сталічнай філармоніі. Мастыка, але гэты твор кампазітар завяршыў за некалькі дзён да жудаснага тэракту, які здарыўся ў ЗША ў 2011 г. Прэм'ера адбылася ў каталіцкім саборы Нью-Ёрка. У Мінску твор прагучыць у канцэртнай праграме нашага Дзяржаўнага камернага аркестра пад кіраўніцтвам Я. Бушкова з удзелам Дзяржаўнага камернага хору Беларусі (мастацкі кіраўнік Н. Міхайлава).

# З «Візітам...» у новы сезон

Апошнім часам здавалася, што мінскія тэатры перасталі здзіўляць свайго гледача. Нібы зніклі з афіш прывабныя назвы, не выходзяць у галоўных ролях знаныя акцёры, сцішылася моладзь са сваімі эксперыментамі. Але тэатр — мастацтва жывое і непрадказальнае — пры канцы мінулага сезона здзівіў нас ізноў. Адразу некалькі заўважных прэм'ер на мінскіх сцэнах! Імі будзе распачынацца і новы тэатральны сезон у сталіцы.

**Вераніка ЯРМАЛІНСКАЯ,**
**фота Аляксандра Дзмітрыева**

Барыс Луцэнка ярка нагадаў пра існаванне свайго аўтарскага тэатра пастаноўкай "Загадкавы візіт". П'еса "Візіт старой дамы" Ф. Дзюрэнмата была асабліва запатрабаваная тэатрамі гадоў 20 — 30 таму, і кожны рэжысёр бачыў "Візіт…" па-свойму. На сцэне Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя М. Горкага вядомы твор нечакана набыў сённяшняе вострае сацыяльнае гучанне, дзякуючы дакладна расстаўленым рэжысёрскім акцэнтам і сапраўды яркім персанажам, паводзіны і мараль якіх сугучныя нашай рэчаіснасці. Загадкавым і адначасова простым ды трапным падаецца мастацкае афармленне, створанае В. Маршаком. Сцэна вызвалена ад непатрэбнай мэблі. Высокія лёгкія крэслы, на якіх утульна персанажам, з'яўляюцца функцыянальнымі прадметамі і адначасова пазначаюць канкрэтнае месца знаходжання дзейных асоб. Ужо з першага з'яўлення выразна вымалёўваюцца постаці Мэра (А. Коц), Настаўніка (А. Голуб), Доктара (А. Вергуноў), Паліцмайстра (С. Юрэвіч). Яны эмацыянальна настройваюцца на сустрэчу з Кларай Цаханасьян, якая са сціплай колішняй жыхаркі іх горада ператваралася ў багатую і ўплывовую асобу і праз шмат гадоў надумалася наведаць мясціны свайго дзяцінства. Толькі вось пакуль невядома мэта візіту — і гэта акалічнасць стварае атмасферу напружанага чакання. Мільярдэрку Цаханасьян іграе актрыса Б. Масумян. Яе гераіня ў кожнай карціне бліскуча апранутая (мастак па касцюмах М. Герасімовіч) і годна трымае сябе з кожным суразмоўцам. Актрыса таямніча ўваходзіць, уплывае ў прастору спектакля і знаёміць нас з асобай неадназначнай, моцнай і метанакіраванай. У сустрэчах з людзьмі, якія абярнулі яе лёс, з былым каханым Альфрэдам Ілам (Р. Чарнецкі) — гераіня яшчэ і яшчэ раз пражывае сваё няпростае жыццё і раскрывае не выказаныя за доўгія гады пачуцці. У ёй акрамя болю і помслівасці ўсё яшчэ жыве каханне і дабрыня, яна застаецца чароўнай і прывабнай жанчынай і прагне толькі шчасця ды немагчымага вяртання былога. Гледача ў вялікім напружанні трымае непрадказальнасць учынкаў Клары, лад яе ўзаемаадносін з іншымі персанажамі. Гераіня Б. Масумян, здавалася б, усё прадумала і нават за ўсё заплаціла, але пры гэтым не разлічыла, што зло можа быць яшчэ больш непрадказальным і недарэчным.

"Візіт…" у пастаноўцы Б. Луцэнкі (рэжысёр Р. Дзерваед, кампазітар А. Ераньноў, балетмайстар В. Скварцова-Кавальская) гучна і пераканаўча сцвярджае, што чалавецтва трымаецца не на грошах і высокіх пасадах, а на ўсё тых жа спрадвечных каштоўнасцях, на тых стасунках, да якіх насамрэч імкнецца галоўная гераіня спектакля. Жыццё тэатра Б. Луцэнкі працягваецца гэтай яркай прэм'ерай, якая нагадвае трапяткое гучанне "Салодкагалосай птушкі юнацтва" Т. Уільямса і блізкая па духу многім іншым работам майстра.

Узрушальным і нечаканым атрымаўся спектакль "Шоўк" паводле рамана А. Барыко Беларускага дзяржаўнага тэатра лялек у пастаноўцы Аляксея Ляляўскага. Незвычайны ён і для самога рэжысёра. "Шоўк" прадстаўляе нам Ляляўскага не толькі як вядомага творцу тэатра эпатажнага, праўдзівага і жорсткага ў адносінах да рэчаіснасці, але і як мастака-рамантыка, вельмі ашчадлівага ў адносінах да кожнага радка аўтара, да літаратурнай першакрыніцы. Пастаноўка ажыццёўлена пераважна сродкамі драматычнага тэатра, і на першы план выводзіцца акцёр ды вобраз, створаны ім. Гісторыя кахання французскага бізнесмена і загадкавай японкі, складанасць іх адносін падаюцца тэатрам надзвычай кранальна і тонка. Варта адзначыць таленавітую сцэнаграфію Т. Нерсісян. Спалучэннем фарбаў і напластаваннем светлавых вобразаў мастачка стварае містыка-рамантычную атмасферу таямнічасці і прыгажосці адносін мужчыны і жанчыны. У пяшчотнай колеравай палітры сцэнічнай прасторы нібы адчуваецца набліжэнне асалоды ўсходняй ночы, пах райскіх кветак, цеплыня шэпту закаханых. У пастаноўцы выкарыстоўваюцца разнастайныя выразныя сродкі: маскі, сцэнаграфічныя прадметы, што "дамалёўваюць" інтэр'ер, цацачныя паравозікі і г. д., камп'ютарная графіка для большай насычанасці, маляўнічасці вобразу сцэнічнага твора. Арыгінальная музыка, створаная Я. Забелавым і В. Гармашам, падкрэслівае пачуццёва-павольную плынь спектакля, якая, здаецца, падобная дотыку да шоўку і не падуладная часу, як і само каханне.

Спектакль Мінскага тэатра-студыі кінаакцёра "Хто смяецца апошнім" паводле класічнай п'есы К. Крапівы ў пастаноўцы рэжысёра А. Кірэева ўражвае нечаканым прачытаннем хрэстаматыйнага твора. П'еса гучыць на мове аўтара, без перакладу, востра і актуальна. Што новага можна адкрыць у дачыненнях вядомых персанажаў? Аказваецца, тэатр робіць іх пазнавальнымі і сучаснымі, да болю вострыя ўспрымаюцца і праблемы паказанай у спектаклі навукова-даследчай установы. Прастора сцэны (мастак Д. Мохаў) увасабляе адно і тое ж месца дзеяння — навукова-даследчы інстытут, але пры гэтым сцэнаграфія дакладна і яскрава дэманструе зменлівы час, які ажывае ў дэталях інтэр'ера, рэчах, касцюмах персанажаў. З кожнай карцінай — нібы з абнаўленнем часу — фарбы спектакля робяцца больш яркімі і насычанымі, усё больш выразна набліжаючы да нас "малюнак падзей" драматургічнага твора і яго нечаканы фінал. Рэжысура стварае суладны акцёрскі ансамбль. Гарлахвацкі ў выкананні А. Кашперава — не толькі персанаж, які выклікае смех недарэчнасцю сваіх учынкаў, — гэта і асоба, страшная ў абмежаванасці сваіх поглядаў, жыццёвых прынцыпаў і трывушчасці на працягу доўгіх часоў. Акцёр арганічны і дакладны ў кожным жэсце, позірку, у вымаўленні кожнай фразы — таму яго вобраз цікавы гледачу і выклікае захапленне нават майстэрствам увасаблення адмоўнасці. Гарлахвацкага выдатна дапаўняе яго жонка ў выкананні актрысы І. Нарбекавай. Гераіня атрымалася прывабная і эфектная, эмацыянальная, напорыстая. Абое Гарлахвацкія неадлучныя адно ад аднаго і амаль аднолькавыя па тэмпераменце, адносінах да жыцця, схільнасці да махлярства. Тонка і надзвычай выразна распрацавана роля Тулягі акцёрам А. Цярпіцкім. Яго інтэлігентны герой мяккі, занадта далікатны і баязлівы, каб змагацца з невуцтвам і хамствам Гарлахвацкага. Ён маўкліва прысутнічае ў жыцці інстытута і міжволі падтрымлівае яго непахісныя замшэлыя "законы". Іх усім сваім існаваннем падтрымлівае і развівае Зёлкін. Акцёр Д. Пусцільнік у гэтай ролі стварае вобраз "абаяльнага распусніка": і ва ўзаемаадносінах з супрацоўнікамі, і ў стасунках з жонкай, і ў стаўленні да вялікіх "адкрыццяў" недарэчных вучоных. Пластыка акцёра — адзін з асноўных складнікаў вобраза, дзякуючы ёй Зёлкін нагадвае вальяжнага і прыгожага ката, мяккага, гнуткага і ахвотнага да ўсялякіх інтрыг і плётак. Адметны і вобраз Зіначкі Зёлкінай. Гераіня актрысы В. Сізовай не проста прыгожая і кемлівая сакратарка, у якой раман з дырэктарам інстытута. Гэты "раман" — не банальная прыгода, а неад'емная частка жыцця Зёлкінай. І таму яна паўстае ў спектаклі не бяздумнай дзяўчынкай-шчабятушкай, а ўпэўненай шыкоўнай жанчынай-вамп, якая ведае сабе цану і кошт усяму, што з ёй адбываецца. Чарнавус у выкананні У. Мішчанчука да самага фіналу застаецца… негероем, у якога няма часу выстаўляць сябе на бессэнсоўных нарадах і банкетах. Чарнавус у трактоўцы У. Мішчанчука — чалавек працавіты і сумленны, а ў навуковым свеце такія людзі часцей за ўсё не крычаць пра сябе, а моўчкі робяць сваю справу. Менавіта яны з'яўляюцца сапраўднай навуковай элітай, без якой нашы навуковыя ўстановы можна было б закрываць.

Пастаноўка М. Пінігіна **"Лістапад. Андэрсен"** А. Паповай у Нацыянальным акадэмічным тэатры імя Янкі Купалы, на жаль, здзіўляе сваёй інфантыльнасцю і бездапаможнасцю рэжысёрскага выказвання. Такімі ж бездапаможнымі ў прапанаваным драматургічным матэрыяле выглядаюць і акцёры, якія на працягу амаль усяго спектакля павінны сядзець на лаўках у "цудоўным" парку і выслухоўваць гісторыі жыцця ўперамежку з непараўнальнымі казкамі Андэрсена. Створаны рэжысёрам тэатр у тэатры нагадвае хутчэй устаўныя канцэртныя нумары, сцэнічныя замалёўкі, якія існуюць асобна ад няпростых лёсаў немаладых герояў. Вельмі шкада, што бліскучыя купалаўскія акцёры старэйшага пакалення, хаця і занятыя ў спектаклі, так і застаюцца без новай творчай работы. Гэта прэм'ера нараджалася на аснове п'есы, напісанай адмыслова для купалаўцаў. Сцэнаграфія Б. Герлавана і касцюмы А. Ігрушы сведчаць не толькі пра таленавітую, а і пра дарагую, фінансава ёмістую працу мастакоў. Але, думаецца, чаканага выніку не атрымалася…

Да згаданых прэм'ер можна было б далучыць і іншыя. Але і гэтых уражанняў дастаткова, каб яшчэ раз пераканацца: нават не заўсёды бездакорныя сцэнічныя творы даюць падставу для аналізу і дыскусій. Разнастайнымі і не падобнымі адно да аднаго спектаклямі і жывіцца тэатральны працэс.


Сцэна са спектакля "Загадкавы візіт".


Генадзь Аўсяннікаў у спектаклі "Лістапад. Андэрсен".


Лялечны "Шоўк".

# У краі зубчатага бору

Літаратары, навукоўцы, мастакі і музыканты прайшлі сцежкамі навукова-асветніцкай экспедыцыі “Дарога да святыняў”.

**Ірына ТУЛУПАВА,**
**фота аўтара**

Адкуль пачынаецца паломніцкі шлях? Ад храма, дзе служыцца малебен у дарогу? Альбо яшчэ раней, з пакойчыка, дзе складаецца маршрут экспедыцыі? Дакладна не скажаш. Але відавочна, што з кожным крокам паломніцтва набывае ўсё большую духоўную моц.

Малебен у Свята-Духавым саборы сталіцы служылі найвышэйшыя прадстаўнікі духавенства. Паломнікаў блаславіў вікарый Мінскай епархіі епіскап Барысаўскі Веніямін.

Па штогадовай традыцыі шлях з Мінска пралягаў праз Барысаўскі раён, праз Святое поле, дзе была яўлена Загор’е-Сталавіцкая ікона Пакрова Прасвятой Багародзіцы (пуцяводная для экспедыцыі).



*Шчырая размова з народнай артысткай Беларусі Марыяй Захарэвіч.*

Святое поле. Зжатае жыта. Вышытыя валошкі на мітры і аблачэнні архіепіскапа Пінскага і Лунінецкага Стэфана. Беларусь! Тваю прыгажосць услаўлялі пакаленні таленавітых продкаў. Яна ўвасоблена ў архітэктуры сабораў, палотнах мастакоў, у музыцы ветру, што калыша харугвы хрэснага ходу...

Ад храма да храма. Ад сэрца да сэрца. Ад велічнай лампады з агнём ад Гроба Гасподняга да цёплых дрыготкіх агеньчыкаў на свечках прыхаджан. Гэта таксама традыцыя: перадаваць Велікодны агонь з Іерусаліма ва ўсе куточкі краіны!

У экспедыцыі — знаныя людзі краіны: народная артыстка Беларусі Марыя Захарэвіч; член-карэспандэнт Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, доктар філалагічных навук Сцяпан Лаўшук; археолаг, доктар гістарычных навук, прафесар, навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі Пётр Лысенка; пісьменнік, намеснік старшыні Рэспубліканскага грамадскага савета па справах культуры і мастацтва пры Савеце Міністраў Рэспублікі Беларусь Анатоль Бутэвіч; паэт, загадчык аддзела паэзіі часопіса “Полымя” Вадзім Спрынчан; заслужаны артыст БССР, дацэнт Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі Генадзь Забара. Сярод удзельнікаў — галоўны спецыяліст Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь Міхаіл Образаў; мастак, намеснік старшыні праўлення Мінскага гарадскога аддзялення Беларускага саюза музычных дзеячаў Сяргей Салохін; майстар залаташвейнага мастацтва Марыя Грыб; галоўны спецыяліст упраўлення культуры Брэсцкага аблвыканкама Лія Балонкіна. Іх разам сабрала кіраўнік навукова-асветніцкай экспедыцыі, заслужаны работнік культуры, лаўрэат прэміі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь “За духоўнае адраджэнне” Ніна Загорская. Палымяныя, шчырыя словы ўдзельнікаў экспедыцыі з заміраннем сэрца слухаюць у храмах і школах, у сацыяльных прытулках і бальніцах.



*У малітве за Беларусь.*



*Сустрэча на Святым полі.*

Словы захавальніка агню, протаіерэя Свята-Духава кафедральнага сабора Сергія Гардуна пра гісторыю краіны, знітаваную з гісторыяй хрысціянства, пра асветнікаў, якія неслі людзям дабрыню і спагаду, кранаюць сэрцы. І людзі пытаюцца ў святара пра тое, што баліць, што блізкае і дарагое.

Прыпынкі. Кожны з іх — знакавы. На шляху паломнікаў была станцыя Лясная Баранавіцкага раёна і храм у гонар Казанскай іконы Божай Маці — на месцы, дзе стаяла хата, у якой нарадзіўся адзін з пачынальнікаў беларускага тэатра, першы народны артыст БССР Уладзіслаў Галубок.

Вёска Моўчадзь і хрэсны ход да храма ў імя святых апосталаў Пятра і Паўла, якому каля 150 гадоў. Каля яго — векавыя клёны, каменны крыж на магіле пахаванага тут жа святара — у выглядзе камля ад дрэва. Народныя майстры заўсёды былі пры храмах. “Цвяток радзімы васілька” — на ручніках і абразах у многіх сучасных вясковых цэрквах.

Па дарозе ў паломніцкім аўтобусе згадваем: на Талачыншчыне нарадзілася Вера Вярба, з гэтых жа мясцінаў — Алесь Петрашкевіч. У вёсцы Высокі Гарадзец Сенненскага павета Магілёўскай губерні (цяпер Талачынскі раён Віцебскай вобласці) з’явіўся на свет Міхась Зарэцкі.

Лёзненскі раён. Адзіныя на Беларусі афіцэрскія могілкі. У гады Другой сусветнай вайны на гэтых шматпакутных землях загінуў кожны другі жыхар.

Краязнаўчы музей у Гарадку. Сустрэча праз гады дачкі з бацькам. Адна з удзельніц экспедыцыі Галіна Біруля ўбачыла на стэндзе фота бацькі, партызана Пятра Гуляева, які загінуў у далёкім 1941 годзе. І тут жа распавяла пра тое, што ведала сама пра роднага чалавека і яго апошнія дні.

Гарадскі пасёлак Ула: хрэсны ход да храма ў гонар Святой Троіцы — помніка архітэктуры XIX ст. У пасёлку Ула Лепельскага павета Віцебскай губерні нарадзіўся Іван Хруцкі.

Свята-Георгіеўскі храм у гарадскім пасёлку Асвея Верхнядзвінскага раёна. Вёска Сар’я і царква Успення Прасвятой Багародзіцы. Храм не падобны на іншыя — не з цыбулінкамі, а шпілямі. Калісьці яго будоўлі спрыяў Ігнацій Лапацінскі. Дзеля таго, каб храм з’явіўся, называў яго не культавай будовай, а свецкай. І толькі праз гады яго асвяцілі як царкву.

Вёска Празарокі. Агульнаадукацыйная школа, дзе вучні з захапленнем і гонарам за сваю родную старонку далучаюцца да краязнаўчай працы. Тут першага верасня ўрачыста адкрылі музей Ігната Буйніцкага.

І, нарэшце, Глыбокае — сталіца сёлетняга Дня беларускага пісьменства. Велічны кафедральны сабор у гонар Нараджэння Прасвятой Багародзіцы. Багаты на гісторыю і паданні, як і ўсе наведаныя за пяць дзён храмы і мястэчкі.

Традыцыйна на памяць пра сустрэчы ў гарадах і вёсках садзяцца адмысловыя Сады малітвы. У Празароках у такім садзе, які стаў часткай усебеларускага саду — сімвала супольнай малітвы за Беларусь, па прапанове пісьменнікаў і навукоўцаў сярод іншых з’явілася дрэва Ігната Буйніцкага, у Глыбокім — яблынькі Максіма Багдановіча і Максіма Танка.

# Літаратурнае і лекавае

**Таццяна ШАБЛЫКА**

Хаця значная частка жнівеньскага нумара часопіса прысвечана гісторыка-культуралагічным пытанням, выданне традыцыйна адкрываецца тэматычным раздзелам “Улада”. З нагоды вераснёўскіх парламенцкіх выбараў у нашай краіне ў ім змешчана актуальнае інтэрв’ю са старшынёй Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь Уладзімірам Андрэйчанкам.

Адказаць на пастаўленае рубам пытанне “Ці ёсць будучыня ў айчыннай літаратуры?” спрабуюць члены Саюза пісьменнікаў Беларусі, запрошаныя да ўдзелу ў “круглым стале” часопіса “Беларуская думка” і газеты “Звязда”. Падчас зацікаўленай размовы пра шляхі развіцця беларускай літаратуры ўдзельнікі дыскусіі акцэнтуюць увагу на вызначэнні ролі пісьменніка ў сучасным грамадстве, адносінах чытачоў да класікі і літаратурных навінак. У кола важных тэм для абмеркавання трапілі таксама выдавецкая дзейнасць і асаблівасці сучаснай літаратурнай крытыкі.

Асабісты погляд на літаратурны і моўны працэсы ў савецкі і постсавецкі час, пытанні развіцця нацыянальнай культуры ў гістарычным разрэзе выказвае ў інтэрв’ю вядомы пісьменнік і журналіст Анатоль Бутэвіч. Літаратурны ўхіл мае і яшчэ адзін артыкул жнівеньскага нумара. Пісьменнік Алесь Марціновіч прысвячае яго 100-годдзю з дня нараджэння народнага паэта Беларусі Максіма Танка. Аўтар падрабязна даследуе вытокі паэтычнага таленту класіка, распавядае пра этапы яго жыццёвага і творчага шляху, аналізуе ідэйныя вытокі зборніка вершаў “Нарачанскія сосны”, за які паэту была прысуджана Ленінская прэмія.

Навуковы артыкул Ігара Марзалюка “Вытокі беларускага заходнерусізму і літвінізму” прысвечаны праблеме ўзнікнення дзвюх асноўных парадыгм беларускага гістарычнага наратыву. Гісторык даследуе заходнерускую і літвінскую традыцыі, персаніфікаваныя ў творчасці знакавых інтэлектуалаў нашай краіны, што жылі ў канцы XVIII — сярэдзіне XIX стагоддзя: Станіслава Богуша-Сестранцэвіча, Зарыяна Даленгі-Хадакоўскага, Іаана Грыгаровіча, Ігнація Кулакоўскага, Восіпа Сянкоўскага і іншых.

Адчуць жывую повязь далёкага мінулага і дня сённяшняга, а таксама здзейсніць віртуальную экскурсію па ўнікальным музеі, які нядаўна адкрыўся ў Мінску, можна, прачытаўшы інтэрв’ю загадчыка Музея сучаснай беларускай дзяржаўнасці Сяргея Бяспанскага.

Апроч таго, часопіс прапануе некалькі навукова-эканамічных публікацый, прысвечаных пытанням стварэння дынамічнай, канкурэнтаздольнай і экалагічна-бяспечнай вытворчасці прадуктаў харчавання ў Беларусі (Генадзь Гануш, Ірына Грыбаедава, “Будзе дзень — і будзе ежа”), пошуку новых крыніц энергазабеспячэння (Галіна Булыка, “Сланцавы адказ на газавае пытанне”), распрацоўцы новай праграмы Саюзнай дзяржавы “БелРосФарм” па стварэнні вытворчасці лекавых прэпаратаў з выкарыстаннем лактаферына чалавека, атрыманага з малака трансгенных коз (Таццяна Лобас, “Фарміндустрыя будучага”).

У нумары таксама друкуюцца артыкулы сацыяльнай і філасофскай тэматыкі, агляды кніжных навінак.



# Бліскучае сонца Прынёмання

Самыя светлыя ўражанні застаюцца ў мяне ад кожнай сустрэчы з Нёманам — маім даўнім і лепшым сябрам. Нёман! Табе няма канкурэнтаў па хараству краявідаў. Рай для творчасці — Нёман! Сяброўства з табою — не разліць вадою, галоўнае, без падману — жыві ды радуйся!

**Мікола БУСЬКО**

У шчырым яднанні з прыродай лёгка крочыцца па слядах маленства, лясіставерасовых кіламетрах Налібоцкай пушчы. Даспадобы глядзець на ўсё творчым позіркам, каб затым занатаваць убачаную радасць, ператварыўшы яе ў сказ і малюнак, паяднаць прыроду з пяром і пэндзлем.

…Угледаецца ў празрыстую далеч мастак Валодзя, наносячы першыя мазкі. Мастак Валодзя — мой зямляк і даўні сябра Уладзімір Калеснік. Але ён не лічыў сябе мастаком, а болей — аматарам. Веды і вопыт набыў толькі дзякуючы ўласнай энергіі і свайму сціпламу пэндзлю.

— Жыць сярод такога хараства і не быць мастаком — гэта недапушчальна, — сказаў мне аднойчы Уладзімір Калеснік.

Ён аўтар мноства кніг: "Час і песні", "Зорны спеў", шматлікіх літаратуразнаўчых, крытычных і дакументальных твораў. Янка Купала, Якуб Колас, Максім Танк, Янка Брыль, Уладзімір Жылка, Валянцін Таўлай — да гэтага алмазнага сузор'я, названага мною часткова, з павагай і гонарам варта аднесці і цэлую кагорту літаратараў, пра якіх ён пісаў. Сумесна з Алесем Адамовічам і Янкам Брылём паказаў трагічны лёс родных вёсак, барацьбу людзей супраць фашызму ў кнізе "Я з вогненнай вёскі…"

Замілаваная, святочная, яркая — як вясёлка, як сланечнік, апетая пісьменнікам прынёманская прырода. Уладзімір Калеснік быў выключна назіральным мастаком.

Выступаў ён і як вучоны, яму належыць кніга "Лёсам пазнанае: Выбраныя літаратурныя партрэты". Адзін з аўтараў "Гісторыі беларускай савецкай літаратуры", "Гісторыі савецкай шматнацыянальнай літаратуры", шматлікіх падручнікаў і дапаможнікаў для ВНУ.

Пісьменнік быў цікавай асобай, заўсёды знаходзіўся ў эпіцэнтры жыцця і ў курсе ўсіх літаратурных працэсаў. Асабіста ў мяне Калеснік выклікаў павагу да мастацтва, падтрымаў цягу да пяра.

— Наш Валодзік, — ласкава і з гонарам кажа мясцовая жанчына, — быў не толькі таленавіты, але і добры. Бывала, папросіш яго, і касу наклепле — не адмовіць.

— Уладзік як адчувальны барометр, — паэтычна дадае яшчэ адзін дзядзька. — Вось мы збяромся на лаўцы надвячоркам, ён падыдзе да нас, мы разам пагамонім пра даўнейшае, цяперашняе, падзелімся пачутым.

— Сустракацца вечарам у нас стала завядзёнкай, — далучаецца да размовы зямлячка. — А Валодзя наш быў харошым чалавекам, адукаваным, і, мусіць, у жыцці яму дапамагаў наш Нёман.



На гэтым месцы ў вёсцы Сіняўка была хата Уладзіміра Калесніка.




Усё гэта я пачуў на лаўцы ў Сіняўскай Слабадзе надвячоркам. Шчырыя, адкрытыя меркаванні. Яшчэ калісьці тытан фізікі Эйнштэйн сказаў, што чалавеку патрэбна лавачка, каб сесці і падумаць…

Але вернемся да Калесніка. Дастаткова раскрыць любую яго кніжку, і з яе старонак чуецца плёскат імклівай плыні Нёмана-дабрадзея, які вырваўся з прыбярэжных лясін на ўлонне за вёскай, дзе разносіцца духмяны водар чабору, клёкат буслоў, звон касы пад мянташкай. І інакш ужо не скажаш. Шматгранная тэматыка твораў Уладзіміра Калесніка, народжаная мінулым і сучасным, зніатавана з прыродай так высакародна і трывала, як налібоцкае дрэва — з роднай зямлёй.

# Якаў Навуменка: забітая Песня

27 жніўня беларускае музычнае мастацтва панесла вялікую страту: пайшоў з жыцця выдатны дзеяч нацыянальнай культуры, таленавіты спявак, народны артыст Беларусі Якаў Паўлавіч Навуменка.

Якаў Навуменка нарадзіўся 28 сакавіка 1959 года ў г. Орша Віцебскай вобласці. Свой шлях на вялікую сцэну пачаў у 1984 годзе, калі прыйшоў працаваць артыстамвакалістам у ансамбль народнай музыкі Беларускай дзяржаўнай філармоніі. Потым была вучоба ў Расійскай акадэміі музыкі па спецыяльнасці "сольныя народныя спевы" і праца ў якасці саліста ў вядомых музычных калектывах нашай краіны. Апошнія восем гадоў Якаў Паўлавіч працаваў у Нацыянальным акадэмічным народным аркестры Рэспублікі Беларусь імя І. Жыновіча Белдзяржфілармоніі. У 2011 годзе Якаву Навуменку было нададзена ганаровае званне "Народны артыст Рэспублікі Беларусь".

Высокі прафесіянал, надзвычай высакародны і спагадлівы чалавек, Якаў Навуменка быў адным з самых улюбёных і папулярных спевакоў у краіне. Народныя песні і песні беларускіх кампазітараў у выкананні майстра вызначаліся асаблівай цеплынёй, шчырасцю і душэўнасцю, нібыта яго галасам спявала сама Беларусь. І вось, калі яго звонкая песня загучала напоўніцу, зямны шлях артыста нечакана абарваўся.

Калегі артыста, супрацоўнікі Белдзяржфілармоніі, музыканты Нацыянальнага акадэмічнага народнага аркестра Рэспублікі Беларусь імя І. Жыновіча смуткуюць з прычыны смерці Якава Паўлавіча Навуменкі і выказваюць шчырыя спачуванні яго родным і блізкім.

Хай светлае неба возьме і сагрэе яго ўзнёслую душу.

**Калектыў Беларускай дзяржаўнай філармоніі**




Народны артыст Рэспублікі Беларусь Якаў Навуменка падчас выступлення на прэзентацыі "ЛіМа" (выстаўка-кірмаш "СМІ ў Беларусі-2007").

Ён збіраў песенны матэрыял для новай сольнай праграмы. Але ніхто ўжо не наладзіць авацыю прэм'еры яго канцэрта. Прэм'еры не будзе. Якаў Навуменка загінуў. Здарылася гэта ў Севастопалі: ад нападу нявысветленай асобы спявак атрымаў цяжкія траўмы, трапіў у бальніцу, медыкі змагаліся за яго жыццё, аднак...

На рытуальныя дзевяць дзён яго родныя, блізкія сябры, калегі з несуцішным болем успаміналі гэтага светлага, шчырага чалавека... Зрэшты, і дзякуй Богу, памяць наша залежыць не ад рытуальных традыцый. Усе, хто ведаў Якава Паўлавіча, папулярнага народнага артыста, усенароднага куміра, ці проста Яшу Навуменку, згадваюць яго штодня — з той самай хвіліны, як пачулі жудасную, шокавую вестку пра яго раптоўны сыход.

Смуткуюць старэйшыя супрацоўнікі Беларускага радыё, дзе пачыналася творчае ўзыходжанне спевака; смуткуе папулярны ансамбль "Бяседа", салістам якога некалі быў Якаў Навуменка. У журбе кампазітары і паэты-песеннікі, якія супрацоўнічалі з ім. Цяжкую страту перажываюць нашы суайчыннікі ў замежжы: Якаў Навуменка неаднойчы выступаў у культурных асяродках беларускіх дыяспар.

Незабыўны след пакінуў спявак у жыцці "ЛіМа", і не толькі таму, што быў героем нашых публікацый. Многія памятаюць яго выступленне на ўрачыстай імпрэзе, якая ладзілася ў сталічным Доме літаратара ў лютым 1992 года і прысвячалася 60-годдзю нашай газеты. А як падтрымаў нас вясёлымі беларускімі песнямі народны артыст, калі ўвесну 2007-га выступіў на прэзентацыі "ЛіМа" падчас выстаўкі-кірмашу "СМІ ў Беларусі"...

Такія людзі не сыходзяць бясследна. Голас Якава Навуменкі, захаваны ў фондах радыё і на кампакт-дысках, не знікне з музычнай прасторы. А дзесьці на небе, непадалёк ад зоркі Венеры, пра якую пранікнёна спяваў гэты незабыўны голас, мы будзем шукаць новую зорачку і абавязкова ўбачым яе, успамінаючы Якава Навуменку.

**Аддзел мастацтваў "ЛіМа"**

**Ігар ЛУЧАНОК,**
**народны артыст БССР і СССР, старшыня праўлення Беларускага саюза кампазітараў:**

— Цяжка пра гэта нават думаць... Няма выдатнага, цудоўнага беларускага спевака. Ці народнага, ці эстраднага — пра гэта не трэба гаварыць: проста Якаў Навуменка быў — Спявак! Ён вучыўся ў Іосіфа Кабзона, у іншых вядомых выканаўцаў, дасягнуў прафесійных вышыняў, узняў на годны ўзровень выкананне нашых песень.

**Міхась КАЗІНЕЦ,**
**народны артыст Беларусі, мастацкі кіраўнік Нацыянальнага акадэмічнага народнага аркестра Рэспублікі Беларусь імя І. Жыновіча:**

— Якаў Паўлавіч быў адным з тых таленавітых выканаўцаў, чулых да музыкі, да слова, хто нясе ў сваім голасе "стылістыку цеплыні", душэўнасць песні... Нам будзе яго неставаць.

**Алесь БАДАК,**
**пісьменнік, галоўны рэдактар часопіса "Нёман":**

— Я не ведаю іншага артыста на нашай эстрадзе, хто б сёння так апантана прапагандаваў беларускую песню, як гэта рабіў Якаў Навуменка. Ён узнаўляў нашу паўзабытую песенную класіку, запісваў песні сучасных аўтараў, прычым, для яго было не важна, наколькі гучнае імя аўтараў, для яго было важна, каб песня кранала сэрца. Мне здаецца, ён ніколі не імкнуўся да таго, каб падабацца слухачам ці гледачам. Проста падыходзіў да мікрафона і спяваў тое, што яму блізка, што адпавядала яго душы. Гэта передавалася зале, таму яго выступленне было ўпрыгожаннем любога канцэрта. Ён увесь час жыў новымі ідэямі, праектамі. Я здзіўляўся, як ён усё паспявае. Цяпер хто-небудзь з тых, хто яго добра ведаў, можа сказаць: ён спяшаўся жыць, нібы прадчуваючы, што яму лёсам так мала адпушчана. На самай справе, ён не спяшаўся. Проста галоўным у яго жыцці была песня, якая давала шмат сіл і тую энергію, што дапамагала не стамляцца, дапамагала рабіць вельмі шмат. І горка: ён мог бы зрабіць для нашай культуры значна больш. І балюча, што побач ужо ніколі не будзе такога цудоўнага чалавека.



# Зямля пад белымі крыламі

## Праект — лаўрэат VII Нацыянальнага конкурсу друкаваных СМІ «Залатая Ліцера»

*Слова краязнаўцы*



**Зінаіда СЯРГЕЙЧЫК, былая настаўніца рускай мовы і літаратуры Салаўскай базавай школы Драгічынскага раёна, распавядае, якое значэнне ў яе жыцці займае краязнаўства:**

— Падчас вучобы ў Белдзяржуніверсітэце нас знаёмілі з беларускім фальклорам. Яшчэ на першым курсе я падрыхтавала да заліку (была ж завочніцай) работу "Паходжанне назвы вёскі Салава і навакольных урочышч". Паралельна запісвала ад мясцовых жыхароў прымаўкі, прыказкі, песні.

Потым была вельмі цікавая для мяне курсавая работа "Уплыў мясцовай гаворкі на памылкі вучняў". А для дыпломнай работы выбрала тэму "Вясельныя абрады ў сучасных запісах" — першы раз за ўсю гісторыю БДУ дазволілі рыхтаваць дыплом па фальклоры! Два гады я запісвала на магнітафон неабходны матэрыял, рабіла здымкі. Слухала і глядзела, як праходзяць вяселлі, распытвала старажылаў. Запісвала толькі салаўскі абрад — атрымалася 150 рукапісных лістоў. Ды яшчэ 50 фотаздымкаў і дзве магнітафонныя бабіны. У другой папцы — падрабязны аналіз абраду. Вельмі прыемна, што работа засталася на філфаку ў якасці дапаможніка для студэнтаў. Пасля пачула па рэспубліканскім радыё ўрыўкі з маёй дыпломнай, гучалі і песні ў выкананні нашых жанчын. Дарэчы, што вельмі прыемна, мая дыпломная амаль поўнасцю ўвайшла ў зборнік "Беларускі фальклор у сучасных запісах. Брэсцкая вобласць".

Працуючы ў школе, выкладала і спевы, кіравала драматычным гуртком і мастацкай самадзейнасцю, старалася прывіць дзецям любоў да народных песень і танцаў. Разам з вучнямі афармілі альбом "Успаміны ветэранаў Вялікай Айчыннай вайны" і стэнды, прысвечаныя землякам, якія змагаліся з ворагам на фронце і ў партызанах. Правялі шмат незабыўных сустрэч з ветэранамі вайны, былымі вязнямі, салдацкімі ўдовамі...

Набліжаўся стогадовы юбілей школы. У мяне сабраўся багаты краязнаўчы матэрыял. Узнікла ідэя: чаму б не напісаць летапіс вёскі Салава, якая ўпершыню згадваецца ў пісьмовых крыніцах у 1778 годзе? Потым разам з вучнямі занатавалі летапіс калгаса "Праўда" і стварылі этнаграфічны куток "Наша спадчына". З вялікім натхненнем склала і ўласны радавод. Дзіма Усціянчык, мой вучань, таксама напісаў радавод сваёй сям'і. Спадзяюся, і іншыя вяскоўцы зацікавяцца краязнаўствам.

## Салаўю прысвячаецца

У рамках рэалізацыі прыродаахоўнай канцэпцыі "Птушка салавей — прыродны сімвал Слуцкага раёна" ў Слуцку будзе адкрыты першы ў Беларусі Музей салаўя. Над стварэннем яго экспазіцыі ўжо шчыруюць супрацоўнікі Слуцкага эколага-біялагічнага цэнтра навучэнцаў, якія збіраюць звесткі пра пярнатага спевака, падбіраюць літаратуру, карціны, фігуркі і паштоўкі. У музеі плануецца падабраць фанатэку салаўіных галасоў і песень пра салаўёў. Будзе і альбом "Радаводы салаўіных прозвішчаў" з фотаздымкамі і сямейнымі гісторыямі. Дарэчы, у 2007 годзе па выніках нацыянальнай кампаніі "Салавей — птушка года" гэты райцэнтр атрымаў тытул салаўінага горада. Летась у Слуцку і раёне налічвалася больш як 500 такіх птушак — досыць высокі паказчык.

**Бажэна СТРОК**

*Музейны ўнікат*

# Згубленая мелодыя даўніны

Выставачны праект "Мінск губернскі. Дваранскі побыт. Стагоддзе XIX — пачатак стагоддзя XX" калекцыянера і мастацтвазнаўцы Віталя Жукава ладзіцца ў імяннай галерэі Міхаіла Савіцкага. Будынак, дзе яна размешчана, знаходзіцца на плошчы Свабоды і мае цікавую гісторыю.

**Дар'я ШОЦІК, фота аўтара**

— Каб зрабіць захапляльную выстаўку, трэба перш за ўсё дакладна ведаць гісторыю будынка. На жаль, у архіўных звестках было вельмі мала інфармацыі пра яго, — распавёў Віталь Васільевіч. — Вядома толькі адно: будынак, па сутнасці, палац, пабудаваны ў 1775 годзе графам Міхаілам Пшаздзецкім — польскім арыстакратам, уладальнікам Заслаўя, падканцлерам Вялікага Княства Літоўскага. Пазней з'явіліся новыя гаспадары — Станкевічы, а потым будынак перайшоў мецэнату, літаратару, заснавальніку першага мінскага публічнага музея Юрыю Кабылінскаму. Апошні ўладальнік дома — гарадскі галава Леапольд Дэльпацэ.

Таму Віталь Жукаў размясціў тут самыя цікавыя і каштоўныя артэфакты, якія сведчаць пра жыццё Леапольда Дэльпацэ. Атрымалася вольная варыяцыя: уяўлені аўтара, як гэта магло быць у часы апошняга гаспадара.

Адметнасць будынка ў тым, што ён мае анфіладную сістэму памяшканняў. Можна прайсці праз усе пакоі па крузе і зноў трапіць у гасцёўню, дзе размешчаны аўтэнтычныя рэчы.



*Гамбсаўская мэбля — кутная тумба.*

— Выбар колеру сцен гасцёўні невыпадковы: XIX стагоддзе — перыяд эклектыкі і гістарызму, — зазначыў Віталь Жукаў. — Уся мода прыходзіць з Францыі. Каралава-тэракотавы тон быў вельмі характэрны для таго часу. Магчыма, твор Бальзака "Чырвоная гасцёўня" стаў правобразам гэтай залы, дзе мінскія арыстакраты XIX стагоддзя бавілі час, танчылі паланэзы ды мазуркі пад мелодыі Агінскага і Шапэна.

Прадстаўленыя экспанаты — лепшае з лепшага, што магло б адлюстраваць пэўны перыяд — сярэдзіну XIX — пачатак XX стагоддзя. Усяго ў экспазіцыі 120 прадметаў дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва. Гэта ўнікальная мастацкая мэбля, усходні, еўрапейскі і расійскі фарфор — разнастайныя вазы, сервізы, вырабы з фаянсу, рэдкае венецыянскае шкло, шкляныя фужэры "Бакара", падсвечнікі і інш.

Вялікую цікавасць у наведвальнікаў выклікае мэблевы гарнітур: горка, кутная тумба, тумба-паставец. Яны створаны рускімі майстрамі ў сярэдзіне XIX стагоддзя ў Санкт-Пецярбургу, хутчэй за ўсё, на мэблевай мануфактуры братоў Гамбсаў. Леапольд Дэльпацэ, магчыма, мог прывезці і абставіць такой мэбляю свае пакоі, бо дэманстрацыя заможнасці і дабрабыту, валоданне мастацкімі каштоўнасцямі мела адмысловую мэту — падкрэсліць набліжанасць свайго жытла да лепшых палацавых узораў.



*Тумба-паставец.*

— Гэта мэбля выраблена ў стылі другога ракако з чырвонага і арэхавага дрэва, таму зграбнасць, манернасць, вытанчанасць — галоўныя і адметныя яе рысы, — падкрэсліў калекцыянер. — Перажыўшы катаклізмы XX стагоддзя, драўляныя шэдэўры прайшлі складаную рэстаўрацыю. Гамбсаўская мэбля каштоўная таму, што яе амаль не засталося. У музейных калекцыях Беларусі аналагаў няма.

У тыя часы многія багатыя арыстакраты ўпрыгожвалі гасцёўні фарфорам з Кітая і Японіі, бо гэта было вельмі прэстыжна. Чарговы ўнікальны экспанат — японская падлогавая ваза, створаная напрыканцы XVIII — у пачатку XIX стагоддзя. "Ваза — сучасніца гэтага будынка. Калісьці яе разбілі на 90 аскепкаў, але рэстаўратары зрабілі немагчымае — сабралі выраб у адно цэлае", — адзначыў Віталь Жукаў.

# Вырай постфальклору

На востраве пасярод возера Зарасас, што знаходзіцца ў Літве каля мястэчка Зарасай, прайшоў фестываль постфальклору і альтэрнатыўнай музыкі ***Menuo Joudoragis*** ("Чарнарогі Месяц"). Гэты фэст з'яўляецца важнай падзеяй для аматараў розных кірункаў народнай культуры і яе інтэрпрэтацый. Беларусь на фестывалі прадставіў мінскі гурт "Ветах".

**Вячка КРАСУЛІН**

*Menuo Joudoragis* — незвычайны фэст, тут на працягу трох дзён акрамя атрымання асалоды ад музыкі, якая гучала на сямі розных пляцоўках, можна было пагуляць у футбол, валейбол, наведаць навуковыя канферэнцыі, прысвечаныя праблемам захавання і папулярызацыі аўтэнтычных форм фальклору, пад кіраўніцтвам сапраўднага індзейца навучыцца страляць з лука. З ранку і да позняга вечара любы зацікаўлены глядач мог завітаць у гарадок народнага дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, у якім ветлівыя майстры дэманстравалі свае навыкі ў ткацтве, пляценні паясоў, вырабе ўпрыгажэнняў, кавальскай справе і нават у кулінарыі.

Тэматыкай сёлетняга фестывалю быў абраны міф пра стварэнне Сусвету з касмічнага яйка. Пляцоўкі былі ўпрыгожаны папяровымі, драўлянымі і саламянымі сілуэтамі птушак, а на дрэвах можна было пабачыць адмыслова ўсталяваныя шпакоўні. Для самых маленькіх быў зладжаны дзіцячы куточак, у якім дзеткі маглі пагуляць з традыцыйнымі цацкамі, паслухаць казкі, памаляваць птушак і зляпіць свістулькі з гліны. Арганізатары развілі тэму паветранай прасторы і зладзілі Першы конкурс гонак на паветраных шарах, пілоты якіх спаборнічалі ў спробе здзівіць і ўразіць наведвальнікаў фестывалю. Пралятаючы, бы слізгаючы па воднай паверхні возера, ці завісаючы ў пяці метрах над натоўпам, яны выклікалі бурныя авацыі ў гледачоў.

Сёлета фестываль святкаваў сваё пятнаццацігоддзе, таму арганізатары паклапаціліся, каб падчас фэсту выступалі сусветна вядомыя гурты. Так, італьянскі калектыў *Ataraxia* парадаваў прыхільнікаў неафольку, бо не кожны год выпадае магчымасць далучыцца да гісторыі і наведаць выступ ветэранаў, якія стаялі ля вытокаў гэтага стылю. Украінцы *Dakha Brakha* ўпершыню выступалі ў Літве, але гэта не перашкодзіла ім сабраць аншлаг. Ад Расіі былі запрошаны піцерцы *Theodor Bastard*, якія ўвялі слухачоў у стан медытатыўнага трансу. Зразумела, было безліч выступоўцаў з Літвы, сярод іх можна вылучыць Аліну Арлову, спявачку, вядомую далёка за межамі сваёй радзімы, спевака Андрыюса Мамантаваса, ён пачынаў сваю кар'еру яшчэ ў 1980-я, постфальклорныя гурты *Gastauta*, *Linago* і *ByTikZyz*. Падарункам для слухачоў стаўся выступ ірландцаў *Cruachan*, яны выканалі лепшыя кампазіцыі, створаныя калектывам за 19 год існавання. Ох, як доўга фанаты не адпускалі іх са сцэны і выклікалі гурт на біс зноў і зноў!

Што да беларускага "Ветаха", то музыкі пачалі свой выступ з валачобнай песні, якая выдатна суадносіцца з тэматыкай фэсту, бо, як вядома, валачобны абрад звязаны з міфам пра стварэнне Сусвету. Падчас канцэрта на галоўнай пляцоўцы нашы суайчыннікі выканалі традыцыйныя песні Паўночнай і Цэнтральнай Беларусі. А ўвечары ў гарадку майстроў любы ахвочы мог далучыцца да майстар-класа па беларускіх народных танцах, які праводзілі дзяўчаты і хлопцы з гурта "Ветах".

Нягледзячы на дождж, які часам спрабаваў разагнаць натоўпы людзей ля сцэн, сёлетні фэст сабраў рэкордную колькасць наведвальнікаў. І гэта не дзіўна, бо такую падзею нельга прапусціць.

*Новы фармат*

# Праз візуальную рэканструкцыю

Інтэрнэт-культура, якая імкліва заваёўвае свет, вымагае новых падыходаў да прэзентацыі інфармацыі. Улічваючы патрэбы сучаснай аўдыторыі, супрацоўнікі Віцебскага абласнога краязнаўчага музея падрыхтавалі выстаўку ў звыклай для моладзі форме.




*Прасліца з надпісам "БАБИНО ПРАСЛЕН" (з дарэвалюцыйных раскопак на Віцебшчыне, мяжа XI – XII стст.).*

**Яўгенія КРАСНОВА, фота Валерыя Шышанава**

Распрацаваная спецыяльна да новага навучальнага года, выстаўка "Ад бяросты да InterNET@", што распавядае пра развіццё пісьменства, з'яўленне кнігі ў Беларусі і Віцебскім рэгіёне, сінтэзуе элементы сучаснай інтэрнэт-культуры і гістарычнай спадчыны. Прадстаўлена яна была падчас Дня беларускага пісьменства ў Глыбоцкім гісторыка-этнаграфічным музеі.




*Рарытэтныя кнігі — экспанаты выстаўкі ў Глыбокім.*

Асноўная ідэя стварэння гэтага праекта — паказаць магчымасць прэзентацыі прадметаў гісторыка-культурнай спадчыны пры дапамозе сучасных інфармацыйных сродкаў. Сярод экспанатаў з фондаў музея і прадметы эпіграфікі, і ўнікальная для Беларусі берасцяная грамата, і рукапісныя да друкаваныя кнігі, і выданні Віцебскай губернскай друкарні, і друкарскія машынкі XX стагоддзя, і нават мадэль персанальнага камп'ютара, які ўжо ўвайшоў у гісторыю развіцця інфармацыйных тэхналогій. Яны адлюстроўваюць, як паступова пісьменства набывала больш дасканалыя формы, праходзячы шлях ад рукапіснай кнігі да друкаванай, ад адзінкавых асобнікаў да масавага тыражу, ад друкарскіх станкоў да камп'ютараў.

Цікава афармлена сама экспазіцыя, што нагадвала неабсяжныя інфармацыйныя прасторы "сусветнай павуціны": стэнды прадстаўлены ў выглядзе старонак з афіцыйнага сайта Віцебскага абласнога краязнаўчага музея. Кожны з іх раскрывае цікавыя факты, звязаныя з гісторыяй пісьменства, з'яўлення рукапісных і друкаваных кніг, трансфармацыі кніжнай справы на працягу стагоддзяў.

*Стасункі*

# Ад клімавіцкіх латышоў

Этнаграфічная экспедыцыя пад кіраўніцтвам дэпутата парламента Латвіі ад партыі "Адзінства", члена Камісіі па адукацыі, культуры і навуцы, прафесара Латвійскага ўніверсітэта, сапраўднага члена Акадэміі навук Латвіі, аўтарытэтнага навукоўца і палітыка Яніны Курсітэ-Пакуле пабывала нядаўна на Клімаўшчыне.

**Людміла АНДРУШКОВА, дырэктар Клімавіцкага раённага краязнаўчага музея**

Пачынаючы з 2006 года, фалькларысты, археолагі, гісторыкі Латвійскага ўніверсітэта восем разоў наведвалі Беларусь з экспедыцыямі. Сёлета ў іх маршрут увайшла вёска Галіцкая Мыза — былая латышская калонія. Падчас экспедыцыі госці не толькі пазнаёміліся з этнічнай культурай Клімаўшчыны, але і сустрэліся з нашчадкамі латышскіх перасяленцаў. Дарэчы, гісторыя рассялення латышоў на тэрыторыі Клімавіцкага павета наўпрост звязаная са шляхціцам, калежскім асэсарам Вікенціем Каміёнкам, які быў адным з найбуйнейшых землеўладальнікаў павета і валодаў яшчэ маёнткам у вёсцы Родзькава, што на Быхаўшчыне.

Маёнтак Галічы на Клімаўшчыне, які шляхціц набыў у 1858 годзе, — гэта 340 дзесяцін зямлі, з якіх 250 знаходзіліся пад лесам. Пры маёнтку меўся млын, які даваў 150 рублёў прыбытку ў год. Гаспадарыў тут сам уладальнік.

Пасля адмены прыгоннага права памешчык прывёз у свае ўладанні з Латвіі 60 сем'яў латышоў і склаў з імі дамову пра тое, што яны асталююцца тут назаўсёды. Абяцаў стварыць добрыя ўмовы для пражывання. Перасяленцы павінны былі распрацаваць зямлю, якая пазарастала лесам, пад раллю і плаціць гаспадару па сем рублёў за кожную скарыстаную дзесяціну зямлі.

Латышы рассяліліся ў розных мясцінах: на месцы сучаснай вёскі Галіцкая Мыза (першапачаткова яна называлася Струг), у вёсках Фядотава Буда, Сакалоўка і Пятрова. У канцы XIX і ў пачатку XX стагоддзяў самымі знатнымі латышамі ў Галіцкай Мызе былі Карл Комурданк, Аніс Юрнавел, Рыгор Раса, Бернштэйн. На сядзібах пад Сакалоўкай жылі Эдуард і Іван Лемеш, Андрэй Стабульнік, Антусевіч, Дозборг, пад Пятрова — Іван Білдэр і Карл Розан.

Занадта вялікі перыяд часу аддзяляе нас ад прыезду першых перасяленцаў. Дзякуючы былому настаўніку з Галіч Кастусю Малашанку, у музеі захаваліся матэрыялы пра латышоў. Падчас экспедыцыі у Галічы, Галіцкую Мызу і Фядотаву Буду супрацоўнікі змаглі запісаць выдатны фальклорны матэрыял і папоўніць фонды ўстановы каштоўнымі экспанатамі. Сваімі запісамі яны падзяліліся з латышскімі калегамі.

У Галічах ва ўтульнай хатцы, якая патанае ў кветцы, жыве сям'я Лейсмеераў — Артур Эдуардавіч і Алена Міхайлаўна. Яны больш як паўстагоддзя разам. Гаспадар распавёў нам пра звычаі і традыцыі, якія існуюць у Мызе (да нядаўняга часу яны з жонкай жылі там), музычныя інструменты, даваенных музыкаў. У двары мы ўбачылі касу і каромысел, выробленыя на латышскі манер.

Алена Міхайлаўна беражліва захоўвае ўзоры ткацтва і адзежы, таксама з латышскай атрыбутыкай, якія дасталіся ёй ад свекрыві. Дыван ручной работы, дывановыя накідкі ўпрыгожваюць іх дом. Частку рэліквій гаспадыня хаты перадала на захаванне ў раённы музей, каб іх маглі пабачыць і наступныя пакаленні.

*Радзіннае*

# Васіліскі і рыбы з пахам... агуркоў

З кожным годам расце колькасць тых, хто з задавальненнем вандруе па Беларусі, знаёміцца з гісторыяй, традыцыямі, дзіўнай прыродай, традыцыйным побытам вяскоўцаў. Усё гэта грэе сэрцы падарожнікаў і дае супакой для душы. На шчасце, у нас ёсць яшчэ што паглядзець.

**Раіса МАРЧУК**

"Не трэба нам бераг турэцкі", — сцвярджаюць аматары "ціхага" адпачынку, якія хоць раз пабывалі ў незвычайным месцы — "Галубовым садзе". Гэту дзяржаўную прыродаахоўную ўстанову стварылі на Глыбоччыне шэсць гадоў таму на базе гідралагічнага заказніка рэспубліканскага значэння "Возера Доўгае" для аховы ўнікальнага прыроднага комплексу, які ўключае садова-паркавы ансамбль "Галубоў сад", папуляцыі рэдкіх і знікаючых раслін і берагавы ўчастак возера Доўгае.

"Галубоў сад" займае тэрыторыю сядзібна-паркавага ансамбля, які ў XVIII — XIX стагоддзях належаў знатным шляхцічам Галубовічам. Іх уладанні вельмі ўдала ўпісаліся ў тутэйшы ландшафт. Дом стаяў на вяршыні ўзгорка, з усіх вокнаў адкрываўся цудоўны від на возера. Схілы, прарэзаныя тэрасамі, пакрывалі пладовыя і дэкаратыўныя дрэвы і хмызнякі. Сажалка злучалася пратокай з возерам. На жаль, ад сядзібнага дома і гаспадарчых пабудоў засталіся толькі падмуркі. Але захаваліся тэрасы, а ў былым парку — частка старых дрэў: 200-гадовыя дубы, ліпы, яблыні, клёны. Асабліва вабяць турыстаў два вязы з велізарнымі дупламі, у якіх могуць змясціцца некалькі чалавек.

Зачароўвае і возера Доўгае — самае глыбокае на Беларусі! Гэта акалічнасць збліжае яго з Байкалам. Як і незвычайная празрыстасць вады — да сямі метраў. І дзіўныя насельнікі — рэліктавыя расліны і жывёлы. Сустракаецца тут рэдкі вадзяны мох фанціналіс, які ўтварае плывучыя астравы. А вось рэліктавага рачка лімнокалянуса можна разглядзець толькі пад мікраскопам. Самая ж цікавая — рыба сняток, якую мясцовыя жыхары называюць "стынкой". Сняток — падвід азёрнай корушкі. Жыве гэта невялікая рыбка толькі ў чыстай вадзе. Цікавая яна тым, што яе цела амаль празрыстае з-за вялікай колькасці тлушчу, а свежавылаўленая рыбка пахне... агурком!

Падабенства з Байкалам дапаўняюць і шматлікія легенды пра возера, як старажытныя, так і сучасныя, але аднолькава неверагодныя. Так, мясцовыя жыхары распавядаюць, што возера насяляюць двухметровыя вадзяныя змеі, накшталт пітонаў, і нават... кракадзілы! Зразумела, за пітона можна прыняць гіганцкага вугра, які водзіцца ў Доўгім, а "кракадзіламі", верагодна, завуць буйных рэліктавых яшчарак — "васіліскаў", якія яшчэ ў XVI стагоддзі сустракаліся па ўсёй Беларусі і лічыліся святымі жывёламі, а цяпер захаваліся, напэўна, толькі тут. Ва ўсялякім разе, ёсць сведчанні дайвераў пра велізарныя падводныя норы. Зрэшты, гэтыя доўгінскія насельнікі, кім бы яны ні былі, паводзяць сябе мірна. А вось магнітныя анамаліі, калі стрэлка компаса круціцца, як звар'яцелая, на адным месцы, ніхто пакуль растлумачыць не змог. Як і ўтварэнне на дне роўных каменных пляцовак, якія выявілі таксама дайверы. Таямніцы возера чакаюць зацікаўленых даследчыкаў!

У ваколіцах можна назіраць птушак, занесеных у "Чырвоную кнігу": зімародка і вялікага крахаля, які гняздуецца на тэрыторыі заказніка. Ёсць і шматлікія вадаплаўныя птушкі. Усяго ў "Галубовым садзе" налічваецца больш як 70 відаў пярнатых.

Калі два гады таму на пасаду дырэктара заказніка прыйшоў Юрый Кміта, першае, што ён для сябе адзначыў: у заказніку катастрафічна не хапае месцаў для адпачынку.

— Пачалі з таго, што заказалі новыя альтанкі, сталы і лаўкі, устанавілі іх, выкасілі, дзе патрабавалася, траву, навялі элементарны парадак, — распавёў Юрый Бернардавіч. — А потым ужо пачалі браць сімвалічную плату за знаходжанне на абсталяваных стаянках. І трэба сказаць, такі адпачынак карыстаецца папулярнасцю як у сваіх, так і ў замежных вандроўнікаў.

У планах дырэктара — атрымаць ва ўласнасць заказніка амаль стогадовы цагляны млын, які стаіць у вёсцы Зябкі, непадалёк ад возера. У пачатку 50-х гадоў мінулага стагоддзя ў ім яшчэ малолі зерне, але ўжо некалькі дзесяцігоддзяў млын зусім не выкарыстоўваецца. Стары млын вельмі падыходзіць для стварэння турыстычна-экалагічнага цэнтра, дзе вандроўнікі маглі б спыніцца і пазнаёміцца з інфармацыяй пра гэты куток зямлі беларускай. Плюс гэта некалькі рабочых месцаў у глыбінцы.

— Падобны гасцявы цэнтр давялося бачыць у Рэспубліканскім біялагічным заказніку "Спораўскі" на Брэстчыне, і ён мяне прыемна ўразіў, — патлумачыў Юрый Кміта.— Адразу ўзнікла ідэя: чаму б і на Глыбоччыне, дзе так многа дзівосных месцаў, не стварыць штосьці падобнае.



*Возера Доўгае — прыгожае любою парой.*

# Лыжка на 12 літраў і для пахудзення

**Амаль 30 майстроў з васьмі раёнаў Міншчыны прыехалі ў Беразіно на Другое рэгіянальнае свята-конкурс "Бярэзінскія лыжкары".**

**Дар'я ШОЦІК, фота аўтара**

Горад Беразіно — адзін з культурных цэнтраў нашай краіны, менавіта тут створаны музей Драўлянай лыжкі, дзе захоўваюцца экспанаты, вырабленыя не толькі выдатнымі майстрамі Бярэзіншчыны, але і ўмельцамі Мінскай вобласці. У экспазіцыі прадстаўлена калекцыя вядомага лыжачніка Яўгена Осіпава, які ўзначальвае "каманду" лыжкароў у Бярэзінскім раёне. Многіх прываблівае лыжка-трыпіцс — сімвалізуе каханне і гармонію. Гонар музея — лыжка, разлічаная на 12 літраў вадкасці. На яе ручцы — герб Беразіно. Ёсць і лыжка для тых, хто хоча пахудзець, у форме вожыка.

*Аляксандр Іванейчык з Клецка працуе падчас свята.*

Каб яе зрабіць, Яўген Паўлавіч выкарыстаў больш як тысячу зубачыстак.

— Ніхто з маіх родзічаў не займаўся разьбой па дрэве, — прызнаўся Яўген Осіпаў. — Бацька славіўся тым, што быў добрым печнікам, дзядзька — сталяром і цесляром, дзед мэблю вырабляў.

Яўген Паўлавіч жыве ў вёсцы Лагі Бярэзінскага раёна, там жа працуе настаўнікам фізікі, астраноміі, інфарматыкі і малявання. Але гэта не перашкаджае захапленню. На свяце была прадстаўлена яго новая калекцыя. У асноўным майстар робіць лыжкі не для побытавага карыстання, а сувенірныя.

Але вернемся да конкурсу. На працягу трох гадзін майстры паказвалі свой талент і спрыт у разьбярскай справе. Старшыня Беларускага саюза майстроў народнай творчасці Яўген Сахута, які ўзначаліў журы, зазначыў, што "Бярэзінскія лыжкары" сталі своеасаблівым брэндам горада.

— У конкурсе ўдзельнічалі майстры, дзякуючы якім звычайная драўляная лыжка набыла высокі статус, — падкрэсліла намеснік дырэктара Мінскага абласнога цэнтра народнай творчасці Наталля Даўнаровіч. — Кожны выраб адлюстроўвае пачуцці, настрой, унутраны стан майстра.

Узялі ўдзел у конкурсе і прадстаўнікі народнай студыі мастацкага разьбярства па дрэве з Крупскага раёна. Кіраўнік студыі Аляксей Гарбуноў — маёр у адстаўцы, воін-інтэрнацыяналіст, ужо на пенсіі пачаў займацца разьбой. Члены гэтай суполкі прывезлі ў Беразіно не толькі непаўторна прыгожыя лыжкі, але і калекцыю фотаздымкаў, на якіх адлюстравана ўся дзейнасць студыі. Аляксей Аляксеевіч упэўнены, што разьба па дрэве — народны здабытак, які трэба захоўваць. Сваім талентам і ідэямі ён дзеліцца з вучнямі. Сярод іх — Улад Калмыкоў, Сяргей Казадоеў, Нікіта Будзько, Антон Снытко. Рамяством майстра захапілася адна з наведвальніц конкурсу Ірына Вайніловіч і нават вырабіла сваю першую лыжку!

Многім спадабалася лыжка Аляксандра Іванейчыка з Клецкага раёна, якая мае ручку ў выглядзе бусла.

Самым інтрыгуючым момантам стала заключная частка конкурсу, калі былі названы лепшыя майстры. У намінацыі "Творчае развіццё мастацкіх традыцый лыжкарскага рамяства і адаптацыя іх да сучаснага асяродка" перамог Яўген Осіпаў. Дыпломы І ступені за "Лепшыя хатнія калекцыі" атрымалі Васіль Мурашка і Аляксандр Іванейчык. Кіраўнік народнага клуба майстроў з Беразіно Ганна Ждановіч адзначана дыпломам "За захаванне і развіццё лыжкарскага майстэрства, арганізацыю пакоя-музея і ажыццяўленне праекта па стварэнні помніка Драўлянай лыжцы".

*Стваральнікі помніка Драўлянай лыжцы — Васіль Мурашка, Аляксандр Паскробка, Яўген Осіпаў.*

Прыемна, што ўсе работы майстры перадалі ў бярэзінскі музей, каб кожны змог пазнаёміцца з імі і ўпэўніцца: народныя традыцыі захоўваюцца і зберагаюцца.

Хутка ў Беразіно будзе ўсталяваны помнік Драўлянай лыжцы. Над самай вялікай лыжкай у Беларусі, а яе вышыня 3,5 метра, працавалі вядомыя майстры Яўген Осіпаў, Васіль Мурашка і Аляксандр Паскробка.

— Ідэю стварэння помніка выношвалі даўно, — зазначыла Ганна Ждановіч. — Будзе што паказаць турыстам, якія з задавальненнем наведваюць і музей Драўлянай лыжкі.

*Яўген Осіпаў з вёскі Лагі з лыжкай, на ручцы якой — герб Беразіно.*

## З глыбінкі

### «Завіталі» ў Сярэднявечча

Выстаўка малюнкаў навучэнцаў Капыльскай дзіцячай школы мастацтваў, прысвечаная 360-годдзю атрымання горадам Магдэбургскага права, праходзіць у Капыльскім раённым краязнаўчым музеі.

Юныя творцы рыхтавалі свае работы ў рамках конкурсу-пленэру "Мастакі Капыльшчыны", які ўжо другі год праводзіцца тут напярэдадні Міжнароднага дня музеяў. Летась гэта мерапрыемства было прысвечана ўраджэнцу горада, мастаку Уладзіміру Пасюкевічу.

"Сёлета хлопчыкі і дзяўчынкі адлюстравалі сваё бачанне значнай для тых часоў гістарычнай падзеі і занатавалі сюжэты і моманты, якія, на іх погляд, маглі адбывацца ў сярэднявечным мястэчку падчас надання яму гэтых прывілеяў, — зазначыла старшы навуковы супрацоўнік тутэйшага музея Таццяна Варанцова. — Малюнкі — вельмі розныя і шчырыя. На нашай выстаўцы прадстаўлена больш як дваццаць акварэльных работ і адзін графічны малюнак. Вынікі падводзіліся па трох узроставых катэгорыях: малодшая, сярэдняя і старэйшая групы. Магчыма, у будучым хтосьці з іх запаліць сваю зорку ў вялікім мастацтве".

**Святлана МІКАЛАЕВА, Капыльскі раён**

### Пабрацімы

Штогод Карэліччына прымае моладзевыя дэлегацыі з гарадоў-пабрацімаў Краснагорска (Расія), Тукумса (Латвія), Манькаўкі (Украіна). Вось і сёлета на адкрыты рэгіянальны фестываль моладзевай творчасці "Сяброўства без межаў" завіталі госці з Гродна, Ліды, Слоніма, Воранава і Краснагорска.

Спярша конкурс, якому больш як дзесяць гадоў, задумваўся як выключна гумарыстычны і праходзіў у фармаце КВЗ, аднак паступова творчыя межы пашыраліся. І сёння моладзь прыязджае, як кажуць, і з песнямі, і з танцамі.

Двухдзённая праграма фестывалю была дастаткова насычаная: тэатралізаваныя пастаноўкі, танцавальныя шоў, эстрадныя, народныя песні — далёка не поўны пералік убачанага гледачамі. А журы, узнагароджваючы пераможцаў, не забылася адзначыць і тое, што з кожным годам павышаецца выканальніцкае майстэрства ўдзельнікаў.

Акрамя самога фестывалю, па традыцыі для гасцей былі арганізаваны экскурсіі па г. п. Мір і Мірскім замку.

**Кацярына МАРОЗ, Карэліцкі раён**

## Афарызм

*Калі ж ты пераможаш многае, як перамог яго ён, Адамовіч, калі дамажашся сумленнай працай таго, чаго дамогся ён, тады нават і тыя, хто найбольш руплівa, яўна і тайна перашкаджаў табе, пачнуць раптам прыязна ўсміхацца, ахвотна ды падкрэслена згадваць сумленнасць ды аб'ектыўнасць, а раўнадушныя скажуць: "Во як шанцуе!.."*

**Янка БРЫЛЬ**

ЛіМ

Выходзіць з 1932 года
У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў
Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, ГА "Саюз пісьменнікаў Беларусі", РВУ "Літаратура і Мастацтва"

Галоўны рэдактар Таццяна Мікалаеўна СІВЕЦ



Юрыдычны адрас:
220034, Мінск,
пр. Незалежнасці, 39, п. 4а
Адрас для карэспандэнцыі:
220034, Мінск, вул. Захарава, 19
Тэлефоны:
галоўны рэдактар — 284-66-73
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
Аддзелы:
публіцыстыкі — 284-66-71
крытыкі і бібліяграфіі — 284-44-04
прозы і паэзіі — 284-44-04
мастацтва — 284-82-04
навін — 284-44-04
аддзел "Кніжны свет" — 284-66-71
бухгалтэрыя — 284-66-72
Тэл./факс — 284-66-73
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у Інтэрнэце:
www.lim.by



Набор і вёрстка камп'ютарнага цэнтра РВУ "Літаратура і Мастацтва".
Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.
Выдавец:
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова "Літаратура і Мастацтва".
Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства
"Выдавецтва "Беларускі Дом друку"
г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 63856
Кошт у розніцу — 2700 рублёў
Наклад — 2760
Умоўна друк. арк. 5,58
Нумар падпісаны ў друк 6.09.2012 у 11.00
Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7 ад 22.07.2009 г.
Заказ — 4075
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
ISSN 0024-4686
12036
9 770024 468001